...етары ўсіх краін, злучайцеся!
פראָלעטאריער פֿון אלע לענדער פֿאראייניקט זיך!
Proletarjusze wszystkich krajów, łączcie się!
Пролетарии всех стран, соединяйтесь!

---

# ПРАКТЫЧНАЕ ВЫРАШЭНЬНЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПЫТАНЬНЯ

## Ў БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІЦЫ

### ДА Х ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКАВАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

**Частка I**

## БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ

*На падставе даных з матар'ялаў Нацыянальнай Камісіі ЦВК БССР*

ВЫДАНЬНЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ ЦВК БССР
МЕНСК — 1928

# ПРАКТЫЧНАЕ ВЫРАШЭНЬНЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПЫТАНЬНЯ

## Ў БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІЦЫ

### ЧАСТКА I

### *БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ*



*На падставе даных з матар'ялаў*
*Нацыянальнай Камісіі ЦВК БССР*



ВЫДАНЬНЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ ЦВК БССР
МЕНСК—1928

## ПРАДМОВА.

Працоўныя БССР сумесна з працоўнымі ўсяго нашага Саюзу сьвяткуюць у бягучым 1927 годзе дзесяцігодзьдзе Кастрычнікавай Рэвалюцыі і падагульваюць дасягненьні ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва.

Вырашаючы практычна нацыянальнае пытаньне ў Беларусі, Савецкая Ўлада лічыць неабходным падагуліць да 10-ці годзьдзя Кастрычніка дасягненьні нашае працы ў гэтай галіне.

Царская палітыка на Беларусі пакінула ў спадчыну гаспадарчую і культурную адсталасьць. Гэтая адсталасьць залежала ад асобнай палітыкі царскага ўраду як у адносінах да эканомікі, так і ў адносінах да культуры Беларусі. Імпэрыялістычная і грамадзянская войны, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі, злучаныя з гэтымі войнамі акупацыі (нямецкая і польская), а таксама бандытызм,—гэтую адсталасьць яшчэ больш паглыбілі.

У зьвязку з гэтымі гістарычнымі ўмовамі, а таксама дзякуючы спэцыяльнай царскай палітыцы,—на Беларусі засталіся нацыянальныя супярэчнасьці, істота якіх палягае на тым, што нацыянальныя і сацыяльныя адзнакі шчыльна перапляліся і ўтварылі становішча, пры якім разьвіліся нацыянальныя забабоны, адасобленасьць і варожасьць паміж горадам і вёскай (русіфікацыя працоўнага насельніцтва гарадоў у той час, як вёска заставалася ў масе беларускай).

З мэтаю замацаваньня кіруючай ролі рабочае клясы, павялічэньня актыўнасьці і ўцягненьня шырокіх масаў працоўных у палітычнае, гаспадарчае і культурнае будаўніцтва, а таксама маючы на мэце кіраўніцтва культурным будаўніцтвам і разьвіцьцём нацыянальнай культуры, перад Камуністычнай партыяй і Савецкай Уладай паўстала задача: прыстасаваць дзяржаўны апарат, школу, мастацтва, літаратуру—да абслугоўваньня асноўнай масы насельніцтва на яго роднай беларускай мове.

Маючы ўсе вышэй зазначанае на ўвазе, Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі падала лёзунг ажыцьцяўленьня—беларусізацыі.

Правільнае правядзеньне беларусізацыі і каранізацыі, пры адначаснай асаблівай ўвазе да фактычнага забясьпечаньня патрэбаў працоўных нацыянальных меншасьцяй,—утварыла тую базу, на якой зьнішчаюцца гістарычна склаў-

шыяся нацыянальныя забабоны, супярэчнасьці і адасабленасьць. Гэтыя мерапрыемствы зьявіліся рашучым фактарам у справе зближэньня працоўных усіх нацыянальнасьцяй і выкоўваньня іх клясавага адзінства, разьбіваючы пры гэтым імкненьне буржуазных элемэнтаў—вясьці за сабою працоўных пад сваім лёзунгам «нацыянальнага адзінства».

Брашура «Практычнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня ў БССР» будзе выдана ў 2-х частках. Гэтая, першая частка данай брашуры прысьвечана агляду дзейнасьці ў галіне беларусізацыі. Другая частка—будзе прысьвечана агляду працы сярод іншых нацыянальнасьцяй Беларусі.

Выдаючы гэтую брашуру мы маем на ўвазе азнаямленьне савецкай грамадзкасьці з дасягненьнямі Савецкае Ўлады ў галіне беларусізацыі, як часткі вялікіх дасягненьняў наогул у правядзеньні нацпалітыкі ў БССР.

Зусім зразумела, што праводзячы гэтакую вялізьняю працу магчымы, а часам нават і няўхільны, памылкі і недахопы, бо труднасьці ў гэтай галіне працы яшчэ вельмі значныя.

Наша далейшая праца ў галіне беларусізацыі павінна заключацца перадусім у пакананьні труднасьцяй і зьнішчэньні недахопаў і памылак.

Нацкамісія ЦВК БССР лічыць неабходным зазначыць пры гэтым, што асновай дасягнутых ужо посьпехаў, а таксама вернай гарантыяй далейшых дасягненьняў у галіне практычнага вырашэньня нацыянальнага пытаньня—зьяўляецца кіраўніцтва гэтай працай—авангарду пралетарыята—Камуністычнай Партыяй (бальшавікоў) Беларусі.

**А. Хацкевіч.**

30 верасьня 1927 г.
г. Менск.

# I.

# Існасьць нацыянальнага пытаньня ў БССР.

## *(Кароткі гістарычны нарыс).*

**Першае**,—што вызначае існасьць нацыянальнага пытаньня ў БССР—гэта гаспадарчая адсталасьць і дэзарганізацыя, якія ўтвораны ўсёй дарэвалюцыйнай гісторыяй краю і пэрыодам, калі праз край некалькі разоў праходзіў фронт імпэрыялістычнай і грамадзянскай войн, і якія ў значнай меры ўзмоцнены прыроднымі ўмовамі БССР (балоты, бедная глеба пры малазямельлі).

**Другое**,—культурная адсталасьць, якая, з аднаго боку, спадарожнічае нізкаму ўзроўню дабрабыту і быту насельніцтва, з другога,—абумоўлена ўсёй палітыкай царскага ўраду задушэньня беларускай культуры, уціску мовы, літаратуры; тое самае адносіцца і да польскага і яўрэйскага насельніцтва краю.

**Трэцяе**,—нацыянальныя супярэчнасьці ў БССР, якія заключаюцца ў тым, што нацыянальныя і сацыяльныя адзнакі, у зьвязку з гістарычнымі ўмовамі, шчыльна перапляліся, адлажыўшы тоўсты слой нацыяналістычных забабонаў, адасобленасьці і варожасьці і, што асабліва важна,—аддзяляўшы горад ад вёскі куды больш гостра, чымся ў іншых раёнах Саюзу.

(З рэзалюцыі пленуму ЦК КП(б)Б—студзень 1925 году).

Камуністычная партыя кладзе ў аснову нацыянальнай палітыкі—права нацый на самавызначэньне. Кастрычнікавая Рэвалюцыя ў Расіі на справе ажыцявіла гэтае права нацый на самавызначэньне. Апроч гэтага Кастрычнікавая Рэвалюцыя падрыхтавала прыгнечаным царызмам народам б. Расійскай імпэрыі магчымасьць братэрскага супрацоўніцтва і аб'яднаньня працоўных масаў народаў.

Канкрэтныя формы братэрскага супрацоўніцтва працоўных масаў савецкіх рэспублік апрацаваны на аснове лёзунга Кампартыі аб праве нацый на самавызначэньне ўключна да аддзяленьня.

Дзяржаўнай формай гэтага супрацоўніцтва народаў зьяўляецца Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

### Беларуская мова перад Кастрычніковай Рэвалюцыяй.

Ня гледзячы на векавое прыгнечаньне Беларусі зпачатку Польшчай, потым Расіяй, працоўныя масы Беларусі,—асабліва-ж працоўнае сялянства,—захавалі сваю мову, быт і куль-

туру да хвілі рашучай барацьбы за сваё вызваленьне, г. зн. да хвілі Кастрычнікавай Рэвалюцыі.

Тэрыторыя сучаснай Беларусі ў пачатку IX-X стагодзьдзя была заселена наступнымі славянскімі племеньнямі: дрэгавічамі, радзмічамі і, часткова,—крывічамі (смаленскія і полацкія крывічы). Гэтыя тры славянскія племеньні і склалі беларускую нацыю з агульнай для іх беларускай мовай.

У XIII-XIV ст. ст. Беларусь падпадае пад уладу выступіўшай на гістарычны шлях ваяўнічай Літвы. Да гэтага-ж часу, паводле доказаў усіх вучоных дасьледчыкаў беларускай мовы (акадэмік К. Карскі, Ал. Потэбня, В. Ламанскі, А. Шахматаў, П. Растаргуеў) адносіцца канчатковае фармаваньне беларускай мовы.

«Магчыма прыняць, што беларуская мова, як гэтакая, склалася толькі да XV стагодзьдзя і, такім чынам, толькі ад гэтага часу магчыма гаварыць аб беларускай мове». (Праф. П. Растаргуеў, Курс беларусазнаўства, стар. 249).

«Ад гэтага часу (ў канцы XIV стаг.) кладзецца трывалая падстава дзеля тэй расійскай народнасьці, якая да гэтага часу была вядома пад назвай—беларуская. Самая мова гэтай народнасьці, ўжо зусім склаўшаяся да гэтага часу ў галоўных асаблівасьцях, можа быць названа—беларускай». (Акадэмік К. Карскі, т. I, стар. 113-114).

Беларуская мова і наогул беларуская культура распаўсюджвалі паступова ў гэты час свой ўплыў і на літоўцаў. Пры Альгэрдзе літоўскі ўрад палічыў неабходным прызнаць беларускую мову афіцыйнай мовай Літоўска-Беларускай Дзяржавы. На гэтай мове ад гэтага часу пісаліся ўсе ўрадавыя акты (у прыватнасьці—Літоўскі Статут). Навучаньне пісьменнасьці праводзілася пераважна таксама на беларускай мове. Паводле даных, якія існуюць у працах П. Бэсонава (беларускія песьні, стар. 1), беларуская мова ў Літоўска-Беларускай Дзяржаве зьяўлялася «цивилизующим началом», гэтая мова мела ўплыў: «на хатнюю гутарку, на грамадзкую мову, на пісарства ўсіх грамадзкіх, а таксама і дзяржаўных спраў, на першыя школы на царкоўныя сьпевы і мову царквы».

Лёс беларускае мовы знаходзіцца ў самай цеснай сувязі з гісторыяй беларускага народу. У так званы польскі пэрыод беларускай гісторыі, калі Літва разам з Беларусьсю знаходзіліся пад польскім панаваньнем, беларуская мова паступова выціскалася з ужываньня польскай мовай. Палякі лічылі беларускую мову—мовай «хамскай». Працоўныя масы, пераважна сялянства, зьяўляліся адзінымі ахоўнікамі беларускай мовы, бо полёнізацыя ахоплівала, галоўным чынам, непрацоўныя слаі грамадзянства: абшарнікаў, чыноўнікаў, дробную беларускую шляхту. Аднак нельга зусім не прызнаваць уплыву польскай мовы ў гэты час на беларускую мову

наогул. У беларускую мову за гэты пэрыод гісторыі Беларусі ўваходзіць шэраг полёнізмаў.

У канцы XVIII стагодзьдзя (паддзелы Польшчы) Беларусь была далучана да Расіі. Ад гэтага часу ў Беларусі замест польскага ўплыву, пачынае ўзмацняцца ўплыў расійскай культуры. Беларуская мова пачынае аслабаняцца ад полёнізмаў, але замест іх у беларускую мову, праз расійскую школу, адміністрацыю, салдацкую казарму і папоў,—ўваходзяць русіцызмы. Царскі ўрад адносна беларускай мовы стасаваў у Беларусі жорсткі прыгон, трымаючыся, як і палякі, таго погляду, што беларуская мова зьяўляецца «хамскай мовай». Царскі ўрад выдаў спэцыяльныя загады, якімі беларуская мова была абвешчана мовай забароненай да ўжываньня ва ўрадовых установах і школах.

Расійскае чыноўніцтва, а разам з ім і папы заўзята праводзілі ў Беларусі гэтыя царскія распараджэньні, і на працягу стагодзьдзяў з пагардай адносіліся да беларускай мовы, называючы яе мовай «мужыцкай».

Толькі беларускія працоўныя масы, асабліва сяляне, ў пераважнай сваёй большасьці няпісьменныя (да 80 проц.) карысталіся пры царызьме беларускай мовай і захавалі беларускую мову, ня гледзячы на мнагавечны прыгон.

Аднак, у зьвязку з прыгонным становішчам беларускага народу пры царскім урадзе, дзякуючы паневяраньню беларускай мовы, нават забароне карыстацца беларускай мовай, а таксама пад уплывам полёнізмаў і русіцызмаў, якія ўвайшлі ў беларускую мову,—апошняя пачала траціць сваю самабытнасьць. Усё гэта не магло не зрабіць уплыву на сялянскую масу.

Гэтая сялянская маса,—якая ў даваенны час складалася з людзей на 80 проц. няпісьменных, а калі і пісьменных, дык такіх, якія прайшлі праз расійскую школу з русіфікатарскім напрамкам,—не магла пры такіх умовах у пэўнай сваёй частцы захаваць належныя адносіны да сваёй роднай мовы. Частка сялян, асабліва тыя з іх, якія пабылі ў школе, альбо жылі ў горадзе, пачынала нават сароміцца гаварыць на сваёй роднай беларускай мове.

Дзякуючы перамогам Кастрычнікавай Рэволюцыі няма больш у Беларусі «хамскай», «мужыцкай» мовы, а ёсьць беларуская дзяржаўная мова Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі.

## Яўрэйская і польская мовы ў Беларусі перад Кастрычнікавай Рэвалюцыяй.

Амаль у такім жа становішчы, як і беларуская мова, знаходзілася пры царызьме і мова яўрэйская.

Праводзячы палітыку прыгону, царскі ўрад не даваў магчымасьці разьвівацца і яўрэйскай мове. Урадавых яўрэйскіх школаў амаль зусім ня было. Прыватныя яўрэйскія школы (хэдэр) мелі, ў пераважнай сваёй большасьці, рэлігійны характар. Існаваўшыя ў гарадох прыватныя яўрэйскія гімназіі, «прогімназіі» і рэальныя школы вялі выкладаньне на расійскай мове. У гэты« навучальных установах, у зьвязку з высокай платай за права вучэньня, вучыліся, амаль выключна, дзеці яўрэйскай буржуазіі. Над яўрэйскім насельніцтвам вісела таксама, як дамоклаў меч, працэнтная норма ў расійскіх навучальных установах. Пры гэтакіх умовах аб разьвіцьці яўрэйскай мовы і культуры гаварыць ня прыходзілася.

Навучаньне ў школах польскай мове царскім урадам таксама не дазвалялася. Дзеці палякаў маглі вучыцца польскай мове толькі ў нелегальных, або т. зв. «патаемных школах». У гэтых школах настаўнікамі былі пераважна польскія ксяндзы, якія вучылі дзяцей закону божаму—катыхізме.

Кастрычнікавая Рэвалюцыя дала поўную магчымасьць яўрэйскаму і польскаму насельніцтву свабодна карыстацца роднай мовай ў школах і ўрадавых установах.

## Кастрычнікавая Рэвалюцыя прынесла Беларусі сацыяльнае і нацыянальнае раскрэпашчэньне.

Кастрычнікавая рэвалюцыя 1917 году дала магчымасьць бальшавіцкай партыі ажыцьцявіць на практыцы адзін з сваіх асноўных лёзунгаў ў галіне нацыянальнай палітыкі. У 1919 г. Савецкая Улада дала Беларусі дзяржаўную самастойнасьць у форме Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. На працягу пэўнага часу Савецкая Беларусь існавала аб'яднаўшысь з Савецкай Літвой (Літбел). У гэтым жа 1919 г. польская акупацыя Беларусі, а таксама ўтварэньне буржуазіяй «літоўскай дэмакратычнай» рэспублікі, палажылі канец гэтаму аб'яднаньню.

Пасьля вызваленьня ў 1920 годзе ўсходняй Беларусі ад белапалякаў, Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка складалася з 6 паветаў б. Менскай губэрніі. Праз нейкі час працоўныя Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Гомельшчыны, дзе большасьць насельніцтва складаюць беларусы,—высунулі перад Савецкай Ўладай пытаньне аб далучэньні пэўных частак гэтых губэрній да БССР.

Першае пашырэньне тэрыторыі Беларусі адбылася ў 1924 г. коштам Віцебскай і Магілёўскай губ. Горад Гомель і два паветы Гомельшчыны далучаны былі да БССР ў 1926 г.

Дзякуючы кіраўніцтву Камуністычнай Партыі і дапамозе СССР, працоўныя Савецкай Беларусі, аб'яднаўшыся ў дружную сям'ю нацыянальнасьцяй, аднавілі разбураную акупан-

тамі, імпэрыялістычнай і грамадзянскай войнамі і бандытызмам, гаспадарку, накіраваўшы разьвіцьцё яе па шляху сацыялістычнага будаўніцтва.

У пачатку існаваньня Савецкай Беларусі ўрад ва ўсёй поўні паставіў пытаньне аб фактычным ажыцьцяўленьні роўнапраўства ўсіх нацыянальнасьцяй.

Пад гэтым пунктам гледжаньня Ўрад БССР праводзіў ў далейшым сваю дзейнасьць у галіне практычнага вырашэньня нацыянальнага пытаньня. Гэтая дзейнасьць Ураду нахсдзіць свой адбітак у цэлым шэрагу пастаноў, законаў і інш.

У асноўным дзяржаўным законе—Канстытуцыі БССР—гаварыцца, што на тэрыторыі Беларусі мовы: беларуская, яўрэйская, польская і расійская зьяўляюцца мовамі роўнапраўнымі. Аднак, дзякуючы значнай перавазе ў БССР насельніцтва беларускай нацыянальнасьці, беларуская мова выбіраецца як мова пераважная для зносін паміж дзяржаўнымі, прафэсыянальнымі і грамадзкімі ўстановамі і арганізацыямі.

У разьвіцьцё гэтага асноўнага палажэньня выданы шэраг законаў, пастаноў і распараджэньняў. Кожны грамадзянін БССР можа зьвяртацца ва ўсе дзяржаўныя і грамадзкія ўстановы на аднэй з чатырох мясцовых моваў і яму павінны даць адказ на тэй мове, на якой ён зьярнуўся ва ўстанову. У зьвязку з гэтым супрацоўнікі ўсіх устаноў ў БССР падбіраюцца з такім разьлікам, каб кожная ўстанова мела магчымасьць абслугоўваць паасобныя нацыянальнасьці БССР на іх роднай мове.

---

II.

## Беларусізацыя і каранізацыя па савецкай, прафсаюзнай і каапэрацыйнай лініям.

### Задачы беларусізацыі і падрыхтоўчыя мерапрыемствы да яе ажыцьцяўленьня.

Самай актуальнай задачай Камуністычнай Партыі і Савецкай Ўлады, у галіне нацыянальнай палітыкі ў БССР, зьяўляецца пытаньне аб беларусізацыі.

Пад беларусізацыяй ў шырокім сэнсе гэтага слова належыць разумець:

1) разьвіцьцё беларускай культуры (школы, вышэйшыя навучальныя ўстановы на беларускай мове, беларуская літаратура, выданьне беларускіх кнігаў, навукова-дасьледчая праца па ўсебаковаму вывучэньню Беларусі і г. д.);

2) вылучэньне беларусаў на партыйную, савецкую, прафэсыянальную і грамадзкую працу;

3) перавод працы партыйнага, дзяржаўнага, прафэсыянальнага, каапэрацыйнага апаратаў і часьцей Чырвонае Арміі на беларускую мову.

У рэзалюцыі Пленуму ЦК КП(б)Б (студзень 1925 г.) па пытаньні «Чарговыя задачы КП(б)Б у нацыянальнай палітыцы»—так і зазаначана: «асноўным пытаньнем беларусізацыі зьяўляецца пытаньне аб беларускай мове». Пралетарыят Беларусі, без ведаў беларускай мовы, у кіраваньні большасьцю насельніцтва БССР—сялянствам і ў набліжэньні да яго апарату Савецкай Ўлады—адчуваў бы значныя труднасьці. Пагэтаму XII Ўсебеларуская партыйная конфэрэнцыя (сакавік 1923 г.) у сваёй рэзалюцыі па нацыянальным пытаньні пастанавіла: «Камуністычная Партыя ў поўнай згодзе з сваёй праграмай, ў галіне нацыянальнага пытаньня павінна зрабіць усе захады да наладжваньня працы на беларускай мове, ўтвараючы нармальныя ўмовы для разьвіцьця беларускай культуры».

Усебеларускі Зьезд Саветаў (сьнежань 1920 г.), а потым 2-я Сэсія ЦВК БССР (люты 1921 г.), пастанавілі зрабіць усе захады да ўзмацненьня працы на мове пераважнай большасьці працоўнага сялянства Беларусі—на мове беларускай; перавесьці паступова ўсе навучальныя ўстановы, дзе вучацца дзеці-беларусы, на іх матчыную (беларускую) мову выкладаньня; разьвіць узмацнёную працу па падрыхтоўцы настаўнікаў, якія-б маглі выкладаць на беларускай мове; адчыніць у Менску і ў іншых гарадох шэраг беларускіх курсаў па перападрыхтоўцы настаўнікаў, і пэдагагічныя ўстановы, якія-б рыхтавалі для школ настаўнікаў. Згодна гэтым пастановам у школах, дзе вучацца дзеці-беларусы, выкладаньне ўсіх прадметаў павінна была быць пераведзена на беларускую мову. Ва ўсіх навучальных установах, незалежна ад мовы выкладаньня ў іх, уводзілася абавязковае выкладаньне беларускай мовы, як асобнага прадмету. Выданьне падручнікаў, навукова-папулярнай і палітычнай літаратуры на беларускай мове было прызнана ўдарнай задачай. Былі асыгнаваны сродкі на выдачу прэмій ўкладчыкам лепшых падручнікаў на беларускай мове. Для павялічэньня колькасьці школьных працаўнікоў-беларусаў былі зроблены захады дзеля адкамандываньня гэтых працаўнікоў з тых установаў, дзе гэтыя працаўнікі выкарыстоўваліс не па сваёй спэцыяльнасьці. Было ўзбуджана хадайнічаньне перад Рэўваенсаветам Рэспублікі аб адкамандываньні настаўнікаў-ураджэнцаў Беларусі—з шэрагаў Чырвонай Арміі. Наркамасьветы Беларусі хадайнічаў перад Наркамасьветы РСФСР распараджэньне аб адкамандываньні ў Беларусь усіх настаўнікаў-ураджэнцаў Беларусі. Былі асыгнаваны сродкі на выдачу пад'ёмных культурным працаўнікамі, якія варочваліся ў Беларусь. Былі зроблены захады да ўтварэньня ў Менску

Дзяржаўнага Беларускага Ўнівэрсітэту. ЦВК Беларусі зьвярнуўся да вучоных, літаратараў, настаўнікаў і да ўсіх культурных працаўнікоў-ураджэнцаў Беларусі, з спэцыяльнай адозвай, ў якой ад імя працоўных Беларусі заклікаў гэтых культурных працаўнікоў прыняць удзел у культурным будаўніцтве Савецкай Беларусі.

Дзеля ўзмацненьня ўплыву Кампартыі на масы і замацаваньня саюзу рабочых з сялянствам, Пленум ЦК КП(б)Б вынес пастанову: «Уся КП(б)Б павінна гаварыць на беларускай мове».

### Агульныя даныя аб нацыянальным складзе насельніцтва БССР.

Паводле даных перапісу 1897 г., частковых перапісаў 1917 і 1923 г. г. і агульна адміністрацыйнага вучоту на 1-е студзеня 1925 г., нацыянальны склад насельніцтва БССР без Гомельшчыны, выяўляецца ў наступным выглядзе:

| Нацыянальнасьць | 1897 г. усё насельніцтва %% | 1923 г. гарадзкога насельн. %% | 1925 г. сельск. насельн. %% | 1923-1925 гг. усё насельніцтва %% |
|---|---|---|---|---|
| Беларусы . . . | 78,2 | 40,7 | 89,3 | 82,1 |
| Расійцы і ўкраінцы. | 04,9 | 10,6 | 02,3 | 03,4 |
| Палякі. . . . | 02,3 | 02,5 | 02,3 | 02,3 |
| Яўрэі . . . . | 13,7 | 44,1 | 04,7 | 10,6 |
| Інш. нацыянальн. . | 09,9 | 02,1 | 01,4 | 01,6 |

На падставе перапісу 1926 г. насельніцтва БССР разам з Гомельшчынай, паводле нацыянальнага складу, разьмяркоўваецца наступным парадкам:

| Нацыянальн. | Сельскае насельн. | | Гарадзк. насельн. | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць | %% | Колькасьць | %% | Колькасьць | %% |
| Беларусы . . | 3.684.441 | 89,10 | 332.860 | 39,26 | 4.017.301 | 80,62 |
| Яўрэі . . . | 66,897 | 01,60 | 340.162 | 40,12 | 407.059 | 08,19 |
| Расійцы . . . | 251.603 | 06,10 | 132.203 | 15,60 | 383.806 | 07,70 |
| Палякі . . . | 77.833 | 01,86 | 19.665 | 02,32 | 97.498 | 01.96 |
| Латышы. . . | 10.869 | 00,25 | 3.192 | 00,37 | 14.061 | 00,28 |
| Літоўцы . . . | 4,745 | 00.11 | 2.118 | 00,25 | 6.863 | 00,14 |
| Украінцы . . | 27.263 | 00,70 | 7 418 | 00,87 | 34.681 | 00,69 |
| Немцы . . . | 4.757 | 00,11 | 2.318 | 00,26 | 7.075 | 00,15 |
| Татары . . . | 558 | 00,01 | 3.219 | 00,38 | 3.777 | 00,07 |
| Цыганы . . . | 2.198 | 00,05 | 168 | 00,02 | 2.366 | 00,05 |
| Эстонцы. . . | 716 | 00,02 | 251 | 00,03 | 967 | 00,02 |
| Іншыя. . . | 3.530 | 00,09 | 4,256 | 00.52 | 7.786 | 00,13 |
| РАЗАМ . . | 4.135.410 | 100 | 847.830 | 100 | 4.983.240 | 100 |

## Беларусізацыя савецкага апарату.

Да 1924 году ў галіне пераводу дзелаводзтва на нацыянальныя мовы, ў рэспубліканскіх і мясцовых установах, за выключэньнем Наркамасьветы і яго аддзелаў на мясцох, амаль ніякія пачынаньні нідзе не рабіліся. Праўда, Наркамзем яшчэ ў 1920 годзе рабіў спробы пераводу дзелаводзтва на беларускую мову; дзеля гэтай мэты былі нават адчынены курсы па вывучэньню супрацоўнікамі беларускай мовы. Аднак, праз нейкі час і гэты пачын заглохнуў. Такое становішча ў пытаньні аб беларусізацыі тлумачылася цяжкім эканамічным становішчам БССР і лютаваўшым тады бандытызмам, які высоўваў перад рабочай клясай і Камуністычнай Партыяй заданьне непасрэднага замацаваньня дыктатуры пралетарыяту.

Толькі ад 1924 году пачынаецца актыўнае плянавае правядзеньне беларусізацыі.

На II Сэсіі ЦВК БССР 15-га ліпеня 1924 году быў прыняты плян практычных мерапрыемстваў па ажыцьцяўленьні нацпалітыкі наогул і—ў прыватнасьці—аб беларусізацыі. Сэсія ЦВК вызначыла акрэсьленыя тэрміны пераходу працы ўстаноў і абслугоўваньня імі насельніцтва—на беларускую мову.

Дзеляназіраньня за выкананьнем пастаноў Ураду па нацпытаньні, а таксама для вывучэньня і распрацоўкі практычных мерапрыемстваў па правядзеньню нацыянальнай палітыкі, пастановай Прэзыдыуму ЦВК БССР у 1924 годзе была арганізавана Камісія па ажыцьцяўленьні нацыянальнай палітыкі. Спэцыяльнай камісіі па беларусізацыі ў БССР—няма; працу ў гэтай галіне, а таксама працу сярод нацыянальных меншасьцяй аб'ядвае адзіная ўстанова—Нацыянальная Камісія ЦВК БССР. Аналёгічныя камісіі былі ўтвораны і ў акругах пры акруговых выканаўчых камітэтах.

Як Нацкамісія ЦВК, так і акруговыя нацкамісіі,—ў якасьці сталых штатных працаўнікоў,—маюць толькі адказных сакратароў, ўся-ж бягучая праца гэтых камісій выконваецца апаратамі адпаведных выканкомаў.

## Нацыянальны склад савецкага апарату.

Насычанасьць устаноў Рэспублікі супрацоўнікамі з мясцовых караных нацыянальнасьцяй характарызуюцца наступнымі табліцамі:

| УСТАНОВЫ | Насычанасьць апаратаў работнікамі розных нацыянальнасьцяй у 1925 годзе | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| Цэнтральныя . . | 51,3 | 13,5 | 27,8 | 03.2 | 04,2 |
| Акругов. і раённыя . | 69,3 | 12,7 | 09,4 | 03,7 | 04,9 |
| Цэнтральныя, акруговыя і раённыя разам . . . | 59.8 | 13.1 | 19.1 | 03,4 | 04,6 |

## Нацыянальны склад працаўнікоў цэнтральных савецкіх установ [1]).

| УСТАНОВЫ | Нацыянальны склад на 1927 год у $^0/^0{}^0/_0$ | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| | Адказныя працаўнікі | | | | |
| Адміністрацыйныя . | 51,3 | 18,0 | 24.8 | 00,1 | 05,8 |
| Гаспадарчыя . . | 30,8 | 13,1 | 49,3 | 01 | 05,7 |
| Судовыя . . . | 26,3 | 21,1 | 42,1 | — | 11,5 |
| Зямельныя . . . | 59,5 | 24,1 | 10,1 | — | 06,3 |
| | Тэхнічныя працоўнікі: | | | | |
| Адміністрацыйныя . | 64,0 | 05,4 | 22,9 | 02,6 | 05,1 |
| Гаспадарчыя . . | 39,6 | 11,5 | 42,7 | 01,4 | 05,1 |
| Судовыя . . . | 40,6 | 16,3 | 35,1 | — | 08,0 |
| Зямельныя . . . | 59,6 | 12.9 | 16,9 | 02,4 | 08,2 |

## Нацыянальны склад Міліцыі БССР.

| ТЭРМІНЫ: | Беларусы | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
|---|---|---|---|---|---|
| | У $^0/_0$ $^0/_0$ | | | | |
| На 1 лютага 1925 г. . | 64,5 | 20,3 | 05,5 | 01,7 | 08,0 |
| На 1927 г. . . . . | 73,1 | 14,6 | 06,0 | 02,4 | 03,9 |

[1]) даныя ўзяты, прыблізна, з $65^0/_0$ установ.

## Нацыянальны склад акруговых савецкіх апаратоў.
### (*у красавіку 1927 г.*).

| Установы і катэгорыя працаўнікоў | У процантах | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| *Адміністр. ўстан.* | | | | | |
| Адказныя прац. . . . | 60,1 | 12,6 | 19,1 | 04,2 | 04,0 |
| Тэхнічныя прац. . . . | 61,4 | 10,6 | 22,3 | 01,9 | 03,8 |
| *Зямельныя ўстан.* | | | | | |
| Адказныя прац. . . . | 77,3 | 11,3 | 08,2 | 02,1 | 01,1 |
| Тэхнічныя „ . . . | 75,8 | 07,0 | 11,7 | 00,8 | 04,7 |

## Нацыянальны склад раённага адміністрацыйнага апарату.
### (*у красавіку 1927 г.*).

| У процантах | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Беларусы | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| 79,2 | 05,8 | 11,2 | 01,4 | 02,4 |

## Нацыянальны склад судовых працаўнікоў на мясцох
### (*у красавіку 1927 г.*).

| Суды і катэгорыі працаўнікоў | У процантах | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| *Акругов Суды:* | | | | | |
| Адказныя працаўнікі . | 66,2 | 08,7 | 16,5 | 00,9 | 07,7 |
| Тэхнічныя працаўнікі . | 64,5 | 03,8 | 23,2 | 00,9 | 07,6 |
| *Народн. Суды.* | | | | | |
| Адказныя працаўнікі . | 69,1 | 07,6 | 19,1 | 02,7 | 01,5 |
| Тэхнічныя „ . . | 71,7 | 01,9 | 21,6 | 02,4 | 02,4 |

Нацыянальны склад: аграномаў, лесаводаў, каморнікаў і працаўнікоў народнай сувязі.

(У красавіку 1927 году).

| Катэгорыі і групы працаўнікоў. | У процантах | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| Аграномы, лесаводы і каморнікі . . . . . | 75,6 | 13,5 | 05,4 | 00,6 | 04,9 |
| *Працаўнікі народнай сувязі:* | | | | | |
| Адказныя . . . . . . | 78,0 | 13,8 | 04,3 | 01,0 | 02.9 |
| Тэхнічныя . . . . . . | 85,5 | 06,1 | 04,3 | 00,6 | 03,6 |

**Перашкоды ў працы па беларусізацыі і мерапрыемствы ў справе зьнішчэньня гэтых перашкодаў.**

З паданых вышэй табліц мы бачым, што процант працаўнікоў беларусоў ва ўстановах быў пераважны, аднак беларусізацыю апарату вельмі трудна было ажыцьцявіць тэхнічна ў зьвязку з тым, што зусім ня было аднастайнай юрыдычнай і наогул канцэлярскай беларускай тэрміналёгіі. Значнай перашкодай на шляху да беларусізацыі зьяўляліся русіфікатарскія тэндэнцыі і адносіны да беларускай мовы, як да «выдуманай», захаваўшыяся сярод некаторых працаўнікоў, галоўным чынам з б. чыноўніцтва.

Ня гледзячы, аднак, на зазначаныя вышэй труднасьці неабходна канстатаваць шэраг посьпехаў ў галіне ажыцьцяўленьня нацпалітыкі, дасягнутых дзякуючы рашучым і своечасовым мерапрыемствам Ураду.

Першае, на што было зьвернута ўвага пры ажыцьцяўленьні нацпалітыкі, гэта на належную пастаноўку і разгортваньне растлумачвальнай працы сярод супрацоўнікаў устаноў і прыцягненьне да гэтай справы рабоча-сялянскай грамадзкасьці. Дзякуючы дасягнутай перамозе ў настрої працаўнікоў ў бок правільнага зразуменьня асноў нацпалітыкі Савецкай Улады, а таксама дзякуючы спрыяючым адносінам з боку гэтых працаўнікоў да праводзімых Урадам мерапрыемстваў,—справа практычнага ажыцьцяўленьня беларусізацыі стала ісьці наперад.

Шляхам арганізацыі на дзяржаўныя сродкі курсаў і гурткоў па вывучэньні беларускае мовы—падрыхтаваны значныя кадры супрацоўнікаў, якія або добра, або здавальняючы ўладаюць беларускай мовай. Праз курсы і гурткі беларуса-

знаўства прапушчаны ўсе супрацоўнікі ўстаноў, як у цэнтры так і на мясцох.

У шмат якіх мясцох гэтыя курсы і гурткі арганізоўваліся на сродкі і па ініцыятыве нізавых прафорганаў. Курсы беларусазнаўства вялі працу па праграме і пад кантролем Наркамасьветы.

**Практычная праца па ажыцьцяўленьні паступовай беларусізацыі і вынікі гэтай працы.**

Агульны процант супрацоўнікаў, якія ўладалі беларускай мовай ва ўстановах БССР у 1925 г. акрэсьліваўся наступнымі лічбамі: у цэнтральных установах—21,9 проц.; у акруговых і раённых—36,2 проц.; у цэнтральных, акруговых і раённых разам—29,05 проц.

У выніку азначаных вышэй мерапрыемстваў па беларусізацыі процант супрацоўнікаў, якія ўладалі беларускай, мовай пад канец 1926 году значна павялічыўся.

| УСТАНОВЫ | Азначэньне ў $^0/_0{}^0/_0$ колькасьці супрацоўнікаў, якія ўладалі беларускай мовай у 1926 г. | | |
|---|---|---|---|
| | Уладала добра і здавальняюча | Слаба ўладала | Кепска і зусім не ўладала |
| Цэнтральныя . . . | 54,0 | 19.0 | 27,0 |
| Акруговыя і раённыя | 42,0 | 09,4 | 48,6 |
| Цэнтральн., акругов. і раёныя разам . . | 48,0 | 14,2 | 37,8 |

Увага: Лічбы паданы на падставе матар'ялаў праверкі ведаў беларускай мовы; праверана ўсяго 7590 чалавек.

**Вынікі працы па ажыцьцяўленьні беларусізацыі ў цэнтральных установах.**

У 1927 годзе процант супрацоўнікаў, якія ўладалі беларускай мовай—павялічыўся, і ў сучасны момант дасягнуў: у цэнтральных установах—80 проц., ў акруговых і раённых—70 проц.

Такім чынам у сучасны момант цэнтральныя, акруговыя і раённыя, а таксама сельскія ўстановы маюць процант супрацоўнікаў, якія ўладаюць беларускай мовай,—зусім выстарчальны для таго, каб у поўнай меры абслугоўваць беларускае насельніцтва на яго роднай мове. Здавальняюча на-

огул праходзіць беларусізацыя дзелаводзтва ўстаноў у цэнтры і на мясцох.

Згодна пастановы II Сэсіі ЦВК БССР VI скліканьня ад 15 ліпня 1924 г.—для беларусізацыі апаратаў: ЦВК, СНК, Наркамасьветы і Наркамзему быў дан тэрмін на працягу аднаго году; для апаратаў: Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў, Наркам'юсту, Народнага Камісарыяту Сацыяльнай Забясьпекі і Народнага Камісарыяту Пошт і Тэлеграфу—двухгадовы, а для апаратаў усіх іншых устаноў і арганізацыяў—трохгадовы.

Да канца першага тэрміну—ліпень 1925 г. поўнасьцю перавялі на беларускую мову працу сваіх апаратаў: ЦВК і існуючыя пры ім Камісіі, Наркамасьветы і яго аддзелы на мясцох, Беларускі Дзяржаўны Музэй, Белдзяржвыдавецтва, Калінінскі акрвыканком і яго аддзелы, а таксама амаль усе райвыканкомы і сельсаветы Калінінскай акругі. Апарат Саветаў Народных Камісараў быў пераведзены да гэтага тэрміну на беларускую мову процантаў на 75, Наркамзем—процантаў на 30.

Рэшта цэнтральных савецкіх устаноў: акрвыканкомы і іх аддзелы, значная колькасьць райвыканкомаў і некаторыя сельсаветы да гэтага тэрміну таксама перайшлі ў пэўнай частцы на беларускую мову.

Да канца другога тэрміну—ліпень 1926 году—поўнасьцю праводзілі сваю працу на беларускай мове—Савет Народных Камісараў, сакратарыяты ўсіх акрвыканкомаў і земаддзелы некаторых акрвыканкомаў. Праведзеная да гэтага часу беларусізацыя ў рэшце ўстаноў складала 30—60 проц.

Наркамзем быў беларусізаваны да гэтага тэрміну на 50 проц., Наркамунутраных спраў—на 60 проц., Народны Камісарыят Сацыяльнай Забясьпекі—на 60 проц., Наркамюст—на 50 проц., Наркам пошт і тэлеграфу—на 30 проц.

Такім чынам,назіраючы ў некаторых установах зусім здавальняючы тэмп беларусізацыі, неабходна таксама канстатаваць невыкананьне ў тэрмін некаторымі ўстановамі (Наркамзем, Народны Камісарыят Сацыяльнай Забясьпекі, Народны Камісарыят Пошт, і Тэлеграфу, Народны Камісарыят Унутраных спраў) пастановы II-й Сэсіі ЦВК аб тэрмінах беларусізацыі, што і было адзначана ў пастанове Ўраду ад 18-га верасьня 1926 году. У гэтай жа пастанове былі вызначаны практычныя мерапрыемствы па праверцы выкананьня пастаноў Ўраду ў галіне нацпалітыкі.

**Агульныя вынікі праверкі працы па беларусізацыі.**

У ажыцьцяўленьне пастановы аб мерапрыемствах у справе беларусізацыі, Нацкамісіяй ЦВК БССР і акруговымі нацкамісіямі была зроблена праверка беларусізацыі. Гэтае

мерапрыемства зрабіла моцны ўплыў на супрацоўнікаў установў ў бок больш інтэнсыўнай беларусізацыі ўстаноў і вывучэньня супрацоўнікамі ўстаноў беларускай мовы.

У выніку гэтых мерапрыемстваў, у сучасны момант у галіне беларусізацыі існуюць наступныя дасягненьні: поўнасьцю беларусізаваны апараты цэнтральных, акруговых і раённых, а таксама сельскіх устаноў, якім быў дадзены двухгадовы тэрмін для пераводу сваёй працы на беларускую мову; ў значнай меры—процантаў у сярэднім на 70—беларусізаваны апараты ўсіх іншых савецкіх устаноў, і процантаў на 30—50—апараты гаспадарчых устаноў. Можна з поўнай ўпэўненасьцю сказаць, што пры гэтакім тэмпе працы поўная беларусізацыя ўсіх устаноў будзе скончана ў 1928 годзе.

У выніку ўсіх мерапрыемстваў ў галіне беларусізацыі, у сучасны момант ёсьць значныя посьпехі агуньнага, калі можна ўжыць гэты выраз, значэньня. Зьнішчаюцца паступова адносіны да беларускай мовы, як да мовы толькі афіцыяльнай. Беларускую мову цяпер вельмі часта можна пачуць у прыватнай гутарцы, галоўным чынам сярод моладзі, сярод грамадзкіх, савецкіх і партыйных работнікаў і г. д., часта нават не беларусаў па нацыянальнасьці. Такім чынам беларуская мова ўваходзіць у штодзённы быт і гарадзкога насельніцтва.

У зьвязку з існуючымі яшчэ адмоўнымі адносінамі сярод некаторай, хоць і вельмі нязначнай часткі, супрацоўнікаў да беларускай мовы, пры праверцы супроць такіх злосьнікаў прымаліся меры ўплыву ўключна да зьняцьця з працы.

За час праверкі па ўсіх акругах і ў цэнтры была звольнена за ўпартае нежаданьне вывучаць беларускую мову і за варожыя адносіны да беларусізацыі—27 асоб.

## Беларусізацыя ў Чырвонай Арміі.

Побач з беларусізацыяй дзяржаўнага апарату праводзіцца таксама беларусізацыя ў беларускіх часьцях Чырвонай Арміі.

Вайсковыя Школы Імя ЦВК БССР укамплектавана курсантамі—чырвонаармейцамі-беларусамі на 75 проц. Як сталы, так і пераменны склад школы сыстэматычна вывучае беларускую мову. Перапіска вайсковай школы з мясцовымі ўстановамі праводзіцца на беларускай мове. Ёсьць павялічэньне проціанта беларусаў сярод каманднага і палітычнага складу тэрытарыяльных вайсковых часьцей. Ніісшы камандны склад тэрчасьцей больш чымся на палову (62,3%) укамплектаваны беларусамі. У складзе кадравых беларускіх часьцей—чырвонаармейцаў-беларусоў налічваецца 73,2%, а сярод пераменнага складу—85,2 проц. Ёсьць значныя дасяг-

неньні ў галіне вывучэньня беларускай мовы камандным і палітычным складам.

Беларускія вайсковыя часьці забясьпечаны баявым статутам, 3-мя часткамі стралковага статуту і часовым дысцыплінарным статутам—на беларускай мове.

Палітзаняткі ў беларускіх часьцях у зімовы пэрыод 1926-27 г. г. праходзілі на беларускай мове агулам процантаў на 63—65, прычым найбольшы процант (72) беларусізацыі палітзаняткаў быў у групах чырвонаармейцаў апошняга прызыву. Ліквідацыя няпісьменнасьці сярод чырвонаармейцаў у беларускіх часьцях праводзілася поўнасьцю на беларускай мове.

У галіне беларусізацыі пазашкольнай працы сярод чырвонаармейцаў беларускіх часьцей ёсьць таксама значныя дасягненьні; так матар'ялы навочнай агітацыі ў большасьці (70 проц.) выдаюцца на беларускай мове. Лёзунгі, насьценныя газэты і інш. поўнасьцю выконваюцца на беларускай мове. Слабей беларусізавана масавая груповая праца. Процант беларусізацыі гэтай працы вагаецца ад 10—30 проц. Значна павялічылася колькасьць беларускай літаратуры ў бібліатэках вайсковых часьцей, а таксама і чытаемасьць гэтай літаратуры. Значная колькасьць чырвонаармейцаў у сваім штодзённым, вольным ад заняткаў жыцьці,—гаворыць на сваёй роднай мове.

Зроблены захады да пераводу на беларускую мову страявой вучобы.

## Рабочая кляса.

Агульная колькасьць занятай у БССР наёмнай рабочай сілы ў розных галінах, паводле падліку на 1-IX—1926 г. акрэсьліваецца наступнымі лічбамі:

| Галіны працы | Колькасьць рабочых у тысячах | Колькасьць рабочых у процантах |
|---|---|---|
| Сельская гаспадарка . | 86,6 | 38,5 |
| Прамысловасьць . . | 32,8 | 14,6 |
| Будаўніцтва. . . . | 16,3 | 07,2 |
| Транспорт і сувязь . | 25,3 | 11,2 |
| Гандаль . . . . . | 09,2 | 04,1 |
| Дзяржаўн. і грамадзкія ўстановы . . | 48,2 | 21,4 |
| Дамов. работн. і работ. харчаван. . . . | 06,7 | 03,0 |
| Разам . . | 225,1 | 100 |

З гэтай агульнай наёмнай рабочай сілы на 4-IV—1927 г. у прафэсыянальных саюзах лічылася 177 тыс. работнікаў, альбо 70 проц.





З агульнай колькасьці асоб занятых наёмнай працай у катэгорыю рабочых могуць быць залічаны: рабочыя прамысловасьці—32,8 тыс. чалавек, рабочыя будаўніцтва—16,3 тыс. чал., рабочыя транспарту—каля 12,2 тыс. чал., а разам 61,3 тысячы чалавек рабочых.

Даных аб дынаміцы нацыянальнага складу ўсіх рабочых даць немагчыма. Такіх абсьледаваньняў і вучоту яшчэ не рабілася. Гэтыя лічбы магчыма будзе выявіць толькі на падставе даных дэмографічнага перапісу 1926 г., але матар'ялы перапісу ў гэтай галіне яшчэ не апрацаваны.

Некаторае ўяўленьне дынамікі нацыянальнага складу рабочых магчыма мець на падставе параўнальных даных аб нацыянальным складзе прафсаюзаў на 1-V—1924 г. і 1-IV 1927 г. Калі ўзяць для параўнаньня даныя 10-ці вытворчых саюзаў (рабочых папяровай прамысловасьці, дрэваапрацоўшчыкаў, мэталістых, друкароў, будаўнікоў, хімікаў, краўцоў, тэкстыльшчыкаў, рабочых харчовай і скуранай прамысловасьці), дык дынаміка нацыянальнага складу членаў гэтых саюзаў акрэсьліваецца наступнымі лічбамі:

| ДАТЫ | Агульная колькасьць членаў саюзаў, аб якіх ёсьць даныя | Нацыянальны склад у % | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Белар. | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| На 1-V-1924 г. . . | 28.226 | 26,3 | 11.7 | 50,4 | 07.3 | 04,3 |
| „ 1-X-1925 „ . . | 43.770 | 44,3 | 09,0 | 49.4 | 04,4 | 02,9 |
| „ 1-IV-1927 „ . . | 56.036 | 45.5 | 05.5 | 42.6 | 04.1 | 02.3 |

Колькасны рост паасобных нацыянальнасьцяй у складзе прафсаюзаў 10 азначаных вышэй вытворчых саюзаў вызначаецца наступнымі лічбовымі данымі:

| Нацыянальнасьць | Колькасьць членаў прафсаюзаў | | | Дынаміка ў процантах | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | На 1-V-24 г. | На 1-X-25 г. | На 1-IV-27 г. | На 1-V-1924 г. | На 1-X-25 г. | На 1-IV-1927 г. |
| Беларусы . . . | 7.438 | 15.062 | 25.615 | 100 | 202,5 | 344,4 |
| Расійцы . . . . | 3.314 | 3.940 | 3.113 | 100 | 118,8 | 93,9 |
| Яўрэі . . . . | 14.213 | 21.621 | 23.452 | 100 | 152,1 | 165,0 |
| Палякі . . . . | 2.063 | 1.956 | 2.313 | 100 | 94,8 | 112,1 |
| Іншыя . . . . | 1.198 | 1.191 | 1.542 | 100 | 99,4 | 128‘9 |
| Разам . . . | 28.226 | 43.770 | 56.036 | 100 | 155.6 | 195,5 |

Даныя аб нацыянальным складзе саюзаў чыгуначнікаў—рабочых і служачых, паводле даных на 1-X—25 г. і 1-IV—1927 г. акрэсьліваюцца наступнай табліцай:

| ДАТЫ | Нацыянальны склад чыгуначнікаў у %% | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Белар. | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| На 1-X-1925 г. . . | 81,1 | 10,1 | 01,4 | 03,0 | 04,4 |
| „ 1-IV-1927 г. . . | 83,2 | 07,5 | 01,2 | 03,2 | 04,9 |

Карыстаючыся гэтымі-ж данымі аб складзе вышэйпаказных 10 прафсаюзаў, магчыма даць прыблізны нарыс разьмяркаваньня рабочых паасобных нацыянальнасьцяй ў розных галінах прамысловасьці.

| НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ | Прамысловасьць | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Папяровая | Дрэваапрацоўчая | Скураная | Мэталёвая | Друкарская | Харчовая | Будаўнічая | Тэкстыльная | Хімічная | Швэйная |
| | Колькасць у процантах | | | | | | | | | |
| Беларусы: | | | | | | | | | | |
| На 1/V—24 г. . . . . | 27,7 | 34,7 | 13,5 | 45,1 | 10.2 | 35.8 | 26.4 | 27,9 | 48,7 | 01,2 |
| „ 1/X—25 г. . . . . | 63,1 | 40,7 | 19,2 | 35,9 | 19.2 | 45,2 | 34,3 | 38,7 | 53,4 | 02,7 |
| „ 1/IV—27 г. . . . . | 62,7 | 48,3 | 23,7 | 47,9 | 18,2 | 42,8 | 53,3 | 55,0 | 63,4 | 06,1 |
| Расійцы: | | | | | | | | | | |
| На 1/V—24 г. . . . . | 31,4 | 17,5 | 08,4 | 03,6 | 10,2 | 09,8 | 09,1 | 31,7 | 07,3 | 02,4 |
| „ 1/X—25 г. . . . . | 07,5 | 08,8 | 03,1 | 18,2 | 04,3 | 05,3 | 12,4 | 39,4 | 11,3 | 02,7 |
| „ 1/IV—27 г. . . . . | 04,8 | 05,4 | 03,2 | 10,9 | 05,2 | 04,7 | 05,1 | 06,7 | 07,5 | 02,0 |
| Яўрэі: | | | | | | | | | | |
| На 1/V—24 г. . . . . | 16,4 | 36,5 | 73,4 | 37,8 | 77,0 | 22,9 | 59,8 | 30,4 | 21,5 | 93,4 |
| „ 1/X—25 г. . . . . | 15,7 | 41,4 | 74,9 | 36.9 | 74.9 | 42,1 | 47,6 | 12,2 | 16,8 | 93,3 |
| „ 1/IV—27 г. . . . . | 17,3 | 35,5 | 69,9 | 31,6 | 73,0 | 45,3 | 37,6 | 32,1 | 16,0 | 91,1 |
| Палякі: | | | | | | | | | | |
| На 1/V—24 г. . . . . | 08,8 | 08.3 | 03,2 | 07,1 | 01,7 | 28,6 | 02.7 | 05,6 | 02,3 | 00,3 |
| „ 1/X—25 г. . . . . | 10,4 | 04.9 | 01,7 | 05,9 | 01,3 | 04,1 | 02,4 | 04,6 | 16,3 | 00,7 |
| „ 1/IV—27 г. . . . . | 11,3 | 05,7 | 02,0 | 05,2 | 02,2 | 03,9 | 01,6 | 04,3 | 10,7 | 00,5 |
| Іншыя: | | | | | | | | | | |
| На 1/V—24 г. . . . . | 15,7 | 02,9 | 01,5 | 06,4 | 00,9 | 02,9 | 02,0 | 04,4 | 20,2 | 02,7 |
| „ 1/X—25 г. . . . . | 03,3 | 04.2 | 01,1 | 03,1 | 00,9 | 03,3 | 03,3 | 05,1 | 03,0 | 00,9 |
| „ 1/IV—27 г. . . . . | 03,9 | 05,1 | 01,2 | 04,4 | 01,4 | 03,3 | 02,4 | 01,9 | 02,4 | 00,3 |

## Выбарныя органы прафсаюзаў.

Склад выбарных органаў прафсаюзаў, паводле нацыянальнага складу, акрэсьліваецца наступнымі лічбовымі данымі:

| Прафэсыянальная ўстанова | Пэрыоды | Агульная колькасьць асоб | Нацыянальны склад у %% | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Белар. | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| ЦСПСБ . . . . | 1924 г. | 70 | 47,1 | 07,1 | 38,6 | 02,9 | 04,3 |
| | 1925 „ | 70 | 47,1 | 07,1 | 38,6 | 02,9 | 04,3 |
| Прэзыдыум ЦСПСБ | 1924 „ | 15 | 40,0 | 13,3 | 33,3 | 06,7 | 06,7 |
| | 1925 „ | 15 | 46,7 | 13,3 | 26,6 | 06,7 | 06,7 |
| | 1926 „ | 17 | 47,1 | 17,6 | 23,6 | 05,9 | 05,9 |
| АСПС . . . . | 1924 „ | 99 | 29,3 | 06,1 | 54,6 | 04,0 | 06,0 |
| | 1925 „ | 134 | 41,0 | 11,2 | 38,1 | 06,0 | 03,7 |
| | 1926 „ | 107 | 44,9 | 09,3 | 39,3 | 03,7 | 02,8 |
| Райпрафбюро . . | 1924 „ | 852 | 58,2 | 04,6 | 31,3 | 02,2 | 03,7 |
| | 1925 „ | 660 | 52,0 | 08,5 | 31,7 | 03,1 | 04,7 |
| | 1926 „ | 225 | 50,7 | 04,5 | 36,4 | 04,4 | 04,0 |
| Цэнтр. праўленьні саюзаў . . . | 1924 „ | 354 | 39,3 | 08,7 | 41,8 | 04,5 | 05,7 |
| | 1925 „ | 495 | 44,7 | 17,9 | 38,8 | 04,8 | 03,8 |
| | 1926 „ | 383 | 46,2 | 08,4 | 36,6 | 05,2 | 03,6 |
| Акруговыя аддзяленьні саюзаў . | 1924 „ | 901 | 27,6 | 09,0 | 53,2 | 03,4 | 06,8 |
| | 1925 „ | 1419 | 44,0 | 09,0 | 40,1 | 02,8 | 04,1 |
| | 1926 „ | 1071 | 44,6 | 09,1 | 40,2 | 03,7 | 02,4 |
| Фабзавмясцкомы . | 1924 „ | 2623 | 53,6 | 11,8 | 28,6 | 03,0 | 03,0 |
| | 1925 „ | 3917 | 53,0 | 08,6 | 31,8 | 03,1 | 03,5 |
| | 1926 „ | 6597 | 56,4 | 97,6 | 30,4 | 03,1 | 02,5 |

## Нацыянальны склад адказных працаўнікоў прафсаюзных апаратаў.

На падставе даных, якія былі сабраны на 1-I—1927 г., платны апарат прафсаюзных арганізацый выяўляўся ў наступным выглядзе:

а) Сярод 7 членаў Прэзыдыуму ЦСПСБ, якія стала працавалі ў ім, беларусаў было 2, расійцаў—2, яўрэяў—3.

б) У акруговых прафэсыянальных саветах сярод 22 чалавек занятых выключна па лініі прафсаюзаў, г. зн. старшынь, сакратароў і членаў прэзыдыуму,—беларусаў было—8, яўрэяў—12, палякаў—1, расійцаў—1.

в) У цэнтральных праўленьнях саюзаў з ліку 63 платных старшынь, членаў прэзыдыумаў, сакратароў,—беларусаў было—22, яўрэяў—24, расійцаў—8, украінцаў—3, латышоў—1, літоўцаў—1, і немцаў—1.

г) У акруговых праўленьнях саюзаў(за выключэньнем саюзаў друкароў і харчаўнікоў) платных выбарных працаўнікоў было 109 чалавек, з якіх: беларусаў было—54, расійцаў—12, яўрэяў—39, палякаў—2, літоўцаў—2.

д) Сярод 371 платных працаўнікоў старшынь і сакратароў 1060 Фабзавмясцкомаў, з якіх па 14 прафсаюзах лічбы ўзяты на падставе даных на 1-I—27 г., а аб рэшце саюзаў: сельска-гаспадарчых і лясных працаўнікоў, мэталістых, чыгуначнікаў, мэдычна-санітарных працаўнікоў, савецкіх і гандлёвых служачых і харчаўнікоў (629 ФЗМК) лічбовыя даныя ўзяты на падставе вестак за красавік м-ц 1926 г. (даныя на 1-I—27 г. па гэтых саюзах ячшэ не апрацаваны),—беларусаў было—204, яўрэяў—124, расійцаў—22, палякаў—10, латышоў—8, літоўцаў—1.

Такім чынам з усіх паданых лічбаў мы бачым, па першае, што ў платным апараце прафсаюзных арганізацый пераважаюць, галоўным чынам, 2 нацыянальнасьці—беларусы і яўрэі; і, па другае, процант яўрэяў павялічваецца ў вышэйстаячых прафсаюзных арганізацый, а процант беларусоў павялічваецца ў ніжэустаячых. Гэтае становішча характарызуюць наступныя лічбовыя даныя:

| Цэнтральныя праўленьні профсаюзаў | | Акруговыя праўленьні прафсаюзаў | | Фабзавмясцкомы | |
|---|---|---|---|---|---|
| Беларусы | Яўрэі | Беларусы | Яўрэі | Беларусы | Яўрэі |
| 34% | 38% | 49% | 35% | 54% | 33% |

**Масавая праца на нацыянальных мовах у прафсаюзах.**

Агульныя далегацкія сходы і пасяджэньні ў гарадох—у большасьці праводзяцца на расійскай мове, асабліва гэта адносіцца да вытворчых саюзаў: чыгуначнікаў, папяровай прамысловасьці, мэталістых, будаўнікоў і хімікаў. Выступленьні ў спрэчках бываюць на розных мовах (расійскай, беларускай, яўрэйскай і польскай). Масавая праца на беларускай мове на ўсе 100 проц. праводзіцца ў саюзе працаўні-

коў асьветы. Саюз сельска-гаспдарчых і лясных працаўнікоў праводзіць масавую працу на беларускай мове процантаў на 80, а часам нават і на ўсе 100. У паасобных галінах прафпрацы гэтага саюзу процант беларусізацыі вагаецца: так, ліквідацыя няпісьменнасьці праводзіцца на беларускай мове на 90 проц., а заняткі прафгурткоў толькі на 60 проц. Тлумачыцца да некаторай ступені гэтая нероўнамернасьць недахопам патрэбнай літаратуры на беларускай мове. Канфэрэнцыі: ўсебеларускія, акруговыя і раённыя праводзяцца Саюзом сельска-гаспадарчых і лясных працаўнікоў цалком на беларускай мове.

Культурна-масавая працы ў іншых прафсаюзах праводзіцца ў пэўным процанце таксама на беларускай мове.

### Беларусізацыя дзелаводзтва ў прафсаюзах.

Перавялі свае дзелаводзтва на беларускую мову на 100 проц.—цэнтральныя праўленьні прафсаюзаў, некаторыя акруговыя саветы, акруговыя праўленьні прафсаюзаў, мясцкомы працасьветы. Рэшта прафсаюзных установ здолелі правесьці беларусізацыю дзелаводзтва да пэўнай ступені, у залежнасьці ад шэрагу ўмоў. Частка прафсаюзаў вядзе свае дзелаводзтва на мяшанай мове (расійскай, беларускай). Да гэтакіх прафсаюзаў з мяшанай мовай трэба залічыць—саюз савецкіх і гандлёвых служачых, мэдычных і санітарных працаўнікоў, прафсаюз працаўнікоў сувязі, дрэваапрацоўшчыкаў і харчаўнікоў. Апарат бюро ЦК прафсаюзу чыгуначнікаў поўнасьцю працуе на беларускай мове, УЧК прафсаюзу чыгуначнікаў і мясцкомы—толькі часткова.

### Каранізацыя ў спажывецкай каапэрацыі.

Аб нацыянальным складзе членаў спажывецкай каапэрацыі ёсьць даныя толькі ад 8 ЦРК (з 12) на 1/X-1927 г. З агульнай колькасьці 37.497 членаў ЦРК (без вайсковых), беларусоў налічваецца—38,8 проц. расійцаў—12,4 проц., яўрэяў—43,2 проц., палякаў—2 проц. і іншых—3,6 проц.

Параўнаўчыя даныя аб нацыянальным складзе членаў рабочай каапэрацыі ёсьць толькі па 4 ЦРК (Менскаму, Аршанскаму, Горацкаму і Мазырскаму). Гэтыя даныя наступныя:

| Даты: | Колькасьць членаў | Нацыянальны склад у процантах | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Беларусы | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| На 1/X-25 г. | 21.896 | 40,7 | 8,9 | 45,0 | 2,0 | 3,4 |
| На 1/X-26 г. | 24.348 | 41,3 | 9.5 | 43.6 | 2,3 | 3,3 |

Аб нацыянальным складзе членаў сельскай сеткі спажывецкіх таварыстваў даных няма, але аб гэтым магчыма ўявіць сябе, да пэўнай ступені, бяручы пад увагу даныя аб пайшчыках, якія прысутнічалі на справаздачных сходах пад час апошніх перавыбараў.

З 20.624 пайшчыкаў (10 проц. агульнага ліку пайшчыка), якія прысутнічалі на справаздачных сходах,—беларусоў было—90,6 проц., расійцаў—1,4 проц., яўрэяў—5,3 проц., палякаў—1,6 проц., і іншых—1,1 проц.

Нацыянальны склад праўленьняў спажывецкіх таварыстваў, на падставе даных аб 420 гэтакіх таварыствах,—наступны:

| Пэрыоды; | Нацыянальны склад у процантах | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| 1925-1926 г. | 84,6 | 2,7 | 10,2 | — | 2,2 |
| 1926-1927 г. | 83,2 | 3,3 | 09,9 | 0,4 | 2,0 |

Нацыянальны склад праўленьняў і рэвізыйных камісій ў 355 спажывецкіх таварыствах, у параўнаўчых лічбах, характарызуецца наступнымі данымі:

| Пэрыоды | Нацыянальны склад у процантах | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| 1925-1926 г. | 90,4 | 3,0 | 4,8 | — | 1,8 |
| 1926-1927 г. | 89,4 | 3,2 | 3,4 | 0,5 | 3,5 |

Нацыянальны склад праўленьняў і рэвізыйных камісій ў 19 спажывецкіх таварыствах у 1926/27 г. быў наступны:

| Назва ўстановаў | Нацыянальны склад у процантах | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| Праўленьні | 82,6 | 3,1 | 10,1 | 0,6 | 3,6 |
| Рэвіз. Кам. | 87,6 | 3,1 | 05,3 | 1,0 | 2,9 |

Нацыянальны склад праўленьняў і рэвізыйных камісій ў акруговых саюзах сельска-гаспадарчай каапэрацыі (Белсельсаюзу) ілюструецца наступнымі лічбамі на падставе даных аб 7 саюзах:

| Назва установаў | Нацыянальны склад у процантах. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| Праўленьні . . . . | 73,0 | 10,8 | 13,5 | 2,7 | — |
| Рэв. Каміс. . . . . | 80,9 | 04,8 | 09,5 | — | 4,8 |

Нацыянальны склад адказных працаўнікоў Белсельсаюзу наступны:

| Колькасьць працаўнікоў. | Нацыянальны склад. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| 22 | 10 | 6 | 3 | — | 3 |

Нацыянальны склад тэхнічнага апарату Белсельсаюзу (цэнтр) у сучасны момант наступны:

| Колькасьць працаўнікоў апарату | Нацыянальны склад. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | Расійцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
| 35 | 24 | 3 | 6 | 1 | 1 |

## Беларусізацыя дзелаводзтва ва ўстановах сельска-гаспадарчай каапэрацыі.

Беларусізацыя дзелаводзтва ў акруговых саюзах сельска-гаспадарчай каапэрацыі ў процантах акрэсьліваецца наступнымі данымі:

Калінінскі Акрсаюз беларусізаваны на 100 проц.
Полацкі „ „ „ 90 „
Мазырскі „ „ „ 80 „
Бабруйскі „ „ „ 60 „
Аршанскі „ „ „ 60 „
Слуцкі „ „ „ 60 „
Магілеўскі „ „ „ 50 „
Віцебскі „ „ „ 30 „

### Беларусізацыя і роўнапраўства моваў.

Падагуліваючы практычныя вынікі правядзеньня беларусізацыі і ўлічваючы шматлікі нацыянальны склад насельніцтва БССР, насоўваецца пытаньне: ці не праводзілася праца па беларусізацыі коштам працы сярод нацыянальных меншасьцяй і ці ажыцьцяўляецца пастанова II-й Сэсіі ЦВК БССР аб прызнаньні дзяржаўнымі мовамі чатырох моваў (беларускай, расійскай, яўрэйскай і польскай)? Ці ўтвораны сапраўдныя ўмовы для фактычнага ажыцьцяўленьня гэтага роўнапраўства моваў?

На падставе лічбовых даных, якія будуць ніжэй падады, аб росьце сеткі школаў нацыянальных меншасьцяй і аб колькасьці культурна-асьветных установў, якія працуюць на нацыянальных мовах; беручы пад увагу, на падставе пададных вышэй даных, забясьпечанасьць дзяржаўнага апарату ў выстарчальнай колькасьці супрацоўнікамі ўсіх нацыянальнасьцяй,—можна канстатаваць, што праца ў галіне беларусізацыі праводзілась і будзе праводзіцца бяз крыўды для нацыянальных меншасьцяй Беларусі.

Дзякуючы правільнаму правядзеньню нацыянальнай палітыкі, даных для нездаволенасьці і варожых адносін да беларусізацыі з боку паасобных нацыянальных меншасьцяй—ня было. Праўда, у пачатку актыўнага правядзеньня беларусізацыі, з боку адзінак, якія ня сьцямілі істоты нацпытаньня, назіраліся выпадкі выяўленьня нездаволенасьці. У большасьці—гэтыя адмоўныя адносіны да беларусізацыі назіраліся толькі з боку асоб, якія былі заражаны вялікадзяржаўным расійскім шовінізмам. Як на характэрны выпадак такіх адмоўных адносін да беларусізацыі магчыма пазвацца на артыкул нейкага «Пшчолкі» (Полацак), накіраваны ў Рэдакцыю «Крестьянской газеты» і зьмешчаны потым у беларускіх газэтах.

Шавіністычна-русіфікатарскі погляд «Пшчолкі» на беларусізацыю, выяўлены ў гэтым артыкуле, які быў зьмешчаны амаль ва ўсіх газэтах БССР, выклікаў з боку працоўных Беларусі гострае асуджэньне.

---

III.

## Праца нізавых саветаў.

Да канца 1922 году сельскія саветы БССР працавалі на падставе палажэньня аб сельсаветах РСФСР. 7-га кастрычніка 1922 году Ўрад БССР выдаў закон аб сельсаветах у Савецкай Беларусі. Паводле гэтага закону сельсаветы мелі нязначныя правы: дзейнасьць сельсаветаў заключалася ў выкананьні пастаноў вышэйстаячых органаў улады. Уцягненьне працоўных у мясцовае гаспадарчае і культурнае будаў-

ніцтва не магло належным чынам пашырацца, бо ў істоце сельсавет бадай-што ня меў ніякіх правоў у гэтых галінах жыцьця.

II-я Сэсія ЦВК БССР VI-га скліканьня зацьвердзіла 17-га ліпеня 1924 году новы закон аб сельскіх саветах, утвараючы з іх фактычна вышэйшы орган улады на тэрыторыі сельсавету.

У сучасны момант компэтэнцыя дзейнасьці сельскіх і местачковых саветаў акрэсьліваецца належнымі палажэньнямі, якія былі зацьверджаны Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Саветам Народных Камісараў БССР 3 і 10 ліпеня 1925 г.

На падставе гэтых палажэньняў сельскія і местачковыя саветы маюць права абгаварваць і вырашаць усе пытаньні, якія датычуць мясцовага жыцьця.

Ня гледзячы на кароткі час застасаваньня гэтых палажэньняў—сельскія і местачковыя саветы маюць ужо значныя дасягненьні ва ўсіх галінах савецкага будаўніцтва.

Праца сельскіх і местачковых саветаў паступова пачала набываць плянавасьць і сыстэматычнасьць.

З мэтаю наладзіць больш моцную сувязь з насельніцтвам сельскія і местачковыя саветы прымацоўваюць да паасобных насельных пунктаў—членаў сельскіх або местачковых саветаў і ажыцьцяўляюць праз гэтых членаў саветаў кіраўніцтва і сувязь з насельніцтвам. Гэтая-ж мэта—сувязі з масамі—дасягаецца таксама і праз тое, што пленумы і пасяджэньні прэзыдыумаў сельскіх і местачковых саветаў адбываюцца ў розных насельных пунктах на тэрыторыі гэтых саветаў. Вынікам гэтай працы, накіраванай да таго, каб уцягнуць у дзейнасьць саветаў, па магчымасьці, больш шырокія слаі працоўных масаў,—зьяўляюцца даволі значныя дасягненьні.

Паданая ніжэй табліца характарызуе склад і працу камісій сельскіх і местачковых саветаў, абраных у 1926 годзе.

Даныя ўзяты з 757 сельскіх і местачковых саветаў, што складае 61 проц. агульнага ліку гэтых саветаў.

| Назвы камісій | Колькасьць камісій | Колькасьць членаў камісій | Адбылося пасяджэньняў | Разгледжана пытаньняў |
|---|---|---|---|---|
| Рэвізыйныя . . . | 757 | 2344 | 1161 | 1615 |
| С. гаспадарч. . . . | 711 | 3411 | 1806 | 5160 |
| К.-асьветн. і санітарн | 739 | 3978 | 1957 | 4463 |
| Фінан. падатк. . . | 634 | 2787 | 2247 | 11520 |
| Мясц. гасп. і добраўпарадк. . . | 583 | 2644 | 994 | 1790 |
| Гандлёва-каапэр. . | 538 | 2223 | 664 | 1150 |
| Іншыя ня сталыя . | 462 | 1909 | 891 | 2525 |
| | 4424 | 19286 | 9720 | 28222 |

З паданых лічбаў відаць, што ў абгаварэньні 28.223 пытаньняў прымала ўдзел 19.286 асоб, з якіх блізка 75 проц.—сяляне.

З агульнага ліку членаў камісій—7.923 членаў, г. з. 41 проц., не зьяўляецца членамі саветаў—гэта сельскі і местачковы рабоча-сялянскі актыў.

Культурная і гаспадарчая праца паглынае амаль што ўсю ўвагу сельскіх і местачковых саветаў; 76,9 проц. агульнай колькасьці пытаньняў, разгледжаных гэтымі органамі улады,—маюць адносіны да культурнай і гаспадарчай галін працы. Пераважнае месца сярод гэтых пытаньняў, займаюць пытаньні: зямельныя, культурна-асьветныя, падатковыя, лясныя, г. з. такія пытаньні, якія непасрэдна найбольш цікавяць асноўныя масы насельніцтва.

Наданьне некаторым сельскім і местачковым саветам права мець свой бюджэт, што ў сучасны момант мае яшчэ характар спробы, дало станоўчыя вынікі. Так, у паасобных местачковых і сельскіх саветах, якія маюць свой самастойны бюджэт,—назіраецца значнае павялічэньне і пашырэньне прыбытковых крыніц. У 1926-27 г. г., у параўнаньні з мінулым годам, прыбыткі гэтых саветаў павялічыліся на 96,3 проц. Гэтыя факты тлумачацца тэй акалічнасьцю, што саветы, якія маюць самастойныя бюджэты, вельмі зацікаўлены ў падрабязным выяўленьні прыбытковых крыніц. Пакуль што—самастойныя бюджэты маюць 12 местачковых і 13 сельскіх саветаў. У сярэднім местачковы бюджэт складае 13.500 рублёў, а сельскі—9.000 рублёў.

Існуючыя ўжо дасягненьні ў працы сельскіх і местачковых саветаў не здавальняюць яшчэ ўсіх запатрабаваньняў мясцовага жыцьця. Немагчымасьць задаволіць гэтыя патрэбы сіламі сельскіх і местачковых саветаў тлумачыцца цэлым шэрагам аб'ектыўных прычын.

У першую чаргу на пасьпяховасьці працы сельскіх і местачковых саветаў адбіваецца нізкі культурны ўзровень як усяго насельніцтва, так і складу сельскіх і местачковых саветаў, да старшынь уключна, што перашкаджае працаўнікам, асабліва сельскіх саветаў, знаёміцца ня толькі з законамі аб саветах, але нават з канстытуцыяй, не гаворачы ўжо аб больш ускладненым законадаўстве.

У сувязі з гэтым Урад БССР клапаціцца аб падрыхтоўцы кадраў нізавых савецкіх працаўнікоў і ў першую чаргу старшынь і сакратароў нізавых саветаў. У 1925 і 1926 г. г. праз курсы дзеля падрыхтоўкі нізавых савецкіх працаўнікоў было прапушчана 1626 чалавек, з якіх 583 старшынь і 805 сакратароў сельскіх і местачковых саветаў.

Побач з гэтым Урад БССР ставіць перад сабой задачу: рэгулярнага скліканьня прэзыдыумаў і пленумаў сельскіх і местачковых саветаў і рэгулярнай справаздачы саветаў

перад насельніцтвам. Урад БССР таксама імкнецца ўвясьці плянавасьць у працу саветаў і іх камісій і ўцягнуць у гэтую працу рабоча-сялянскі актыў.

Пашыраючаяся актыўнасьць бяднейшага сялянства, батрацтва і лёяльна настроеных грамадзкіх сіл вёскі і мястэчка—забясьпечвае посьпех у дасягненьні гэтых мэтаў. Роўналежна з арганізацыйным ростам сельскіх і местачковых саветаў будзе расьці і ўзмацняцца іх роль як органаў Ўлады, як кіраўнікоў гаспадарча-культурнага будаўніцтва на мясцох.

---

IV.

## Уцягненьне шырокіх масаў рабочых і сялян Беларусі у дзяржаўнае будаўніцтва.

Урад БССР шэрагам законадаўчых актаў забясьпечыў ўцягненьне ў савецкае будаўніцтва шырокіх масаў рабочых і сялян. Сяляне прыцягваюцца да ўдзельнічаньня ў савецкім будаўніцтве праз камісіі, на падставе спэцыяльнага закону аб гэтых камісіях, які быў выданы ЦВК і СНК у 1925 годзе. Пры кожным сельскім савеце, на падставе гэтага закону, існуе пяць камісій: сельска-гаспадарчая, культурна-асьветная і санітарная, фінансава-падатковая, мясцовай гаспадаркі і добраўпарадкаваньня, гандлёва-каапэрацыйная.

Гэтыя камісіі зьяўляюцца першапачатковымі ячэйкамі сялянскага актыву. Працаздольнасьць гэтых камісій залежыць у значнай ступені ад актыўнасьці і працаздольнасьці як сельскіх саветаў, так і раённых выканаўчых камітэтаў. Пры выбарах сельскіх саветаў з гэтых кадраў нарастаючага актыву выходзяць новыя склады саветаў.

У гарадох рабочыя і работніцы ўцягваюцца ў працу саветаў, перш за ўсё, пры дапамозе сэкцый пры гаардзкіх саветах. Новае палажэньне аб гарадзкіх саветах, якое было прынята ў ліпені 1926 г. 3-й Сэсіяй ЦВК БССР VII скліканьня, забясьпечвае самы шырокі ўдзел рабочых і сялян,—як членаў гарадзкога савету, так і ня членаў,—у савецкім будаўніцтве.

Пры гарадзкіх саветах існуюць наступныя сэкцыі: камунальнай гаспадаркі, фінансавая, аховы здароўя, каапэрацыйна-гандлёвая, адміністрацыйна-праўная, РСІ і інш.

Да ўдзелу ў пасяджэньнях гарадзкіх саветаў прыцягваюцца таксама працоўныя і ня члены гарадзкіх саветаў.

Даныя за 1926 г. адносна сельскіх і местачковых саветаў паказваюць, што колькасьць працоўных, якія былі ўцягнуты ў 1926 г. ў працу Саветаў праз камісіі,—даволі значная.

Уцягненьне рабочых і сялян у 1927 г. ў выбарныя органы характарызуецца наступнымі лічбовымі данымі аб складзе саветаў і выканаўчых камітэтаў у процантах да агульнага ліку членаў саветаў:

| | Рабочыя | Сяляне |
|---|---|---|
| Сельскія саветы . . . . | 01,1 | 91,5 |
| Местачковыя саветы . . | 17,4 | 40,4 |
| Гарадзкія саветы . . . | 37,1 | 01,5 |
| Раён. выканаўч. камітэты . | 11,0 | 40,6 |
| Акруговыя выкан. камітэты . | 30,9 | 26,5 |
| Цэнтр. выканаўч. камітэты . | 30,5 | 34,0 |

У пачатку 1925 г. быў апрацаваны плян вылучэньня сялян ад сахі на адказную савецкую працу. У сувязі з гэтым ЦВК і СНК БССР прынялі 21 сакавіка 1925 г. пастанову: «Аб вылучэньні і ўцягненьні сялян ад сахі ў працу саветаў, выканкомаў і ўстаноў».

Гэтай пастановай падкрэсьлівалася ўся важнасьць мерапрыемстваў, накіраваных да вылучэньня сялян.

У 1926 г. дзеля працы ў акруговых выканаўчых камітэтах вылучана 36 рабочых і сялян, а ў раённых выканаўчых камітэтах—152 рабочых і сялян.

Сабраныя весткі аб працы вылучэнцаў паказваюць на высокую прадукцыйнасьць іх працы і ўдаводніваюць, што ад вылучэнства атрымалі вялікую карысьць як самыя вылучэнцы, так і тыя ўстановы, у якіх вылучэнцы працавалі. У пачатку 1927 году на IV Сэсіі ЦВК БССР VII скліканьня вылучэнцы прымалі самы чынны ўдзел у абгаварваньні праэктаў новых законаў: водна-мэліорацыйнага кодэксу, кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы, і інш. Вылучэнцы пры абгаварэньні гэтых законаў паказалі ня толькі дасьведчанасьць і веды савецкіх законаў, але і здольнасьць разьбірацца ў гэтых законах.

У 1927 годзе з ліку членаў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту было вылучана дзеля працы ў Народных Камісарыятах 9 новых рабочых і сялян. Разам з старымі вылучэнцамі—членамі ЦВК БССР,—агульная колькасьць усіх вылучэнцаў, як у 1925 так і ў 1926 г. складае 15 асоб.

Пры выбарах у саветы, побач з уцягненьнем рабочых і сялян-беларусаў ў дзяржаўнае будаўніцтва, праводзіцца таксама ўцягненьне ў гэтую працу рабочых і сялян іншых караных нацыянальнасьцяй БССР.

Наступныя табліцы характарызуюць лічбовымі данымі вынікі гэтай працы ў галіне каранізацыі саветаў:

| ДАТЫ | Нацыянальны склад саветаў БССР у процантах | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | Яўрэі | Палякі | Расійцы |
| | Сельскія саветы | | | |
| У 1925 г. | 92,0 | 2.9 | 1,7 | 2,0 |
| „ 1926 г. | 92.3 | 2.3 | 2.3 | 1.6 |
| „ 1927 г. | 92,3 | 2,2 | 2.3 | 1.6 |
| | Местачковыя саветы | | | |
| У 1926 г. | 51.7 | 42.2 | 2.0 | 2.5 |
| „ 1927 г. | 53.2 | 40.5 | 2.2 | 2.5 |
| | Гарадзкія саветы. | | | |
| У 1925 г. | 38,3 | 30,2 | 3,2 | 21,13 |
| „ 1926 г. | 43,8 | 30,2 | 2.2 | 17.6 |
| „ 1927 г. | 45,1 | 30,6 | 2,5 | 14,49 |
| | Раённыя выканаўчыя камітэты. | | | |
| У 1925 г. | 81,8 | 6,5 | 1,5 | 6,5 |
| „ 1926 г. | 78.2 | 8,3 | 2,5 | 6,4 |
| „ 1927 г. | 79,2 | 8.5 | 3.1 | 5.7 |
| | Акруговыя выканаўчыя камітэты | | | |
| У 1925 г. | 67.1 | 13,2 | 2,6 | 08,7 |
| „ 1927 г. | 60.5 | 15.3 | 3.8 | 12.9 |
| | Цэнтральн. выканаўчы камітэт | | | |
| У 1925 г. | 54,0 | 14,0 | 14.0 | 04,5 |
| „ 1927 г. | 55,0 | 19.0 | 03,5 | 15.0 |

Удзел працоўных жанчын у савецкім будаўніцтве характарызуецца наступнымі лічбовымі данымі ў процантах адносна агульнага ліку актыўных выбаршчыкаў:

| Даты | Удзельнічаньне жанчын у перавыб. Саветаў у %% | | |
|---|---|---|---|
| | Сельсаветаў | Местачк. саветаў | Гарадзк. саветаў |
| У 1925 г. | 42,6 | — | — |
| „ 1926 „ | 46,6 | 48,9 | 33,8 |
| „ 1927 „ | 46,2 | 49,6 | 46,0 |

| Даты | Колькасьць жанчын абраных у саветы і выканаўчыя камітэты ў %% | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сельсаветы | Местачк. саветы | Гарадзкія саветы | Раённыя Выканкомы | Акруг. Выканкомы | Цэнтр. Выкан. каміт. |
| У 1925 г. | 9,36 | — | 16,88 | 8,25 | 7,41 | 04,9 |
| „ 1926 „ | 8,25 | 12,45 | 13,99 | 8,75 | — | — |
| „ 1927 „ | 7,22 | 12,29 | 15,76 | 9,59 | 8,28 | 11,0 |

У 1926 годзе 8 жанчын, з ліку абраных у сельсаветы, працавалі ў сельскіх саветах у якасьці старшынь гэтых саветаў. У гэтым-жа годзе 3 жанчыны былі абраны старшынямі местачковых саветаў. У 1927 годзе колькасьць жанчын—старшынь сельскіх саветаў павялічылась да 14; адна жанчына была абрана старшынёю раённага выканаўчага камітэту.

V.

## Характарыстыка працы нацыянальных саветаў.

2-я Сэсія ЦВК БССР VI скліканьня, як аб гэтым ужо заначалася вышэй, 15-га ліпеня 1924 году прыняла пастанову аб роўнапраўнасьці на тэрыторыі Беларусі 4-х моваў: беларускай, яўрэйскай, польскай і расійскай, якія мовы прызнаваліся—мовамі дзяржаўнымі.

Адначасна з гэтым Ураду БССР было прапанована зрабіць канкрэтныя захады да найлепшага абслугоўваньня нацыянальных меншасьцяй.

Адным з мерапрыемстваў у галіне ажыцьцяўленьня гэтае пастановы Сэсіі аб найлепшым абслугоўваньні нацыянальных меншасьцяй,—была арганізацыя нацыянальных саветаў.

| Даты | Колькасьць нацыянальных саветаў | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Яўрэйск. | Польскіх | Нямецкіх | Латыскіх | Расійскіх | Разам |
| 1924 г. | 7 | — | — | 2 | — | 9 |
| 1925 „ | 11 | 2 | 1 | 5 | 1 | 20 |
| 1926 „ | 18 | 13 | 2 | 4 | 1 | 38 |
| 1927 „ | 22 | 23 | 2 | 5 | 2 | 54 |

У 1926 годзе нацыянальныя саветы абслугоўвалі 69.495 чалавек, якія, паводле нацыянальнасьці, разьмяркоўваліся наступным парадкам:

| | |
|---|---|
| яўрэяў . . . . | 25.629 |
| палякаў . . . . | 18.490 |
| расійцаў . . . . | 3.697 |
| латышоў . . . . | 1.971 |
| немцаў . . . . | 2.167 |
| беларусаў . . . . | 9.379 |
| іншых нац. . . . . | 1.221 |

Склад нацыянальных саветаў, як гэта можна ўбачыць з вынікаў перавыбарчых кампаній за апошнія 2 гады, зусім забясьпечвае абслугоўваньне паасобных нацыянальнасьцяй. Так, у нацыянальных саветах было:

| | | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|
| У польскіх с.-саветах | —палякаў | 84,3% | 84,2% |
| „ латыскіх „ | —латышоў | 78,2% | 86,3% |
| „ нямецкіх „ | —немцаў | 90,0% | 75,0% |
| „ расійскіх „ | —расійцаў | 78,8% | 73,9% |
| „ яўрэйскіх „ | —яўрэяў | 75,9% | 91,2% сельск. нацсавет; 60,5% местачк. нацсавет |

Матар'ялы, атрыманыя пры абследваньні паловы існуючых нацсаветаў даюць магчымасьць зрабіць шэраг вывадаў, якія характарызуюць працу гэтых нацсаветаў, як з станоўчага, так і з адмоўнага бакоў.

Перш за ўсё належыць зьвярнуць увагу на некаторыя цяжкія ўмовы працы. Умовы гэтыя, якія існуюць у большасьці нацсаветаў, наступныя:

а) адсутнасьць даволі дасьведчаных нацработнікаў на мясцох, б) слабая гаспадарчая база нацсаветаў, в) тэрытарыяльная раскіданасьць насельных пунктаў (за выключэньнем нацсаветаў местачковых), г) невыстарчальная забясьпечанасьць большасьці нацсаветаў літаратурай на роднай мове, д) даволі моцны яшчэ ўплыў на насельніцтва клерыкальных груповак.

Усё гэта моцна перашкаджае правядзеньню грамадзкай працы ў нацсаветах. Пры такіх агульных умовах праводзіцца праца ў большасьці нацсаветаў.

Аднак, фактычная забясьпечанасьць роўных правоў ўсім нацыянальнасьцям і паасобныя мерапрыемствы Савецкай Улады вельмі спрыяюць як культурнаму і эканамічнаму росту насельніцтва арганізаванага ў нацсаветы, так і палепшаньню яго гаспадарчага становішча.

Мы маем у нацсаветах значны гаспадарчы ўздым наогул, асабліва-ж па шляху каапэраваньня насельніцтва. Існуе шэраг нацсаветаў, у якіх каапэравана ад 70 да 100 проц. насельніцтва.

Абуджэньню самадзейнасьці насельніцтва нацсаветаў і ўзьняцьцю яго культурнага ўзроўню садзейнічае: пашырэньне сеткі нацыянальных школ, хатаў-чытальняў, чырвоных куткоў і інш. Наглядаецца вялікая зацікаўленасьць насельніцтва ў арганізацыі школ-перасовак. Перапаўненьне палітгурткоў беспартыйнымі слухачамі, галоўным чынам, моладзьдзю, таксама сьведчыць аб актыўнасьці і культурным росьце. Значная колькасьць нацмоладзі вучыцца ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах БССР и РСФСР. У выніку ўзьняцьця культурнага ўзроўню насельніцтва прыкмячаецца імкненьне да пераходу на культурныя формы вядзеньня гаспадаркі—шматпольны севазварот, травасеяньне, пасеў карняплодаў, жывёлаводчы ўхіл у гаспадарцы і г. д. (у гэтым напрамку асабліва значныя дасягненьні маюцца ў Бярозаўскім і Аньзельмаўскім нямецкіх сельскіх саветах).

Вядома, што арганізацыя нацыянальных саветаў служыць перш за ўсё падставай для зьнішчэньня нацыянальнай варожасьці і розьні паміж асобнымі нацыянальнасьцямі і да ўзбуджэньня палітычнай і клясавай сьвядомасьці насельніцтва. Мы ведаем, што да арганізацыі нацыянальных саветаў было шмат розных недарэчнасьцяй, асабліва пры разьмяркаваньні сенажацяй, лясоў, падатковых ільготаў і г. д. Значная частка розных непаразуменьняў зьнішчана шляхам практычнай работы нацыянальных саветаў, што цягне за сабою павялічэньне актыўнасьці бядняцка-серадняцкай часткі

насельніцтва і прыводзіць бедняка да зразуменьня сваіх клясавых інтарэсаў.

Дзякуючы арганізацыі нацыянальных саветаў і правільнаму вырашэньню нацпытаньня наогул, ёсьць значны пералом у палітычным настроі большасьці насельніцтва, асабліва-ж сярод бядняцкай і серадняцкай часткі яго. Аб гэтым сьведчаць, напрыклад, наступныя факты: аднагалоснае прыняцьце пастановы на ўрачыстым сходзе грамадзян в. Александраўка ў дзень 9-й гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі з прывітаньнем ураду БССР і з адзначэньнем правільнага вырашэньня нацыянальнага пытаньня; аднагалосна прынятая грамадзянамі в. Кустаўніцы пастанова аб матар'яльнай дапамозе ангельскім вуглякопам; прынятая аднагалосна грамадзянамі в. Александраўка пастанова аб наданьні пабудаванай пры шырокім удзеле мясцовага насельніцтва школе— імя т. Дзяржынскага; аднагалосна прынятая пастанова грамадзянамі вёсак Хвіліты і Малінаўка аб тым, што толькі Кампартыя і Савецкая ўлада правільна і ў інтарэсах працоўных разьвязваюць нацыянальнае пытаньне і даюць магчымасьць свабодна разьвівацца культуры кожнай нацыі.

Ёсьць значныя дасягненьні ў галіне абслугоўваньня насельніцтва на роднай мове. Напрыклад, праца Тураўскага, Капаткевіцкага і Нараўлянскага яўрэйскіх саветаў цалком пераведзена на яўрэйскую мову, на якой і абслугоўваецца яўрэйскае насельніцтва.

Таксама ў Кустаўніцкім і Весялоўскім польскіх саветах уся праца ў апошні час, як па канцаляры, так і па абслугоўваньню насельніцтва, пераведзена на польскую мову. У Тварычаўскім і Александраўскім польскіх саветах робяцца рашучыя захады да канчатковага пераходу на польскую мову. У Аньзельмаўскім і Бярозаўскім нямецкіх саветах насельніцтва абслугоўваецца выключна на нямецкай мове.

Дасягненьні ў працы нацыянальных саветаў, як у эканамічных так і культурных адносінах, у значнай ступені зьяўляюцца вынікам актыўнасьці працы нацсаветаў, а таксама належных адносін да іх з боку кіруючых органаў. Разам з гэтым неабходна адзначыць галоўныя недахопы ў працы нацсаветаў.

У некаторых мясцох ужываліся пры арганізацыі нацыянальных саветаў прынцыпы выключна нацыянальныя, бяз вучоту тэрытарыяльных умоў. На мясцох у некаторых выпадках тлумачылася, што ў яўрэйскія, напрыклад, нацсаветы ўваходзяць адны яўрэі, а ўсе іншыя нацыянальныя меншасьці, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі нацсаветаў, ўваходзяць у бліжэйшыя сельскія саветы. Гэткая арганізацыя не адпавядае прынцыпам вырашэньня нацпытаньня ў пажаданым напрамку, перашкаджае працы па зьнішчэньню нацыянальнай адасобленасьці і дае падставу дзеля розных

недарэчнасьцяў пры разьвязваньні практычных жыцьцёвых пытаньняў. Заўважваецца, што паміж некаторымі местачковымі саветамі і райвыканкомамі ў процэсе практычнай працы няма поўнага разьмежаваньня функцый, асабліва ў галіне камунальнай гаспадаркі, дабраўпарадкаваньня і па пытаньнях кіраўніцтва арганізацыямі і ўстановамі, якія знаходзяцца на тэрыторыі местачковых саветаў. Дзякуючы гэтым акалічнасьцям, саветы не заўсёды маюць магчымасьць праявіць і ажыцьцявіць ініцыятыву ў сэнсе грамадзкай арганізацыі насельніцтва па лініях гаспадарчай і культурна-асьветнай.

Назіраецца адсутнасьць яскравага зразуменьня, што павінны рабіць камісіі і якія іх абавязкі. Высьвятлілася, што з боку райвыканкомаў было мала кіраўніцтва і практычных указаньняў, як падняць працу камісій нацсаветаў.

У некаторых абсьледаваных нацсаветах няма працаўнікоў добра знаёмых з савецкім будаўніцтвам, якія-б маглі разгарнуць эканамічную і культурную працу з падлікам асаблівасьцяй кожнага нацсавету і праводзіць вытрыманую савецкую лінію ў сваёй працы.

Заўважана, што некаторыя нацсаветы слаба правяраюць і наглядаюць за выкананьнем арганізацыямі, установамі і асобамі пастаноў і распараджэньняў як самога савету, так і вышэйшых органаў улады.

Адзначаецца слабасьць працы камітэтаў сялянскай узаемадапамогі: слабыя фонды матар'яльнай дапамогі, няма падліку каму трэба аказваць дапамогу.

З боку райвыканкомаў ня досыць зварочваецца ўвагі на пытаньні ўсебаковага вывучэньня працы нацсаветаў; ёсьць выпадкі, калі райвыканкомы заслухоўваюць справаздачы нацсаветаў без папярэдняга абсьледаваньня іх працы.

Нацыянальная Камісія ЦВК, прымаючы пад увагу ўсе дасягненьні і недахопы ў працы нацсаветаў палічыла неабходным у першую чаргу зазначыць наступнае.

Нацыянальныя сельскія і местачковыя саветы павінны ўтварацца згодна нацыянальна-тэрыторыяльных асаблівасьцяй, а не па аднэй толькі нацыянальнай адзнацы. Гэта значыць, што ў тэрытарыяльны склад нацсаветаў павінна ўваходзіць насельніцтва ўсіх нацыянальнасьцяй, якое жыве на тэрыторыі данага савету; адначасова забясьпечыўшы ў гэтых нацсаветах прадстаўніцтва нацменьшасьцяй, якія жывуць на тэрыторыі нацсаветаў.

З мэтай поўнага абслугоўваньня на роднай мове большасьці насельніцтва, арганізаванага ў нацсаветы, падкрэсьліваецца неабходнасьць забясьпечаньня саветаў такімі працаўнікамі, якія добра ўладаюць мовай большасьці насельніцтва.

Камісія прызнала мэтазгодным і неабходным надаць бюджэтныя правы ўсім местачковым саветам, а таксама вывучыць пытаньне аб наданьні гэтакіх-жа правоў іншым нац. сельсаветам,—для ўтварэньня цьвёрдай матар'яльнай базы.

Неабходна больш практычна падыйсьці да ажыўленьня працы камісій, шляхам уцягненьня ў склад гэтых камісій—членаў саветаў і сялянскага актыву, дапамагаючы камісіям у распрацоўцы плянаў іх працы і з мэтай удзелу гэтых камісій у папярэднім разважаньні над усімі пытаньнямі, якія закранаюць інтарэсы насельніцтва.

Трэба ажыцьцяўляць сыстэматычнае нагляданьне з боку органаў, якія даюць нацсаветам дырэктывы, як гэтыя дырэктывы выконваюцца нацсаветамі, а таксама дабіцца, каб нацсаветы сачылі за тым, як выконваюцца іх пастановы арганізацыямі, установамі і асобамі, якія знаходзяцца на тэрыторыі нацсаветаў.

Для падрыхтоўкі працаўнікоў нацсаветаў арганізаваць курсы старшынь і сакратароў нацсаветаў і часьцей інструктаваць працаўнікоў нацсаветаў ў іх практычнай працы—шляхам склікаоньня нарад і г. д.

Зьвярнуць увагу адпаведных органаў на плянавасьць крэдытаваньня саматужнікаў мястэчка і беднаты вёскі, як дзяржаўнай пазыкай, грашыма, так і водпускам лесаматар'ялаў на земляўпарадкаваньне працоўных яўрэяў, уцягненьне іх у вытворчую працу і г. д.

Для хутчэйшага пераводу ўсёй працы на родную мову насельніцтва трэба забясьпечыць саветы неабходнымі падручнікамі, кнігамі і блянкамі на мовах адпаведных нацсаветаў.

---

VI.

## Культурнае будаўніцтва і беларусізацыя культурна-асьветных устаноў.

### Асьвета перад Кастрычнікавай Рэвалюцыяй.

Перад Рэвалюцыяй Беларусь была, як вядома, адной з самых адсталых у культурна-асьветным сэнсе акраін Эўрапэйскай часткі б. царскай Расіі. Палітыка царскага ўраду не давала магчымасьці працоўнаму народу разьвівацца культурна і зусім ня лічылася з нацыянальнымі асаблівасьцямі насельніцтва.

Цікава параўнаць даныя аб навучальных установах, якія існавалі да вайны, з данымі аб гэтых-жа ўстановах—у 1926 г. Гэтае параўнаньне павінна быць тым больш цікавым, што колькасьць насельніцтва ў межах БССР (бяз Гомельшчыны), паводле даных ЦСУ, у 1926 г. і перад вайной,—на тэрыторыі сучаснае БССР была аднолькавая (каля 4.500.000). Гэ-

та дае магчымасьць параўнаньня забясьпечанасьці асьветных запатрабаваньняў тады і цяпер.

Зразумела, што гэтыя параўнаньні толькі колькасныя. У якасным сэнсе рэвалюцыя дала школе зусім іншую мэтавую ўстаноўку, іншы зьмест, высунула новыя мэтады і арганізацыю навучаньня, утварыла новую сыстэму выхаваньня, зварочваючы вялікую ўвагу на палітыка-асьветнае навучаньне.

| Даты | Вышэйшыя навучальныя установы | | | Прафэс. навуч. установы | | | Пэдагагічн. навуч. установы | | | Сярэдн. спэц. навуч. установы | | | Агульна-асьвет. сярэдн. і пачатковыя школы | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кольк. устаноў | Кольк. вучэбнага пэрсаналу | Колькасьць студэнтаў | Кольк. школ | Колькасьць настаўнік. | Колькасьць вучняў | Кольк. школ | Колькасьць настаўнік. | Колькасьць вучняў | Кольк. школ | Колькасьць настаўнік. | Колькасьць вучняў | Колькасьць школ | Колькасьць настаўнік. | Колькасьць вучняў |
| На 1/I 1914 г. | — | — | — | 11 | 58 | 950 | 5 | 48 | 614 | 12 | 271 | 4253 | 3705 | 5684 | 250882 |
| На 1/I 1926 г. | 4 | 446 | 4094 | 46 | 530 | 4136 | 10 | 150 | 2028 | — | — | — | 4330 | 8944 | 370220 |

Калі мы возьмем толькі нізшую пачатковую асьвету дарэвалюцыйнага пэрыоду і параўнаем з нашымі 4-х годкамі і першым канцэнтрам 7-мі годак, дык атрымаем пры параўнаньні наступныя даныя:

| Даты: | Колькасьць камплектаў | Колькасьць вучняў | Вучні ад 8-11 г. у %% адносінах да агульн. колькасьці дзяцей гэтага ўзросту | Колькасьць вучняў на 100 чалав. насельніцтва | Колькасьць вучняў на 1 настаўніка | % адна-камплектных школ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| На 1/I 1914 г. | 4193 | 225,751 | 43,9 | 5,6 | 54,0 | 80,0 |
| На 1/I 1926 г. | 6891 | 336,055 | 66,2 | 7,5 | 48,8 | 70,0 |

З гэтых параўнальных даных мы бачым, што народная асьвета на тэрыторыі сучаснай Беларусі—ў 1914 г. стаяла значна ніжэй сучаснага яе становішча.

Зьвяртае на сябе ўвагу поўная адсутнасьць вышэйшых навучальных устаноў, нязначная колькасьць прафэсыянальных школ, малы ахват пачатковай школай дзяцей ад 8 да 10 гадоў, вялікая нагрузка на настаўніка, значны процант аднакамплектных школ. Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што пачатковая школа была трохгадовая, што школа зусім не

лічылася з нацыянальнымі асаблівасьцямі насельніцтва і зусім ігнаравала ў навучаньні родную мову вучняў.

### Арганізацыйны пэрыод разьвіцьця асьветы ў БССР.

Пэрыод да 1922-23 навучальнага году характарызуецца буйным, стыхійным ростам культурна-асьветных устаноў у БССР, і аднача́сна вельмі цяжкім матар'яльным становішчам гэтых устаноў. Перыод гэты зьяўляецца пэрыодам утварэньня новых форм народнай асьветы.

1922-23 навучальны год зьяўляецца пачаткам арганізаванай, плянавай, сыстэматычнай працы ў галіне народнай асьветы. Культурна-асьветная сетка даводзіцца да парадку, вызначаюцца штаты для кожнай групы культурна-асьветных устаноў, апрацоўваюцца праграмы для навучальных устаноў, матар'яльнае становішча культурна-асьветных устаноў значна паляпшаецца як коштам скарачэньняў, так і коштам калялктыўнай дапамогі школе з боку бацькоў вучняў (плата за вучэньне) у гарадох і—каляктыўных дагавароў з насельніцтвам аб дапамозе школе—ў сельскіх мясцовасьцях.

1923-24 навучальны год зьяўляецца годам першага пашырэньня БССР, да якой далучаецца значная частка Віцебскай, Гомельскай і частка Смаленскай губэрній. Навучальны год праходзіць пад знакам вызначэньня плянаў ураўнаньня становішча школ у розных частках БССР. Ураўнаньне гэтае датычыла сыстэмы народнае асьветы, нацыянальнай палітыкі, матар'яльнага становішча, арганізацыі культурна-асьветных устаноў, мэтадаў і спосабаў працы.

Канчатковае ўраўнаньне школьнай сеткі скончылася ў 1924-25 навучальным годзе.

### Матар'яльная база асьветы.

Палепшаньне эканамічнага становішча Рэспублікі дало магчымасьць, пачынаючы з 1923-24 г., значна павялічыць сродкі на народную асьвету, як па дзяржаўнаму, так і мясцоваму бюджэтам і гэтым значна пасунуць наперад справу асьветы. Бюджэтная дынаміка ў справе народнай асьветы акрэсьліваецца наступнымі лічбамі:

| Пэрыоды: | Сродкі, асыгнаваныя на асьвету | | |
|---|---|---|---|
| | Па дзяржаўнаму бюджэту | Па мясцоваму бюджэту | Разам: |
| 1923-24 . . . . . | 2.184.162 | 3.243.000 | 5.427.162 |
| 1924-25 . . . . . | 3.999.853 | 5.551.076 | 9.550.929 |
| Процант павялічэньня | 83,1 | 71,2 | 75,8 |
| 1925-26 . . . . . | 5.804.060 | 8.958.817 | 14.762.877 |
| Процант павялічэньня | 45.1 | 61,9 | 55,6 |
| 1926-27 . . . . . | 7.040.000 | 12.045.682 | 19.085.682 |
| Процант павялічэньня | 21,3 | 34,4 | 29,0 |

У 1925-26 годзе выдаткі на асьвету складалі 20,2 проц. мясцовага і 27,5 проц. агульна-рэспубліканскага бюджэту. Разьмяркаваньня гэтых сродкаў па асобных галінах асьветы ў 1925-26 годзе было наступнае: на сацыяльнае выхаваньне было выдана 54,3 проц. ўсіх сродкаў, на вышэйшыя навучальныя ўстановы і рабочыя факультэты—15,8 проц., на ўстановы палітасьветы і лікпункты—10,2 проц., на нізшую і сярэднюю прафэсыянальную асьвету—10,0 проц.

## Сацыяльнае выхаваньне.

Найбольшае месца ў сыстэме народнай асьветы, як па колькасьці ўстаноў, так і па выдаваемым на іх сродкам,—займае сацыяльнае выхаваньне дзяцей, ў прыватнасьці, працоўныя школы. Пры культурнай адсталасьці беларускага насельніцтва, аднэй з галоўных кардынальных задач Наркамасьветы БССР зьяўляецца барацьба за элемэнтарную пісьменнасьць, пачынаючы ад дзіцячага ўзросту.

Сетка працоўных школ пашыраецца колькасна і палепшаецца якасна. Паданая ніжэй табліца навочна паказвае рост працоўных школ у БССР (бяз Гомельшчыны) на працягу трох апошніх гадоў:

| ДАТЫ | 4-х годкі | | | 7-мі годкі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць працоўн. школ | Колькасьць настаўнікаў | Колькасьць вучняў | Колькасьць працоўн. школ | Колькасьць настаўнікаў | Колькасьць вучняў |
| 1924-25 . . | 3.773 | 5.111 | 255.902 | 274 | 3.012 | 85.012 |
| 1925-26 . . | 4.057 | 5.645 | 279.128 | 261 | 3.256 | 90.421 |
| 1926-27 . . | 4.305 | 6.141 | 300.100 | 279 | 3.487 | 97.641 |

Колькасьць 4-х годак, лічучы і Гомельшчыну, дасягнула ў 1926-27 годзе да 4.825.

На падставе вышэйпаказаных даных, працоўная школа ахватвала (бяз пераросткаў) дзяцей: а) ад 8 да 11 гадоў у 1924-25 г.—63,2 проц.; у 1925-26 г.—66,2 проц.; у 1926-27 г.—69,3 проц бяз Гомельшчыны, а разам з Гомельшчынай—71,6 проц.

б) ад 12 да 15 гадоў у старшых канцэнтрах сямігодкі, ў адпаведныя гады: 8,0 проц., 8,2 проц. і 8,8 проц.

1925-26 і 1926-27 навучальныя гады зьяўляюцца гадамі значнага колькаснага пашырэньня пачатковай асьветы ў Беларусі. У 1925-26 г. 4-х годкі і першыя канцэнтры 7-мі годак павялічылі колькасьць сваіх камплектаў на 463, а ў 1926-27 г. на 621.

Павялічэньне колькасьці вучняў ў школах за апошнія 3 гады вызначаецца наступнымі лічбамі:

| ПЭРЫОДЫ | 4-х годкі | | 7-мі годкі | | Усяго вучняў | | Агульн. колькасьць усіх вучняў школ незалежна ад полу |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Хлопцаў | Дзяўчат | Хлопцаў | Дзяўчат | Хлопцаў | Дзяўчат | |
| 1924-25 . . | 184.761 | 71.141 | 45.795 | 39.217 | 230.556 | 110.358 | 340.914 |
| 1925-26 . . | 195.094 | 84.034 | 49.403 | 41.019 | 244.497 | 125.052 | 369.550 |
| 1926-27 . . | 232.619 | 112.967 | 57.755 | 46.306 | 290.374 | 159.273 | 449.647 |

Разьмяркаваньне вучняў у школах Сацвыху паводле нацыянальнасьці ў 1926-27 г., разам з Гомельшчынай, было наступнае:

| ТЫП ШКОЛАЎ | Агульная колькасьць школ | Колькасьць школ, якія далі аб сабе весткі | Усяго вучняў у школах | | Нацыянальны склад вучняў | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Беларусы | | Яўрэі | |
| | | | Колькасьць | % | Колькасьць | % | Колькасьць | % |
| 4-х годкі . . | 4.900 | 4.854 | 344.063 | 100 | 280.571 | 81,1 | 20.628 | 06,0 |
| 7-мі годкі . . | 294 | 289 | 103.300 | 100 | 55.323 | 53.6 | 34.514 | 33,4 |
| Школы сялянск. моладзі . . | 15 | 13 | 1.250 | 100 | 1.101 | 88,1 | 97 | 07.7 |
| 9-ці годкі . . | 8 | 8 | 3.904 | 100 | 2.677 | 68,6 | 697 | 17,8 |

| ТЫП ШКОЛАЎ | Нацыянальны склад вучняў | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Палякі | | Расійцы | | Іншыя | |
| | Колькасьць | % | Колькасьць | % | Колькасьць | % |
| 4-х годкі . . | 10.891 | 3,3 | 29.522 | 8,8 | 2.451 | 0,8 |
| 7-мі годкі . . | 3.754 | 3,6 | 8.330 | 8,1 | 1.379 | 1,3 |
| Школы сялянск. моладзі . . | 32 | 2,6 | 14 | 1,1 | 6 | 0,5 |
| 9-ці годкі . . | 131 | 3,3 | 323 | 8,3 | 76 | 2,0 |

Сацыяльны склад вучняў працоўных школ у 1925-26 годзе быў наступны: дз. рабочых—6,7 пр. дз., сялян—74,4 пр., служачых—5,7 проц. дз. саматужнікаў і інш.—13,2 проц. Калі ўзяць толькі 7-мі гадовыя школы (бяз транспартных), дык сацыяльны склад вучняў у гэтых школах у 1925-26 годзе быў наступны: дзяцей рабочых—17,4 проц., дзяцей сялян бяззямельных і беднаты—10,6 проц., дзяцей сялян, якія плацяць сельска-гаспадарчы падатак па I і II катэгорыям—24,1 проц.; дзяцей сялян, якія плацяць сельск. гасп. падатак па III і IV катэгорыях—6,2 проц.; дзяцей савецкіх служачых—18,3%; дзяцей вайсковых служачых—1,7 проц.; дзяцей саматужнікаў—13,3 проц.; дзяцей гандляроў і прамыслоўцаў—8,4%.

У 1925-26 годзе працоўных школ сямігодак—разам з транспартнымі—было 261, а ў 1926-27 годзе гэтых школ было ўжо 294. Да хвілі ажыцьцяўленьня ўсеагульнага навучаньня, адчыненьне старшых канцэнтраў 7-мі годак, па неабходнасьці, будзе зьцішана. У 1926-27 годзе, у зьвязку з аграмадным наплывам сялянскіх дзяцей у школы, была арганізавана ў 7-мі годках 50 новых роўналежных клясаў, галоўным чынам—чацьвёртых і пятых групаў. Для таго, каб даць магчымасьць вучыцца ў 7-мі годках дзецям беднаты—пры 50 проц. усіх сельскіх сямігодак арганізаваны інтэрнаты.

## Усеагульнае навучаньне.

Разьвіцьцё справы народнае асьветы паставіла ў чаргу пытаньне аб увядзеньні ў Рэспубліцы ўсеагульнага абавязковага навучаньня. Пастановай ЦВК і СНК БССР за 7 красавіка 1926 г. былі ўстаноўлены асноўныя прынцыпы ўвядзеньня ўсеагульнага навучаньня. Канчатковым тэрмінам увядзеньня ўсеагульнага навучаньня па ўсёй Рэспубліцы вызначаны 1934-35 г. г.; пабудову школьных будынкаў для ўсіх школ мяркуецца ажыцьцявіць на працягу 15 гадоў, а ў пагранічных раёнах—на працягу 8 гадоў. Асноўным тыпам працоўнай школы дзеля правядзеньня ўсеагульнага навучаньня—лічыцца 4-х гадовая двухкамплектная школа з нармальным камплектам у 40 чалавек і радыусам абслугоўваньня тэрыторыі ня болей 3-х кілёмэтраў. Права нацыянальных меншасьцяй на школу з роднай мовай—забясьпечваецца.

Найбольш цяжкім пытаньнем пры ўвядзеньні ўсеагульнага навучаньня—зьяўляецца будаваньне школьных будынкаў. Усяго патрэбна будзе пабудаваць новыя будынкі для 8.161 школьных камплектаў (4.082 двухкамплектных школ). З гэтага ліку школ—1969 камплектаў знаходзіліся у 1925-26 годзе ў наёмных памяшканьнях, а 6192 камплекты будуць адчынены, згодна пляну,—на працягу 8 гадоў.

Усяго на ўвядзеньне ўсеагульнага навучаньня і пабудову школьных будынкаў (бяз кошту лесу) патрэбна будзе на працягу наступных 14 гадоў—58.094.216 рублёў.

## Дашкольнае выхаваньне.

Усяго ў 1925-26 г. дзейнічала дзіцячых садоў і ачагоў, якія знаходзяцца пад загадам акруговых аддзелаў народнай асьветы—62, у параўнаньні з 48, якія існавалі ў папярэднім годзе. Паводле мовы гэтыя дзіцячыя сады і ачагі разьмяркоўваліся наступным парадкам: беларускіх дзіцячых садоў і ачагоў—34, жыдоўскіх—19, расійскіх—5, польскіх—2, мешаных—2. На працягу 1925-26 году патрэбна адзначыць ініцыятыву ў адчыненьні дзіцячых пляцовак на сродкі грамадзян. Такіх пляцовак было адчынена 83, што складае 62,3 пляцовак, што знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце (136). Як асобны тып дашкольнай установы ў БССР маюць значнае разьвіцьцё т. з. нулявыя групы пры 7-мі гадавых працоўных школах. Гэтакіх нулявых групаў налічваецца 207; карысьць ад гэтых групаў, як ад скарачаных дзіцячых садоў,—пацьвярджаецца вопытам.

Усе дашкольныя ўстановы і дзіцячыя сады абслугоўвалі 7.386 дзяцей, што адносна ўсіх дзяцей дашкольнага ўзросту—558.000, складае 1,5 проц. З агульнага ліку дзяцей, якія абслугоўваліся установамі дашкольнага выхаваньня, на горад прыпадае—3,8 проц, на вёску—0,3 проц. Вёска да сучаснага моманту абслугоўваецца пляцоўкамі, якія працуюць 2-3 летніх месяцы. На кожную пляцоўку прыпадае ў сярэднім выдаткаў 200 рублёў. Уцягваньне ў дашкольную працу грамадзкіх арганізацый дае свае вынікі. У гэтую працу ўжо ўцягнуты жылкаапэрацыя, Савет Прафэсыянальных саюзаў, паасобныя саюзы, камітэты ўзаемадапамогі і ЦК Дапамогі дзецям.

Барацьба з дзіцячай беспрытульнасьцю праводзіцца, галоўным чынам, праз дзіцячыя дамы. Дзіцячы дом ставіць сваёю мэтаю:—выхаваць з беспрытульнага і безнагляднага дзіцяці—фізычна моцнага і здаровага падростка, і даць яму пэўную суму працоўных навыкаў і неабходны запас ведаў, каб па выхадзе з дзіцячага дому ён здоляў прыстасавацца да жыцьця і сьвядома ў ім арыентавацца. Дзіцячыя дамы імкнуцца выхаваць каляктывістых і барацьбітоў за сацыялістычны лад, на падставе ўдзелу дзяцей ў грамадзкай працы і грамадзкім жыцьці, ў вытворчай працы і піанэрскім руху.

Колькасьць дзіцячых дамоў і выхоўваемых у гэтых дамох дзяцей характарызуецца наступнымі данымі:

| ДАТЫ | Колькасьць дзіцячых дамоў | Колькасьць дзяцей у дзіцячых дамох |
|---|---|---|
| 1923-24 . . . | 155 | 7547 |
| 1924-25 . . . | 81 | 6020 |
| 1925-26 . . . | 73 | 5660 |
| 1926-27 . . . | 73 | 6041 |

У 1926-27 годзе лік дзіцячых дамоў ужо ня скарачаўся, а лік дзяцей у іх павялічыўся на 381 чал.

Па сацыяльнаму становішчу выхаванцы дзіцячых дамоў падзяляюцца наступным парадкам: дзяцей рабочых—41,4%, дзяцей сялян—35,3 проц., дзяцей служачых—12,6 проц., дзяцей невядомага сацыяльнага пахаджэньня—10,7 проц.

Па нацыянальным адзнакам выхаванцы дзіцячых дамоў падзяляюцца наступным парадкам: беларусоў—71,0 проц., яўрэяў—22,0 проц., палякаў—2,4 проц., расійцаў—3,2 проц., іншых—1,4 проц.

У сучасны момант дзіцячыя ўстановы падзяляюцца на наступныя групы: дзіцячыя дамы, дзіцячыя гарадкі, піанэрдамы, школы-камуны з сельска-гаспадарчым ухілам, сельска-гаспадарчыя калёніі. Найбольш жыцьцёвымі ў сучасны момант зьяўляюцца школы-камуны з сельска-гаспадарчым ухілам і сельска-гаспадарчыя калёніі, пад якімі ёсьць матар'яльная і навукова-вытворчая база. Месцам існаваньня гэтых школ-камун і калёній зьяўляецца прыгарадная альбо сельская мясцовасьць. Наркамасьветы БССР бярэ напрамак на арганізацыю іменна гэтага тыпу дзіцячых устаноў, а ў гарадох—невялічкіх дзіцячых дамоў на 40-50 чалавек.

Выхаваўчая праца ў дзіцячых дамох з кожным годам палепшаецца. Частка дзяцей, якія канчаюць сямігодкі,—паступаюць у сярэднія прафэсыянальныя і нават у вышэйшыя школы. Так, у 1925-26 годзе паступіла ў прафшколы 134 выхаванца дзіцячых дамоў, у тэхнікумы—36, на рабфакі—14, у школы фабзавучу—8, у сельска-гаспадарчыя школы—40, у вышэйшыя навучальныя ўстановы—15, усяго—247 чалавек.

Выхаванцы дзіцячых дамоў, якія дасягнулі 16 гадовага ўзросту і не паступілі ў школу—накіроўваюцца на работы на прадпрыемствы. У 1925-26 годзе была накіравана на прадпрыемствы 649 чалавек, з якіх 369 як бронь.

Паводле нацыянальных адзнакаў, дзіцячыя дамы разьмяркоўваюцца наступным парадкам: беларускіх—45, яўрэйскіх—16, польскіх—4, расійскіх—2, латыскіх—1, іншых—5.

Праца дзіцячых дамоў і садоў на роднай мове мае яшчэ большае значэньне, чым праца школ. Дзіцячыя дамы—установы зачыняныя; дзеці ўвесь свой дзень праводзяць у гэтых установах.

Калі школьнік большую частку свайго жыцьця праводзіць у сям'е, дзе ён выхоўваецца і разьвіваецца, дык выхаванец дзіцячага дому сям'і ня мае; для яго сям'я—гэта дзіцячы дом. Выхавацель дзіцячага дому замяняе яму матку; мова выхавацеля замяняе матчыную мову; вось чаму выхаваньне на роднай мове ў дзіцячых дамох мае такое вялікае значэньне.

## Нацыянальны прынцып у працоўных школах.

Савецкая Ўлада з самага пачатку свайго існаваньня ў Беларусі зьвярнула вялікую ўвагу на разьвіцьцё культуры сярод працоўных масаў. Нацыянальны прыгон на працягу шэрагаў стагодзьдзяў і русіфікатарская палітыка царскага ўраду не давалі магчымасьці разьвіць сваю культуру народам, якія жылі ў Беларусі. Нацыянальных школ у Беларусі да Кастрычнікавай Рэвалюцыі амаль ня было, ва ўсіх школах усе прадметы выкладаліся на расійскай мове. Тых настаўнікаў, якія прабавалі выкладаць у школах родную мову—звальнялі з пасады і прасьледвалі. Цемната беларускай вёскі ў значнай сваёй частцы зьяўляецца вынікам гэтай палітыкі царскага ўраду, які не дазваляў адчыняць беларускія школы, забараняў выдаваньне беларускай літаратуры, трактаваў беларускую мову, як мову мужыцкую.

Ужо ў лютым 1921 году, II-я Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР II-га скліканьня даручыла Народнаму Камісарыяту Асьветы зрабіць усе захады да сапраўднага наданьня ўсім нацыянальнасьцям Рэспублікі магчымасьці атрымліваць асьвету і выхаваньне на сваёй роднай мове. Ад гэтага часу і пачалося фактычнае правядзеньне нацыянальнай палітыкі ў школах і, у прыватнасьці,—беларусізацыя школ. Перад усім была зьвернута ўвага на падрыхтоўку настаўнікоў, якія-б маглі выкладаць прадметы на роднай мове дзяцей, дзеля чаго пачалі арганізоўвацца кароткатэрміновыя і сталыя курсы. З 1922 году пачалі выдавацца даволі шпаркім тэмпам школьныя падручнікі на нацыянальных мовах. Быў апрацаваны і зацьверджаны Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам плян паступовага і сыстэматычнага пераводу школ на родную мову выкладаньня.

У выніку ўсіх гэтых мерапрыемстваў працоўныя школы, паводле нацыянальных адзнакаў, падзяляюцца наступным парадкам:

| ДАТЫ | Тыпы школаў | Белар. Кольк. | Белар. % | Яўрэйск. Кольк. | Яўрэйск. % | Польск. Кольк. | Польск. % | Расійск. Кольк. | Расійск. % | Іншыя Кольк. | Іншыя % | Разам Кольк. | Разам % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1924-25 | 4-годкі | 3533 | 93,6 | 87 | 2,4 | 94 | 2,3 | 45 | 1,2 | 14 | 0,5 | 3773 | 100 |
| | 7 „ | 176 | 69,6 | 42 | 16,6 | 5 | 2,0 | 29 | 11,4 | 1 | 0,4 | 253 | 100 |
| 1925-26 | 4 „ | 3794 | 93,5 | 123 | 3,0 | 91 | 2,3 | 27 | 0,7 | 20 | 0,5 | 4055 | 100 |
| | 7 „ | 199 | 76,2 | 44 | 16,8 | 7 | 2,5 | 12 | 4,6 | 1 | 0,5 | 263 | 100 |
| 1926-27 | 4 „ | 4190 | 85,3 | 147 | 3,01 | 122 | 2,6 | 407 | 8,4 | 31 | 0,7 | 4897 | 100 |
| | 7 „ | 197 | 66,6 | 53 | 18,2 | 10 | 3,8 | 32 | 11,0 | 1 | 0,4 | 293 | 100 |

*Увага*: У 70 беларускіх школах польская мова выкладаецца як прадмет.

Процант школ, якія праводзяць выкладаньне на нацыянальных мовах адпавядае колькасьці насельніцтва паасобных нацыянальнасьцяй, за выключэньнем школ яўрэйскіх і некаторых расійскіх (4-х годкі). Неадпаведнасьць школ з яўрэйскай мовай выкладаньня—колькасьці яўрэйскага насельніцтва тлумачыцца, галоўным чынам, імкненьнем дробна-буржуазнага яўрэйскага насельніцтва пасылаць сваіх дзяцей у беларускія або расійскія школы. Неадпаведнасьць расійскіх школ—4-х годак колькасьці расійскага насельніцтва тлумачыцца тым, што 4-х годкі знаходзяцца пераважна ў сельскіх мясцовасьцях, дзе расійскае насельніцтва жыве расобнымі сем'ямі сярод масаў беларускага насельніцтва. Расійскае насельніцтва, якое жыве ў гарадох, абслугоўваецца 7-мі гадовай працоўнай школай з расійскай мовай выкладаньня нароўні з усімі іншымі нацыянальнасьцямі.

Беларусізацыя школ сацыяльнага выхаваньня ў 1925-26 годзе значна пасунулася наперад; разьвіцьцё беларусізацыі ілюструецца наступнымі лічбовымі данымі.

Зьвернемся спачатку да 4-х годак:

| ДАТЫ | Колькасьць беларусізаваных клясаў у 4-годках і % школ: 4 клясы Колькасьць шк. | 4 клясы % шк. | 3 клясы Колькасьць шк. | 3 клясы % шк. | 2 клясы Колькасьць шк. | 2 клясы % шк. | 1 кляса Колькасьць шк. | 1 кляса % шк. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1924-25 . . . . | 1005 | 28,4 | 333 | 9,4 | 881 | 25 | 1334 | 37,2 |
| 1925-26 . . . . | 3021 | 79,6 | 773 | 20,4 | — | — | — | — |

Аб беларусізацыі 7-мі годак гавораць наступныя лічбы:

| ДАТЫ | Колькасьць беларусізаваных клясаў у сямігодках і % школ | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 клясаў | | 6 клясаў | | 5 клясаў | | 4 клясы | | 3 клясы | | 2 клясы | | 1 кляса | |
| | Кольк. шк. | % шк. | Кольк. шк. | % шк. | Кольк. шк. | % шк. | Кольк. шк. | % шк. | Кольк. шк. | % шк. | Кольк. шк. | % шк. | Кольк. шк. | % шк. |
| 1924-25 . | 3 | 1,6 | 5 | 2,6 | 2 | 1,1 | 49 | 25,8 | 61 | 32,1 | 22 | 11,5 | 48 | 25,3 |
| 1925-26 . | 88 | 43,7 | 3 | 1,5 | 17 | 9,0 | 30 | 15,1 | 36 | 18,1 | 25 | 12,6 | — | — |

Як відаць з паданых вышэй табліц у 1924-25 годзе 37 проц. беларускіх 4-х годак увялі выкладаньне прадметаў на беларускай мове толькі ў адным—1-ым годзе навучаньня, 25 проц. толькі ў 1-м і 2-м годзе навучаньня; у 1925-26 годзе такіх школ ужо ня было і ¾ 4-х годак поўнасьцю перайшлі на беларускую мову выкладаньня. У 1924-25 годзе з усіх беларускіх сямігодак толькі 1,6 проц. увялі выкладаньне поўнасьцю на беларускай мове, а ў 1925-26 годзе такіх школ налічвалася каля паловы агульнай іх лічбы. Перавод школ на родную мову выкладаньня зрабіў значную палёгку ў працы школ і павінен адбіцца ў бок палепшаньня разьвіцьця і посьпехаў вучняў.

Акрамя беларускіх школ, беларуская мова зьяўляецца абавязковым прадметам выкладаньня ва ўсіх школах сацыяльнага выхаваньня, незалежна ад таго, на якой мове вядзецца выкладаньне. Пачынаючы з трэцяга году навучаньня ва ўсіх школах, апроч беларускай, даецца 3 гадзіны што тыдзень на лекцыі беларускай мовы. Расійская мова, як абавязковы прадмет, выкладаецца ва ўсіх навучальных установах.

Беларусізацыя школ праводзілася паступова наступным парадкам: у 1924-25 г. поўнасьцю пераведзены былі на беларускую мову 4-х гадовыя школы, якія абслугоўвалі беларускае насельніцтва ў межах т. з. старой непашыранай БССР.

У далучанай частцы Беларусі, у 4-х гадовых школах, якія абслугоўваюць насельніцтва беларускай нацыянальнасьці, на беларускую мову пераведзены поўнасьцю першы год навучаньня. Беларусізацыя сямігодак пачалася адначасова з беларусізацыяй 4-х годак. У старой Беларусі беларусізацыя пачалася ў 1920 годзе; у далучаных частках: Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губ.—у1924 годзе; у акругах—Менскай, Слуцкай, Барысаўскай, Мазырскай і Калінінскай—першыя тры гады навучаньня былі пераведзены на беларускую мову, а ў акругах—Віцебскай, Аршанскай, Ма-

гілёўскай і Полацкай выкладаньне было пераведзена на беларускую мову толькі ў першых групах. У старшым канцэнтры сямігодак уведзены ў 1924-25 годзе як прадметы: беларуская мова, гісторыя і геаграфія Беларусі.

Усе дзіцячыя дамы пачалі арганізоўвацца па прынцыпу роднай мовы; выхаваньне ў беларускіх дзіцячых дамох пачалі ўводзіць на беларускай мове.

У чыгуначных школах была пераведзена на беларускую мову толькі нязначная частка першых групаў сямігодак.

Апроч таго ва ўсіх школах іншых нацыянальнасьцяй— расійскіх, яўрэйскіх, польскіх,—беларуская мова была ўведзена як прадмет, пачынаючы з 3-га году навучаньня па 3 гадзіны ў кожнай групе.

У 1925-26 годзе было пераведзена выкладаньне на беларускую мову ва ўсіх працоўных школах БССР, у якіх вучацца дзеці беларускай нацыянальнасьці: а) на тэрыторыі, якая была далучана ў 1924 годзе—другі і трэці год навучаньня б) у іншых мясцовасьцях—другі канцэнтр сямігодак. У школах чыгуначных, з пераважнай колькасьцю вучняў-беларусаў, выкладаньне пераведзена на беларускую мову ў 1—2 клясах. Ва ўсіх 4-х гадовых школах усіх нацыянальнасьцяй, апроч беларускай, беларуская мова выкладалася як прадмет.

Выкладаньне ва ўсіх школах сялянскай моладзі, дзе вучацца галоўным чынам, дзеці беларускай нацыянальнасьці, пераведзена на беларускую мову.

Пашырэньне сеткі дзіцячых садоў і дамоў праводзілася такім чынам, каб у пэўных адносінах задаволіць усе нацыянальнасьці. У 1926-27 годзе, ва ўсіх працоўных школах, якія абслугоўваюць дзяцей беларускай нацыянальнасьці, на тэрыторыі, што ўвайшла ў склад БССР у 1924 годзе, выкладаньне поўнасьцю пераведзена на беларускую мову ва ўсіх клясах I і II канцэнтраў.

Ва ўсіх 4-х гадовых школах усіх нацыянальнасьцяй, апроч беларускай, дзеля выкладаньня беларускай мовы была вызначана наступная колькасьць тыднёвых гадзін: у II і III клясах—5 гадзін; у IV кл.—4 гадзіны.

Ва ўсіх нацыянальных 7-мі годках, апроч беларускай, дзеля выкладаньня беларускай мовы як прадмету, вызначана была наступная колькасьць тыднёвых гадзін: у II і III клясах па 5 гадзін і ў VI—VII клясах—па 3 гадзіны.

Ва ўсіх школах сялянскай моладзі, якія абслугоўваюць пераважна вучняў беларускай нацыянальнасьці, выкладаньне поўнасьцю вядзецца на беларускай мове.

У школах чыгуначных, з пераважнай колькасьцю вучняў-беларусаў, беларуская мова выкладалася ў I, II, III клясах. Акрамя гэтага павялічана колькасьць гадзін дзеля вы-

кладаньня беларускай мовы ў IV кл. У 5, 6 і 7 клясах—беларуская мова, гісторыя Беларусі і геаграфія—выкладаліся, як прадметы.

## Прафэсыянальная асьвета.

Сетка прафэсыянальна-тэхнічных школ у 1924-25, 1925-26 і 1926-27 г. г. была наступнай:

| Навучальн. установы | Колькасьць навучальных устаноў | | | Колькасьць настаўнікаў | | | Колькасьць вучняў | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. |
| ВНУ'ы . . | 4 | 4 | 4 | 350 | 446 | 492 | 3612 | 4003 | 4699 |
| Рабфакі . | 3 | 3 | 4 | 110 | 82 | 87 | 873 | 863 | 845 |
| Тэхнікумы . | 24 | 24 | 30 | 433 | 391 | 483 | 3415 | 3999 | 4846 |
| Прафшколы: | 35 | 30 | 30 | 273 | 289 | 309 | 2247 | 2321 | 3228 |
| Школы фабзавуч. . | 9 | 9 | 15 | 72 | 66 | 170 | 771 | 641 | 1073 |
| Навуч. практыч. майстэрні . | 9 | 6 | 7 | 45 | 35 | 47 | 506 | 309 | 561 |

У 1925-26 годзе колькасьць прафэсыянальных навучальных устаноў, у параўнаньні з 1924-25 годам, амаль ня зьмянілася. У 1926-27 г. сетка прафэсыянальных навучальных устаноў мала зьмянілася: адчыніліся два новых пэдагагічных тэхнікума ў Мазыры і ў Воршы, а таксама фармацэўтычны тэхнікум у Магілёве. Колькасьць прафшкол, у зьвязку з аб'яднаньнем некалькіх школ, скарацілася на 5. Адчынілася новая школа рыбаводзтва ў Жыткавічах і вячэрні Рабфак пры Віцебскім Вэтэрынарным Інстытуце.

З ВНУ'оў у БССР існавалі: а) Камуністычны Унівэрсытэт, б) Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, в) Беларуская Дзяржаўная Сельска-Гаспадарчая Акадэмія з факультэтамі: агранамічным, лясным, земляўпарадкавальным і мэліарацыйным і г) Вэтэрынарны Інстытут у Віцебску.

Камуністычны Унівэрсітэт імя Леніна ў Менску адчынены ў 1925 годзе замест існаваўшай да гэтага часу Савпартшколы. Камвуз яшчэ ня зусім забясьпечаны як памяшканьнем, так і абсталяваньнем. Настаўнікаў у Камвузе ў 1926-27 годзе лічылася 57, студэнтаў—185, з якіх: рабочых—88, сялян (батракоў)—87, іншых—10; беларусоў—139, яўрэяў—31, расійцаў—8, іншых—7; членаў і кан-

дылатаў КП(б)Б—185; мужчын—167, жынчын—18.

Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт быў заснаваны ў ліпені 1921 году. Пачаў сваё існаваньне Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт у вельмі цяжкіх умовах, калі гаспадарка БССР, пасьля імпэрыялістычнай вайны і акупацыі была зруйнавана і эканамічная магутнасьць Рэспублікі была вельмі слабай. Адчыняючы пры такіх умовах унівэрсытэт, Урад БССР добра разумеў, што без расадніка вышэйшай асьветы нельга падняць культуру краіны, нельга падняць яе эканоміку.

За час свайго існаваньня Ўнівэрсытэт разросься, узмацніўся і даў БССР вельмі паказальныя вынікі сваёй працы: на працягу 5 гадоў сваёй працы Ўнівэрсытэт выпусьціў 273 настаўнікаў, 130—юрыстых, 125 эканамістых і 170 урачоў.

Акадэмічны пэрсанал Унівэрсытэту ў 1926-27 годзе складаўся з 43 прафэсароў, 33 дацэнтаў і настаўнікаў, 100 асыстэнтаў і ардынатараў, 56 празэктараў і лабарантаў, 16 іншых, а ўсяго разам 248 чал. Студэнцкі склад на 15/X-1927 г., быў наступны: рабочых і дзяцей рабочых—403, сялян—856, служачых—1095, іншых 318, а ўсяго—2672 чал. Паводле нацыянальнасьці склад студэнства быў наступны: беларусаў—1448, яўрэяў—1003, палякаў—39, расійцаў—134, іншых—48; паводле партыйнасьці: членаў і кандыдатаў КП(б)Б—354, членаў ЛКСМБ—520, беспартыйных—1798; мужчын—1686, жанчын—986. Патрэбна адзначыць, што значная частка студэнтаў-служачых (асабліва настаўнікі) зьяўляюцца дзяцьмі рабочых і сялян.

Бюджэт Унівэрсытэту ў 1925-26 г. складаўся ў суме 1.132.057 рублёў 44 кап.; у 1926-27 годзе—1.212.840 рублёў 3 кап. (без будаўніцтва і рамонту), у тым ліку стыпэндыі студэнтам 318,667 рублёў. Зьяўляючыся зусім новай навучальнай установай ў Беларусі, не атрымаўшы ніякай спадчыны ад старога строю Унівэрсытэт не забясьпечаны ў сучасны момант часам нават самым неабходным абсталяваньнем дзеля нармальнага ходу заняткаў, і дзеля пасьпяховасьці сваёй навучальнай і навуковай працы патрабуе яшчэ значнага папаўненьня сваіх габінэтаў, лябараторыяў, клінік. У асабліва цяжкім становішчы знаходзіцца Ўнівэрсытэт адносна памяшканьня. Разьмяшчаецца Ўнівэрсытэт у сучасны момант у 14 будынках, не прыстасаваных дзеля навучальных мэтаў, у розных канцох гораду, што вельмі перашкаджае працы. Пабудова свайго ўласнага будынку, які-б адпавядаў запатрабаваньням вышэйшай школы,—зьяўляецца безадкладнай патрэбай Унівэрсытэту. Пытаньне гэта ўжо вырашана Ўрадам і закладка Ўнівэрсытэцкага Гарадку адбылася пад час сьвяткаваньня 10-ці годзьдзя Кастрычнікавай Рэвалюцыі.

Беларуская Дзяржаўная Сельска-Гаспадарчая Акадэмія імя Кастрычнікавай Рэвалюцыі існуе ў горадзе Горках—у тым месцы, дзе яшчэ ў 1840 г. была адчынена першая ў Беларусі сельска-гаспадарчая школа. Школа гэта ў 1848 годзе была рэарганізавана ў вышэйшую школу—Агранамічны Інстытут, які існаваў да 1863 г. і даў краіне цэлы шэраг выдатных вучоных і шмат аграномаў. Да 1919 году ў Горках існавала некалькі навучальных сярэдніх устаноў, а ў 1919 годзе зноў была адчынена вышэйшая школа—Сельска-Гаспадарчы Інстытут, які ў 1925 г. зьліўся с Менскім Інстытутам Сельскае і Лясное Гаспадаркі і атрымаў назву Сельска-гаспадарчай Акадэміі імя Кастрычнікавай Рэвалюцыі. Ня гледзячы на тое, што Акадэмія атрымала ў спадчыну маемасьць двух Інстытутаў, Акадэмія ня можа лічыцца яшчэ забясьпечанай абсталяваньнем сваіх габінэтаў, лябараторыяў, бібліатэкаў, вопытных палёў і станцый дзеля таго, каб правільна паставіць навучальную справу і шырока разгарнуць навукова-дасьледчую працу. Акадэміі таксама патрэбны яшчэ адзін будынак пад навучальныя памяшканьні і пабудовы пад інтэрнаты для студэнтаў і кватэры для навуковых працаўнікоў.

У 1925-26 годзе ў Акадэміі лічылася: прафэсароў—37, дацэнтаў-выкладчыкаў—20, асыстэнтаў—37, навуковых супрацаўнікоў—52, разам—146 навуковых працаўнікоў. Студэнтаў было 1.300 чалавек, з якіх: рабочых і дзяцей рабочых—185, сялян—796, служачых—282, іншых—37. Па нацыянальнасьці студэнты падзяляліся наступным парадкам: беларусаў—796, яўрэяў—171, палякаў—14, расійцаў—177, іншых—31; з якіх: членаў КПБ—90, членаў ЛКСМБ—229, беспартыйных—981; мужчын—1145, жанчын—155.

Віцебскі Вэтэрынарны Інстытут быў адчынены ў 1924 годзе. Беларускі Ўрад, адчыняючы Інстытут меў на ўвазе, што страты беларускага сялянства ад недахопу вэтэрынарнай дапамогі акрэсьліваюцца, паводле статыстычных даных, мінімум у 6 мільёнаў рублёў што год, і што пры адсутнасьці належнай вэтэрынарнай дапамогі ўсе мерапрыемствы Ўраду ў справе палепшаньня жывёлаводзтва, гэтай асноўнай базы сялянскай гаспадаркі—і трата дзяржаўных сродкаў на гэтую справу,—не дадуць ніякіх вынікаў.

Ня гледзячы на тое, што Вэтэрынарны Інстытут атрымаў памяшканьне і маёмасьць б. сельска-гаспадарчага тэхнікуму ў Віцебску з хімічнай лябараторыяй вэтэрынарна-бактэрыолёгічнага інстытуту і вэтэрынарна-зоолёгічным музэм, абсталяваньне і памяшканьне Інстытуту яшчэ не зьяўляюцца выстарчальнымі. Неабходна пабудова новых клінік (тэрапэўтычнай, хірургічнай і інш.), будынкаў для інтэрна-

ту, для кватэр службовага пэрсаналу, патрэбен капітальны рамонт існуючых будынкаў.

У Вэтэрынарным Інстытуце у 1926-27 годзе было: прафэсароў—5, дацэнтаў—20, асыстэнтаў—11, навуковых супрацоўнікоў—5, разам—41 чалавек. Студэнтаў было: 312 чалавек, у тым ліку: рабочых і дзяцей рабочых—29, сялян—207, служачых—70, іншых—6; з іх: беларусаў—244, яўрэяў—23, расійцаў—42, іншых—3; членаў КП(б)Б—21, членаў ЛКСМБ—61, беспартыйных—230; мужчын—275, жанчын—37.

Рабочых факультетаў у 1925-26 годзе было ў Беларусі—3: у Менску, Воршы і Горках. Усе рабочыя факультэты ў сваёй навучальнай арганізацыі маюць ўхілы дастасаваныя да ВНУ'оў БССР. Менскі Рабфак мае ўхіл біолёгічны, мэдычны і грамадазнаўчы; Аршанскі—сельска-гаспадарчы і біолёгічны; Горэцкі—сельска-гаспадарчы. Абсталяваньне рабфакаў—здавальняючае. У 1926-27 годзе зачыніўся рабфак Воршы і адчыніўся вячэрні рабфак пры Віцебскім Вэтэрынарным Інстытуце. Усіх настаўнікаў на Рабфаках у 1926-27 г. было 87; студэнтаў—845, якія разьмяркоўваліся наступным парадкам: рабочых і дзяцей рабочых—346, сялян і батракоў—345, служачых—41, іншых—13; беларусаў—573, яўрэяў—182, палякаў—16, расійцаў—51, іншых—23; членаў і кандыдатаў КП(б)Б—283, членаў ЛКСМБ—352, беспартыйных—210; мужчын—695, жанчын—150.

У 1926-27 годзе сацыяльны і нацыянальны склад студэнтаў усіх Вышэйшых Навучальных Установаў і Рабфакаў акрэсьліваўся наступнымі данымі (разам з Гомельшчынай):

| Агульны лік выш. навуч. установаў | Агульны лік абсьлед. навуч. установаў | Рабочыя і дзеці рабочых | | Батракі і дзеці батракоў | | Дамов рабочыя, прыслугі і іх дзеці | | Служачыя і дзеці служачых | | Асобы вольных прафэсій і іх дзеці | | Асобы, занятыя ў с-гасп. (сяляне) і дзеці | | Гандл. уласн. прамыспрадпр. і іх дзеці | | Рамесьнікі і саматужнікі, і іх дзеці | | Іншыя | | Ус ягостудэнтаў | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Кольк. | % | Кольк. | % | Кольк. | % | Кольк. | % | Кольк. | % | Кольк. | % | Кольк. | % | Кольк. | % | Кольк. | % | Кольк. | % |
| 4 | 4 | 1012 | 18,3 | 142 | 2,5 | 16 | 0,3 | 1739 | 31,3 | 224 | 4,4 | 2145 | 38,7 | 15 | 0,2 | 79 | 1,4 | 172 | 2,9 | 5544 | 100 |

Агульны лік 5544 студэнтаў ВНУ'оў БССР у 1926-27 г., паводле нацыянальных адзнакаў, падзяляўся наступным парадкам:

| Беларусы | | Яўрэі | | Расійцы | | Палякі | | Іншыя | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Кольк. | % | Кольк. | % | Кольк. | % | Кольк. | % | Кольк. | % |
| 3341 | 60,3 | 1549 | 28,0 | 266 | 4,8 | 65 | 1,2 | 323 | 5.7 |

Вышэйшыя навучальныя ўстановы не абмяжоўваюць сваю дзейнасьць акадэмічнай працай; у асобе сваіх прафэсароў і студэнтаў яны стараюцца зьвязацца з вакольным жыцьцём і ўнесьці ў яго навуковыя і палітычныя веды. Асабліва шырокая грамадзкая праца разгортваецца Горацкай Сельска-Гаспадарчай Акадэміяй, якая па свайму месцапалажэньню сярод сялянства знаходзіцца ў асабліва спрыяючых умовах у сэнсе грамадзкай працы ў вёсцы.

Навуковыя працаўнікі таксама ўдзельнічаюць у грамадзкай працы, пераважна шляхам чыткі лекцый і дакладаў, выяжджаючы дзеля гэтага ў розныя мясцовасьці Рэспублікі.

У 1926-27 годзе склад вучняў тэхнікумаў, у сувязі з далучэньнем Гомельшчыны зьмяніўся і выяўляўся ў наступным выглядзе:

З 30 тэхнікумаў, якія існавалі ў 1926-27 годзе ў БССР, апроч 2-х транспортных тэхнікумаў, было: пэдагагічных—14, сельска-гаспадарчых—8, электра-мэханічных—1, дарожна-будаўнічых—2, (адзін вячэрні), каапэрацыйных—1, музычных—1, вобразных мастацтваў—1, мэдычных—2. Усе тэхнікумы, за выключэньнем пэдагагічных, маюць—3-х гадовы курс навучаньня, а пэдагагічныя—4-х гадовы. У тэхнікумы прымаецца моладзь, якая скончыла 7-мі гадовыя працоўныя школы.

З 14 пэдагагічных тэхнікумаў—10 працу вялі на беларускай мове, 3—на яўрэйскай, 1—на польскай. У рэшце тэхнікумаў праца вялася пераважна на расійскай мове.

У 1926-27 годзе склад вучняў тэхнікумаў з Гомельшчынай уключна быў наступны:

| Агульны лік тэхнікумаў | Лік тэхнікумаў, якія далі весткі | ПОЛ | | САЦЫЯЛЬНЫ СКЛАД: | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Мужчыны | Жанчыны | Рабочыя і дзеці рабочых | Батракі і дзеці батракоў | Дамов. работніцы і дзеці іх. | Служачыя і іх дзеці | Асобы вольных прафэсій і іх дзеці | Асобы занят. у с.-г. (сял.) і іх дзеці | Гандляры і ўласьнікі прам. прадпр. і дзеці іх | Рамесьнікі, саматужн. і іх дзеці | Беспрацоўныя | Іншыя |
| 30 | 30 | 2685 | 2161 | 753 | 19 | 1 | 1143 | 23 | 2135 | 68 | 262 | 8 | 434 |

НАЦЫЯНАЛЬНЫ СКЛАД:

| Беларусы | Яўрэі | Расійцы | Палякі | Іншыя | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|
| 2893 | 1448 | 291 | 151 | 57 | 4846 |

Прафэсыянальныя школы і школы фабрычна-заводзкага вучнёўства, паводле сыстэмы прынятай Народным Камісарыятам Асьветы БССР, зьяўляюцца масавымі ўстановамі, аднак колькасьць іх, пакуль што, нязначная. У далейшым патрэбна будзе праводзіць паступовае павялічэньне колькасьці гэтых школ і поўнае прыстасаваньне іх да гаспадарчых патрэбаў БССР. Нязначная колькасьць школ фабзавуча тлумачыцца адсутнасьцю ў БССР разьвітых прамысловых прадпрыемстваў. Профшколы маюць дэтальна распрацаваны навучальны плян і праграмы, прыстасаваны да прамысловай вытворчасьці.

Нацыянальны, сацыяльны і партыйны склад вучняў, а таксама размеркаваньне па полу ў прафтэхнічных навучальных установах, апроч вучняў сельска-гаспадарчых школ і транспартных школ фабзавуча, у 1925-26 г. акрэсьліваўся данымі, якія зьмешчаны ў паданай ніжэй табліцы:

| Усяго вучняў праф.-тэхн. школ | Пол | | Сацыяльн. склад вучн. | | | | | Нацыянальны склад | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мужч. | Жанч. | Рабоч. | Сяляне | Служач. | Саматужн. | Іншыя | Беларус. | Яўрэі | Рас. | Палякі | Іншыя |
| 2476 | 2203 | 273 | 1033 | 805 | 366 | 102 | 170 | 1213 | 1051 | 112 | 77 | 2 |

Склад вучняў прафтэхнічных навучальных установ, у залежнасьці ад полу, сацыяльнага і нацыянальнага падзелу ў 1926-27 г. ў БССР, разам з Гомельшчынай, быў наступны:

| ТЫП ПРАФНАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОЎ | Агульны лік навучальных установ | Лік установ, якія далі аб сабе весткі | Пол | | Сацыяльны склад вучняў | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Мужчыны | Жанчыны | Рабочыя і дзеці рабочых | Батракі і дзеці батракоў | Дамав. работніцы і іх дзеці | Служач. і іх дзеці | Асобы вольн. прафэсій і іх дзеці | Асобы занят. у с.-г. (сял.) і іх дзеці |
| Прафшколы без сельска-гасп. шк. . . . | 23 | 23 | 2064 | 774 | 906 | 28 | 6 | 801 | 13 | 678 |
| Школы ФЗВУЧ без транспартн. шк. . | 7 | 6 | 191 | 94 | 159 | — | 3 | 66 | — | 18 |
| Вучэбн. майстэрні . | 7 | 7 | 440 | 65 | 95 | 7 | — | 32 | — | 352 |
| Прафшколы сельска-гаспадар. . . . | 7 | 7 | 306 | 84 | 68 | 37 | 1 | 27 | 1 | 240 |
| Школы ФЗВУЧ трансп. . . . . . | 8 | 7 | 604 | 54 | 467 | — | — | 138 | — | 9 |

| Тып прафнавучальных устаноў | Сац. склад. вучн. | | | | Нацыянальн. склад вучняў | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рамесьнікі самат. і іх дзеці | Ганд. і ўласьн. ганд. прадпр. і іх дзеці | Беспрацоўныя | Іншыя | Беларусы | Яўрэі | Расійцы | Палякі | Іншыя | Усяго |
| Прафшколы без сельска-гасп. шк. | 186 | 56 | 19 | 145 | 1123 | 1327 | 274 | 79 | 35 | 2838 |
| Школы ФЗУ без транспартн. шк. | 6 | — | 14 | 19 | 67 | 144 | 62 | 11 | 1 | 285 |
| Вучэбн. майстэрні | 13 | 1 | — | 5 | 351 | 98 | 21 | 29 | 6 | 505 |
| Прафшколы сельскагаспадар. | 6 | — | — | 10 | 261 | 17 | 76 | 25 | 11 | 390 |
| Школы ФЗВУЧ трансп. | 2 | — | 9 | 33 | 525 | 9 | 81 | 31 | 12 | 658 |

## Беларусізацыя прафэсыянальных школ, тэхнікумаў і ВНУ'оў.

Беларусізацыя ў прафэсыянальных школах, тэхнікумах і ВНУ'ах праводзіцца паступова і пасьлядоўна. Масавыя прафтэхнічныя школы павінны, безумоўна, весьці выкладаньне на роднай мове вучняў; мова вучня павінна быць мовай школы. Так павінна быць з пэдагагічнага пункту погляду і з пункту погляду правільнага правядзеньня нацыянальнай палітыкі. Аднак, калі прыходзіцца праводзіць гэтыя прынцыпы ў жыцьцё, мы сустрэкаемся з значнымі перашкодамі.

Перадусім, прафэсыянальныя школы ў сапраўднасьці не зьяўляюцца масавымі—ва ўсёй БССР мы маем пакульшто 45 школ. Такім чынам сетка гэтых школ вельмі малая; абслужыць усіх, хто жадае вучыцца ў прафтэхнічных школах—пакуль што немагчыма. У адну і тую-ж школу прыходзіцца прымаць вучняў розных нацыянальнасьцяў, мова якіх розная. На ўсю Мазырскую акругу, напрыклад, мы маем адну прафтэхнічную школу і па эканамічным умовам пабудаваць больш—пакуль што ня можам. Відавочна, што мы павінны прымаць у гэтую школу дзяцей усіх нацыянальнасьцяй, бо ўсе жадаюць у ёй вучыцца. Фактычна справа так і стаіць: існуючыя зараз у Беларусі школы розныя, паводле нацыянальнага складу сваіх вучняў. А калі гэта так, то школа павінна прыстасоўвацца да вучняў усіх нацыянальнасьцяй і вырабіць дзеля сваёй працы тую мову, якая зьяў-

ляецца больш зразумелай вучням усіх нацыянальнасьцяй. Такой мовай можа быць беларуская або расійская. І першая і другая выкладаюцца як абавязковы прадмет ва ўсіх школах сацвых у, незалежна ад таго, на якой мове гэтыя школы працуюць. Прафтэхнічныя школы ўтвараюцца над школамі сацыяльнага выхаваньня; гэта значыць, што вучні прафтэхнічных школ да некаторай ступені знаюць беларускую і расійскую мову; ва ўсялякім выпадку гэтыя мовы для іх зразумелыя. У тых выпадках, калі адна або некалькі групаў па тэй ці іншай прычыне аказаліся-бы укамплектаванымі дзяцьмі аднэй нацыянальнасьці, то такая група зараз-жа перайшла-бы на родную мову гэтых дзяцей.

Тэхнікумы, таксама як і ВНУ'ы, не зьяўляюцца ўстановамі масавага характару. У той час, як школы сацыяльнага выхаваньня і прафтэхнічныя школы прызначаюцца для шырокіх слаёў рабоча-сялянскай моладзі з тэй мэтаю, каб даць гэтай моладзі магчымасьць атрымаць пачатковую асьвету, разьвіцьцё і адпаведнае выхаваньне,—тэхнікумы і ВНУ'ы маюць на мэце даць грунтоўна кваліфікаваных работнікаў і кіраўнікоў у розных галінах савецкага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Колькасьць тэхнікумаў, ВНУ'оў акрэсьліваецца ў залежнасьці ад колькасьці патрэбных дзяржаве работнікаў з грунтоўнай кваліфікацыяй. Тэхнікумы і ВНУ'ы адчыняюцца ня толькі дзеля таго, каб яны маглі зьмясьціць усіх жадаючых вучыцца ў іх,—а ў залежнасьці ад неабходнасьці мець тых ці іншых спэцыялістых. З другога боку тэхнікумы і ВНУ'ы павінны падрыхтоўваць работнікаў прыстасаваных да тых слаёў рабоча-сялянскага насельніцтва, сярод якіх гэтым работнікам прыдзецца працаваць. Усе гэтыя асаблівасьці тэхнікумаў і ВНУ'оў патрабуюць, да некаторай ступені, іншага падыходу да іх з боку нацыянальнай палітыкі. Родная мова ў тэхнікумах і ВНУ'ох мае меншае значэньне, чымся ў прафэсыянальна-тэхнічных і працоўных школах. Калі ў школах сацвыху родная мова зьяўляецца сродкам выхаваньня і найбольш пасьпяховага разьвіцьця дзяцей, дык у тэхнікумах і ВНУ'ах родная мова з гэтага боку мае меншае значэньне. Тая або іншая мова зьяўляецца сродкам, якім павінен уладаць самастойна кожны вучань, каб карыстацца гэтай мовай сярод працоўных і сялян. Такім чынам мова, на якой павінна весьціся праца ў тэхнікумах або ВНУ'ах павінна адпавядаць двум запатрабаваньням: па першае—яна павінна быць зразумелай для вучняў пастолькі, каб яны без асаблівага напружаньня вывучылі тое, што ім выкладаецца на данай мове; па другое—гэтая мова павінна быць мовай тых рабочых масаў, сярод якіх вучням прыдзецца пазьней працаваць. Вось чаму тэхнікумы і ВНУ'ы павінны быць пераведзены на беларускую мову выкладаньня, ня гледзячы на тое, што ў нашых тэхнікумах і ВНУ'ах можа

быць значная колькасьць студэнтаў, для якіх беларуская мова не зьяўляецца роднай мовай. Такім жа чынам зьяўляецца зусім зразумелым тое, што частка тэхнікумаў і ВНУ'оў павінна весьці працу на польскай і яўрэйскай мовах, у зьвязку з тым, што рабочыя масы гэтых нацыянальнасьцяй патрабуюць адказных работнікаў на агульных падствах з работнікамі і сялянамі беларусамі. Выходзячы з гэтага прынцыпу, Народны Камісарыят Асьветы прыступіў да паступовага пераводу тэхнікумаў і ВНУ'аў на беларускую мову выкладаньня. У БССР існуе польскі і два яўрэйскіх пэдагагічных тэнікумы, а таксама яўрэйская і польская сэкцыі на пэдагагічным факультэце БДУ. Апроч выкладаньня мовы, нацыянальная палітыка КП(б)Б патрабуе, каб тэхнікумы і ВНУ'ы зьмест сваёй працы прыстасоўвалі да мясцовых асаблівасьцяў БССР. У тэхнікумах і ВНУ'ах павінна грунтоўна вывучацца гісторыя і геаграфія Беларусі, прыродныя асабліваасьці яе, эканоміка і культура краіны.

Паступовы рост беларусізацыі прафшкол, тэхнікумаў і ВНУ'оў мае наступны выгляд:

Тэхнікумы, якія першыя пачалі беларусізавацца—былі пэдагагічныя тэхнікумы. У 1924-25 навуч. годзе беларусізацыя пэдагагічных тэхнікумаў праведзена была процантаў на 50.

Беларусізацыя іншых тэхнікумаў, як індустрыяльных, будаўнічага, каапэрацыйнага, мастацкага, сельска-гаспадарчага і лясного заключалася ў тым, што ў гэтых тэхнікумах беларуская мова была ўведзена—як прадмет выкладаньня.

На Рабфаках былі ўведзены толькі лекцыі па беларусазнаўству.

За беларусізацыю у Бел. Дзярж. Унівэрсытэце ў 1924-25 навучальным годзе магчыма лалічыць тое, што БДУ быў дадзены краязнаўчы ўхіл і што пэдагагічны факультэт быў падзелены на 3 сэкцыі: беларускую, яўрэйскую і польскую. Цэлы шэраг прадметаў, якія датычуць Беларусі, былі ўведзены і выкладаліць ужо ў 1924-25 годзе.

У 1925-26 годзе амаль поўнасьцю была пераведзена на беларускую мову выкладаньне ў пэдагагічных тэхнікумах. Зьвернута асаблівая ўвага на выкладаньне ў польскім і яўрэйскім тэхнікумах беларускай мовы, а таксама гісторыі і геаграфія Беларусі. Распачата беларусізацыя сельска-гаспадарчых школ. Беларусізацыя сельска-гаспадарчых тэхнікумаў у 1925-26 навуч. годзе ў процантных суадносінах акрэсьлівалася наступнымі лічбамі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| а) Магілёўскі землямерны тэхн. | беларусізаваны | на | 60 | проц. |
| б) Полацкі лясны | „ | „ | 08 | „ |
| в) Менскі гідротэхнікум | „ | „ | 50 | „ |
| г) Варанецкі сельска-гаспадарчы | „ | „ | 50 | „ |
| д) Мар'іна-Горскі агародны | „ | „ | 15 | „ |
| Сярэдні процант . . . | | | 36,6 | проц. |

У тэхнікумах—індустрыяльным, акушэрскім, фармацэўтычным і каапэрацыйным, у зьвязку з рознацыянальным складам вучняў, а таксама спэцыфічнасьцю тых прадметаў, якія выкладаюцца ў гэтых тэхнікумах, на беларускую мову пераведзена толькі нязначная частка прадметаў. Беларуская мова, а таксама гісторыя і гэапрафія Беларусі,—праходзіліся як прадмет.

Тое самае магчыма сказаць і аб беларусізацыі прафэсыянальных школ у 1925-26 навучальным годзе.

На беларускую мову было пераведзена выкладаньне на першым курсе рабфакаў часткова на іншых курсах, апроч Віцебскага вячэрняга. У процантных суадносінах беларусізацыя Рабфакаў акрэсьліваецца наступнымі данымі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| а) Менскі рабфак беларусізаваны на | | 51,9 | проц. |
| б) Горэцкі | „ „ „ | 35.0 | „ |
| в) Аршанскі | „ „ „ | 73,0 | „ |
| г) Віцебскі вяч. | „ „ | — | |
| У сярэднім . . | | 53,3 | проц. |

Беларусізацыя вышэйшых навучальных установ у 1925-26 годзе ў процантах выяўлялася наступнымі лічбамі:

| | | |
|---|---|---|
| Белдзяржунівэрсытэт . . . . | 14,0 | проц. |
| С.-г. Акадэмія . . . . . | 10,0 | „ |
| Вэтэрынарны Інстытут . . . | 01,9 | „ |
| Сярэдн. проц. . . | 12,4 | „ |

У 1926-27 годзе ва ўсіх пэдагагічных тэхнікумах, а таксама на аднагадовых і двухгадовых настаўніцкіх курсах выкладаньне поўнасьцю вялося на беларускай мове. Ва ўсіх сельска-гаспадарчых тэхнікумах і прафшколах усе заняткі на першым курсе поўнасьцю былі пераведзены на беларускую мову; на іншых курсах—значная частка прадметаў таксама выкладалася на беларускай мове.

У процантных адносінах беларусізацыя с. г. тэхнікумаў і школ выяўлялася ў наступным выглядзе:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Магілёўскі землямерны тэхнікум беларусізав. | на | 86 | проц. |
| 2. Полацкі лясны „ „ | „ | 43 | „ |
| 3. Менскі гідратэхнікум „ | „ | 68 | „ |
| 4. Варанецкі с.-г. тэхнікум „ | „ | 73 | „ |
| 5. Мар'іна-Горскі агародны „ „ | „ | 41 | „ |
| Сярэдні процант . . . | | 63,2 | проц. |

Па сельска-гаспадарчым школам:

| | | |
|---|---|---|
| 1. Канічская с.-г. школа беларусізавана на . . . | 100 | проц. |
| 2. Смалянская с.-г. школа „ „ . . . | 54,4 | „ |
| 3. Беліцкая „ „ „ „ . . . | 40 | „ |
| Сярэдні процант . . . | 66,8 | проц. |

Беларускі музычны тэхнікум і музычная школа ў сваёй працы ўзялі напрамак на вывучэньне беларускай музычнай творчасьці, а таксама музычнай творчасьці іншых нацыянальнасьцяй.

У Віцебскім Беларускім Дзяржанўым Мастацкіх Тэхнікуме на беларускую мову было пераведзена выкладаньне ва ўсіх клясах. Тэхнікум узяў напрамак да зьбіраньня і вывучэньня старажытнага і сучаснага беларускага мастацтва.

У навучальна-практычных майстэрнях, якія знаходзяцца ў сельскіх мясцовасьцях, выкладаньне поўнасьцю пераведзена на беларускую мову.

У прафэсыянальна-тэхнічных школах, як: Чаўская, Клімавіцкая, Крычэўская, Слуцкая і Старасельская выкладаньне агульна-асьветных прадметаў ва ўсіх групах праводзілася на беларускай мове.

У індустрыяльных тэхнікумах і прафэсыянальна-тэхнічных школах (апроч вызначаных вышэй) з пераважнай колькасьцю вучняў беларускай нацыянальнасьці, выкладаньне агульна-асьветных прадметаў у 1-й клясе праводзілася на беларускай мове.

Беларусізацыя тэхнікумаў і прафшкол у 1926-27 навуч. годзе акрэсьлівалася ў процантах наступнымі лічбамі:

| | |
|---|---|
| а) Архітэктурна-дарожна-будаўнічы тэхн. беларусіз. на | 25,5% |
| б) Вячэрні „ „ „ „ | 30,0 „ |
| в) Віцебскі політэхнікум „ „ | 02,0 „ |
| У сярэднім . . . . . . . . | 12,0% |

| | | |
|---|---|---|
| а) Магілёўскі акушэрскі тэхн. беларусізаваны на | 24,0 | проц. |
| б) „ фармацэўтычны тэхн. беларусіз. „ | 50,0 | „ |
| в) Віцебскі каапэрацыйны „ „ „ | 48,0 | „ |
| У сярэднім . . . . . | 38,6, | проц. |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Чаўская прафшкола мэталістых беларусіз. | | | | на | 89,0 | проц. |
| 2. Гарадзецкая | „ | „ | „ | „ | 29,0 | „ |
| 3. Магілёўская | „ | „ | „ | „ | 63,0 | „ |
| 4. Віцебская | „ | „ | „ | „ | 18,0 | „ |
| 5. Крычэўская | аб'яднаная | „ | „ | „ | 100 | „ |
| 6. Клімавіцкая | „ | „ | „ | „ | 100 | „ |
| 7. Аршанская | „ | „ | „ | „ | 73,0 | „ |
| 8. Менская прафшкола | | „ | „ | „ | 41,0 | „ |
| 9. Слуцкая аб'ядн. прафшк. | „ | „ | „ | „ | 93,0 | „ |
| 10. Менская прафшкола | будаўнікоў | | „ | „ | 63,0 | „ |
| 11. Віцебская | „ | „ | „ | „ | 09,0 | „ |
| 12. Магілёўская | „ | „ | „ | „ | 65,0 | „ |
| 13. Менская | „ | краўцоў | „ | „ | 27,0 | „ |
| 14. Мазырская | „ | дрэваапрацоўшчыкаў | | „ | 61,0 | „ |
| 15. Старасельская | „ | ткацтва беларусізав. | | „ | 63,0 | „ |
| | | У сярэднім | . . . . | | 60,5 | проц. |

Беларусізацыя Рабфакаў у 1926-27 навучальным годзе акрэсьлівалася ў процантах наступнымі лічбамі:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| а) Менскі рабфак | беларусізаваны | | на | 66,9 | проц. |
| б) Горацкі | „ | „ | „ | 63,4 | „ |
| в) Аршанскі | „ | „ | „ | 80,2 | „ |
| г) Віцебскі | „ | „ | „ | 16,7 | „ |
| | У сярэднім | . . | | 68,8 | проц. |

Беларусізацыя ВНУ'оў у 1926-27 годзе акрэсьлівалася ў процантах наступнымі лічбамі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| а) Б. Дз. У. | беларусізаваны | на | 31,0 | проц. |
| б) Сельска-Гасп. | Акадэмія | „ | 20,0 | „ |
| в) Вет. Інстытут | | „ | 01,6 | „ |
| У сярэднім | . . | | 17,5 | проц. |

### Палітыка-асьветная праца.

Палітыка-асьветная праца ў БССР у значнай ступені залежыць ад агульных умоў эканомікі і культуры Беларусі. Нізкі культурны ўзровень вёскі, які асабліва выяўляецца ў значным процанце няпісьменных; невялікае ядро пралетарыяту пры слаба разьвітай прамысловасьці; ускладненыя нацыянальныя ўмовы (беларусы, яўрэі, палякі, велікарусы, латышы, літоўцы); прыгранічнае становішча БССР—усё гэта

ўтварае шэраг аб'ектыўных цяжкасьцей, якія робяць уплыў на разьвіцьцё палітыка-асьветнай працы. Асноўная частка гэтае працы спачывае на палітасьветах; дадатковая асьветная праца вядзецца прафсаюзамі, каапэрацыяй.

## Сетка палітасьветных устаноў.

На 1-е студзеня 1925 году сетка палітасьветных устаноў у Беларусі мела ў лічбовых даных наступны выгляд: хатаўчытален—256, бібліатэк цэнтральных—36, клюбаў—48, народных дамоў—82, лікпунктаў—463, вячэрніх школ для дарослых—13, школ рабочай моладзі—16, польскіх школ павышанага тыпу—2, дамоў асьветы—8, агітацыйных пунктаў—1, кіно-ўстаноў—1.

На 1-ае студзеня 1926 году было: бібліатэк—38, клюбаў—51, народных дамоў—95, хат-чытален,—якія ўваходзілі ў сетку—271, лікпунктаў апорных—120, лікпунктаў звычайных—284, вячэрніх школ для дарослых—14, школ рабочай моладзі—21, польскіх школ павышанага тыпу—1, дамоў асьветы—8, дамоў селяніна—12, агітпунктаў—1, кіна-ўстаноў—1.

На 1-е студзеня 1927 г. было: хатаў-чытальняў—307, народных дамоў—97, бібліатэк—29, клюбаў—50, дамоў селяніна—12, кіно-ўстаноў—1.

## Палітасьветная праца ў вёсцы.

На працягу апошніх гадоў цэнтр увагі ў працы Галоўпалітасьветы быў накірованы на пытаньне вясковай працы. Да гэтага змушае даволі нізкі культурны ўзровень беларускай вёскі.

Асноўнай палітасьветнай установай у вёсцы зьяўляецца народны дом і хата-чытальня.

Памяшканьні і абсталяваньне хатаў-чытальняў і народных дамоў знаходзяцца ў нездавальняючым становішчы. Як хаты-чытальні, так і народныя дамы знаходзяцца ў дамох б. валасных выканаўчых камітэтаў, царкоўных дамох, часам, у адным памяшканьні з сельсаветамі, або ў прыватных сялянскіх хатах. Процант хатаў-чытальняў, якія маюць уласныя памяшканьні, складае 45 проц. з агульнага ліку ўсіх хатаўчытальняў.

У адным памяшканьні з сельсаветамі знаходзіцца 12% хатаў-чытальняў, у сялянскіх дамох знаходзіцца 43 проц. хатаў-чытальняў. Памяшканьні хатаў-чытальняў патрабуюць рамонту.

Бібліатэкі народных дамоў і хатаў-чытальняў бедныя, колькасьць кніг вагаецца ад 300 да 2000; кнігі амаль усе бяз вокладкі, ў зьвязку з чым хутка псуюцца.

На сродкі Галоўпалітасьветы ў 1925-26 годзе была выслана ў кожную хату-чытальню і нардом па 140 кніжок на розных мясцовых мовах і, апроч таго, у 10 паказальных раёнаў паслана па бібліятэцы вартасьцю кожная па 100 рублёў. Апроч гэтага на сродкі Галоўпалітасьветы выпісваліся часопісы: «Ізба-Чытальня» і «Плуг».

Органамі, якія сумесна з ізбачом непасрэдна кіруюць працай хаты-чытальні і нардома, зьяўляюцца саветы гэтых установ і райпалітасьветкомы. Працы хатаў-чытальняў перашкаджае тое, што ў саветы хатаў-чытальняў яшчэ не даволі ўцягнуты актыў сялянства і што старшынёю райпалітасьветкому зьяўляецца загадчык культаддзелам РВК'у. Загадчык гэтага аддзелу перагружаны пабочнымі палітасьвет. абавязкамі і ня мае фізычнай магчымасьці заняцца палітасьветнай працай у раёне.

Аднэй з галоўных прычын слабасьці работы хатаў-чытальняў зьяўляецца нездавальняючы склад ізбачоў. У 1925—1926 г. сярод ізбачоў было: членаў КП(б)Б—25 проц., кандыдатаў—18 проц., камсамольцаў—45 проц., беспартыйных—12 проц. Ізбач больш як які-небудзь іншы працаўнік перакідаецца з аднаго месца працы на другое, што адбіваецца шкадліва на працы яго і зводзіць амаль да шчэнту працу па перападрыхтоўцы ізбачоў. Курсы перападрыхтоўкі за апошнія 2 гады прапусьцілі 360 ізбачоў, аднак значны процант іх зьняты з працы ў хатах-чытальнях. Галоўпалітасьвета імкнецца мець добра падрыхтаванага ізбача; дзеля ажыцьцяўленьня гэтага імкненьня Магілёўская Саўпартшкола спэцыяльна рыхтуе ізбачоў. У 1926 годзе быў першы выпуск гэтай школы, які даў 90 чалавек.

Перападрыхтоўка ізбачоў праводзіцца на працягу апошніх трох гадоў, у наступных пунктах: Менску, Віцебску і Магілёве.

Ня гледзячы на шэраг неспрыяючых умоў, хаты-чытальні робяцца ўсё больш і больш папулярнымі. Сяляне часта адчыняюць хаты-чытальні і чырвоныя куткі па ўласнай ініцыятыве; але больш за ўсех ідуць насустрэч сялянскай ініцыятыве ў гэтай справе— рабочыя шэфы. На 1-ае студзеня 1926 году дагаворных і шэфскіх хатаў-чытальняў і чырвоных куткоў, якія не ўваходзяць у сетку, было: хатаў-чытальняў—308 і чырвоных куткоў—989.

Сярэдняе наведваньне хатаў-чытальняў 25—40 чалавек у дзень; народных дамоў—60 чал. у дзень; у тым ліку значны процант моладзі; аднак прыкметна павялічэньне наведваньня і дарослых асоб, колькасьць якіх у некаторых мясцох дасягае 50 проц. наведвальнікаў хатаў-чытальняў.

Што датычыцца абслугоўваньня хатамі-чытальнямі нацыянальных меншасьцяй, то ў сетку хатаў-чытальняў нацменшасьцяй у 1925-26 годзе уваходзіла: польскіх хатаў-чытальняў—9, яўрэйскіх—12, латыскіх—2. У некаторых хатах-чытальнях, якія абслугоўваюць мяшанае насельніцтва, арганізоўваюцца гурткі на мовах нацыянальных меншасьцяй.

Хата-чытальня пачынае моцна ўрастаць у быт сялянства.

### Ліквідацыя няпісьменнасьці.

Ня гледзячы на тое, што ліквідацыя няпісьменнасьці ў Беларусі зьяўляецца найбольш актуальным пытаньнем, праца ў гэтай галіне ў значнай ступені знаходзіцца не ў здавальняючым становішчы. На падставе перапісу 1920 году на 1000 чалавек насельніцтва ў БССР прыпадае 673 няпісьменных, у РСФСР—603, у УССР—584. Такім чынам па колькасьці няпісьменных у эўрапейскай частцы СССР—Беларусія займае першае месца.

У справе ліквідацыі няпісьменнасьці назіраецца, з аднаго боку, значнае імкненьне да ўчобы дарослага насельніцтва, а з другога—недахоп матар'яльных сродкаў для таго, каб задаволіць гэтае запатрабаваньне.

На 1-е студзеня 1926 году налічвалася прыблізна 1373 лікпунктаў, з якіх 403 праходзілі па мясцоваму бюджэту, а рэшта лікпунктаў на мясцох—былі лікпунктамі ОДН.

У 1926-27 годзе на сродкі з мясцовага бюджэту адчынена 22 лікпункты і 129 школ для малапісьменных. Ударнымі момантамі ў справе ліквідацыі няпісьменнасьці ў 1925-26 г. былі: ліквідацыя няпісьменнасьці сярод дапрызыўнікаў і жанчын-дэлегатак. Галоўпалітасьветай адпушана акругам на ліквідацыю няпісьменасьці сярод дапрызыўнікаў і жанчын-дэлегатак—5.000 рублёў.

У канцы 1925 году на спэцыяльна адпушчаныя сродкі Галоўпалітасьветай быў выданы беларускі лемантар для дарослых—«Наша сіла—ніва да машына». На працягу 1925 году быў падрыхтаваны да друку яўрэйскі лемантар і заказаны ў Маскве—польскі. Гэтыя лемантары бясплатна разьмяркаваны па акругах Беларусі. Апроч гэтага была разаслана ў выстарчальнай колькасьці мэтадычная і дапаможная літаратура на расійскай мове па ліквідацыі няпісьменнасьці, як напрыклад, разразныя лемантары, програмы лікпунктаў, табліцы да лемантара «Наша сіла—наша ніва», «спутнік ликвидатора, в помощь ячейкам ОДН». Стан працы па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці ў

БССР можа быць выяўлены на падставе даных у наступнай табліцы:

| ПЭРЫОДЫ ПА ГАДАМ | Трэбавалася па каштарысам у тысячах рублёў | | | Адпускалася у тыс. руб. | Зацьверджаная сетка | | | Фактычна існавала | | | Вучылася разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | На ліквідацыю няпісьменнасьці | На працу з малапісьмен. | Разам | На ліквідацыю няпісьменнасьці | Ліквідац. пунктаў | Школ для малапісьм. | Р. зам | Ліпунктаў, гурткоў і групаў | Школ і гурткоў для малапісьм. | Разам | |
| 1924-25 | 217,5 | — | 217,5 | 108 | — | — | — | 1663 | — | 1663 | 30.787 |
| 1925 26 | 340 | — | 340 | 124 | 363 | — | 363 | 1227 | 146 | 1373 | 34.737 |
| 1926-27 | 474,5 | — | 474,5 | 324,5 | 733 | 198 | 931 | 1552 | 256 | 1808 | 47.724 |
| 1927-28 | 475 | 160 | 635 | — | — | — | — | — | — | — | 80.240 |

Пераважна наведвае лікпункты ў большасьці акруг—моладзь да 20 гадоў. Большую частку вучняў складаюць жанчыны—60—70 проц.

### Клюбы і бібліатэкі.

Клюбная праца зьяўляецца аднэй з асноўных галін палітыка-асьветнай працы сярод гарадзкога пралетарыяту.

У 1925-26 годзе лічылася на дзяржаўным і мясцовым бюджэце 51 клюб, апроч таго было 172 прафэсыянальных клюбаў. У 1926-27 годзе колькасьць клюбаў амаль не зьмянілася. Катэгорыі клюбаў, што ідуць па каштарысам паліт-асьветы, падзяляюцца на клюбы партыйныя, камсамольскія, піанэрскія і агульныя. Апроч клюбаў у 8 акругах існуюць Дамы Асьветы, праца ў якіх лепш пастаўлена, чымся ў іншых клюбах.

Да гэтага часу клюбная праца праводзілася слаба. Дарослыя работніцы і рабочыя не ў выстарчальнай колькасьці прыцягнуты да клюбаў. Галоўны кантынгэнт наведвальнікаў клюбаў—моладзь. Асноўны недахоп і слабасьць клюбнай працы—цесната памяшканьняў. Да прычын слабасьці пастаноўкі клюбнай працы трэба аднесьці і нездавальняючыя мэтады клюбнай працы.

Ня гледзячы на невыстарчальную колькасьць і нязначныя матар'яльныя сродкі, бібліатэкі разгарнулі вялікую працу і ахапілі значную частку чытачоў. Ароч таго бібліатэкі вядуць працу ў вёсцы шляхам бібліатэк-перасовак, набліжаючы гэтым кнігу да чытача. Некаторыя гарадзкія бібліа-

тэкі наладзілі сувязь з вёскай, камплектуючы перасоўкі для хатаў-чытальняў. Барысаўская бібліотэка, напрыклад, мае 18 такіх перасовак.

Перашкодай на шляху большага разьвіцьця бібліатэчнай працы зьяўляецца недахоп сродкаў, як для папаўненьня бібліатэк новай літаратурай, так і на вокладку тых кніг, якія ўжо існуюць у бібліатэках; апроч таго часта перашкаджае працы бібліатэкаў недахоп кваліфікаваных працаўнікоў.

### Вячэрнія школы для дарослых і школы рабочай і сялянскай моладзі.

За час свайго існаваньня вячэрнія сялянскія школы моцна ўкараніліся ў сялянскае жыцьцё і заваявалі сабе права на існаваньне ў сыстэме сеткі сялянскай асьветы ў БССР.

Гэтымі школамі абхоплена 5250 вучняў.

Па сацыяльнаму складу вячэрнія школы сялянскай моладзі абслугоўваюць бедняцкі і серадняцкі слаі вёскі (56,4% беднякоў, 40 проц. сераднякоў, 3,6 проц. батракоў і саматужнікаў); гэтыя школы ўцягваюць ва ўчобу значны лік сялянак (35 проц. з агульнага ліку вучняў); у тых школах, дзе заняткі прыстасаваны да бытавых умоў сялянак, лік апошніх павялічваецца да 60 проц.

З 1927-28 навучальнага году ўводзяцца ў гэтых школах 2-х гадовы курс навучаньня і яны ўнесены ў сетку.

Вячэрнія рабочыя школы павышанага тыпу і школы рабочай моладзі пачалі разьвівацца з 1922-23 навучальнага году.

У сучасны момант у БССР ёсьць школаў павышанага тыпу—27, (камплектаў—92), школаў рабочай моладзі ў гарадох—20 (камплектаў—77), у мястэчках—79 (камплектаў—108); вячэрніх школаў сялянскай моладзі—104. Школы павышанага тыпу ахопліваюць да 6090 чалавек, а школы рабочай моладзі—да 6100 чалавек.

Сацыяльны і нацыянальны склад слухачоў наступны: рабочых 65 проц., сялян—4 проц., іншых—31 проц.; беларусаў—32 проц., яўрэяў—63 проц., іншых—5 проц.; мужчын у школах—64 проц., жанчын—36 проц., Школы павышанага тыпу і рабочай моладзі маюць цяпер трохгадовы курс навучаньня; у далейшым і тыя і другія будуць рэарганізаваны ў 4-х годкі з такім разьлікам, каб першыя падрыхтоўвалі слухачоў у ВНУ'ы, а другія—у тэхнікумы.

Вячэрнія школы сялянскай моладзі існуюць 2 гады. Дапамога, па 250 рублёў на школу, была выдана ў 1926-27 г. 100 школам (адна школа на раён), але фактычна гэтых школ было значна больш.

## Партыйная асьвета.

Партыйная асьвета ў БССР ажыцьцяўляецца праз Камуністычны Ўнівэрсытэт і дзьве партыйныя рабочыя школы: Віцебскую 2-й ступені і Магілеўскую 1-й ступені.

Пры Віцебскай партшколе існуе яўрэйскі аддзел, а пры Магілёўскай—польскай аддзел. Склад вучняў у Камвузе і партшколах у 1926-27 годзе быў наступны:

| НАЗВЫ ШКОЛ | Нацыянальны склад вучняў | | | | | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | Яўрэі | Расійцы | Палякі | Іншыя | |
| а) Магілеўская Савпартшкола I-й ступені . | 128 | 11 | 7 | 29 | 2 | 177 |
| Польскі аддзел пры ёй | — | — | — | (29) | — | — |
| б) Віцебская Савпартшкола II-й ступені . | 77 | 77 | — | — | 12 | 166 |
| Яўрэйскі аддзел пры ёй | — | (47) | — | — | — | — |
| Камвуз імя Леніна ў Менску. . . . . | 104 | 43 | 13 | — | 10 | 170 |
| Разам. | 309 | 131 | 20 | 29 | 24 | 513 |
| %% | 60.24 | 25,50 | 3,9 | 5,66 | 4,70 | 100 |

Матар'яльная забясьпечанасьць Камвуву і Савпартшколаў здавальняючая.

З мэтаю пашырэньня палітасьветы сярод членаў партыі і камсамольцаў, арганізаваны вячэрнія партшколы, курсы, школы-перасоўкі. У 1925-26 годзе вячэрніх партшкол было—3, курсаў—20, школ-перасовак—55, школ палітграматы КСМ—50, школ палітграматы для партыйцаў—140.

Беларусізацыя ўстаноў палітасьветы акрэсьліваецца наступнымі данымі:

У Магілёўскай Савпратшколе 1-й ступені і ў Віцебскай Савпартшколе II-й ступені выкладаньне поўнасьцю пераведзена на беларускую мову.

У школах малапісьменных і лікпунктах, якія абслугоўваюць беларускае насельніцтва, выкладаньне поўнасьцю пераведзена на беларускую мову; школы гэтыя і лікпункты задаволены навучальнымі прыладамі на 100 проц.

Вячэрнія школы павышанага тыпу і школы рабочай моладзі ў першых групах вялі заняткі на беларускай мове. У

бягучым 1927-28 навучальным годзе на беларускую мову пераводзяцца другія групы і на 40 проц., пераводзіцца на беларускую мову выкладаньне ў III групах. Беларускімі падручнікамі гэтыя школы забясьпечаны на 50 проц.

Праца ў хатах-чытальнях, клюбах і народных дамох, у мясцовасьцях з беларускім насельніцтвам, вядзецца на беларускай мове.

У нацыянальных школах рабочай моладзі і школах павышанага тыпу, дзеля выкладаньня беларускай мовы вызначана ў кожнай клясе па 2 гадзіны ў тыдзень.

У 1926-27 навучальным годзе ў Народных Камісарыятах БССР для служачых былі арганізаваны 3-4 і 5 месячныя курсы па беларусазнаўству.

Дзеля падрыхтоўкі работнікаў для выкладаньня ў школах на беларускай мове, кожнае лета арганізоўваліся для настаўнікаў акруговыя беларускія курсы. У Менску існавалі вышэйшыя беларускія курсы для падрыхтоўкі настаўнікаў па беларусазнаўству. Апроч гэтага існавала шмат беларускіх гурткоў для вывучэньня беларускай мовы і беларусазнаўства наогул.

### Мастацкая асьвета.

Мастацкая асьвета мае вялікі ўплыў на працоўныя масы. Галоўпалітасьвета выкарыстоўвае для гэтай мэты тэатры, кіно, плякаты.

Беларускі тэатр—малады тэатр. Упяршыню беларускае слова прагучэла з сцэны 9-га лютага 1852 году (Менск, пастаноўка камэдыі «Сялянка» В. Дунін-Марцынкевіч). 1862, 1892, 1902 гады—былі гадамі рэдкіх храналёгічных спробаў даць са сцэны жывое беларускае слова, наперакор няўмалімаму рашэньню царскіх цэнзараў зусім задушыць гэтае слова.

З рэвалюцыяй 1905 году злучаны магутны разьліў беларускага нацыянальна-рэвалюцыйнага руху і, як выяўленьне яго, новая спроба распачаць беларускія сцэнічныя выступленьні.

Рэакцыя, якая разьбіла рэвалюцыйна-палітычныя сілы беларускага руху, накіравала частку гэтых сіл па рэчышчу легальнай нацыянальна-культурнай працы, цэнтрам якой, стаў г. Вільня, дзе 12 лютага 1910 г. адбыўся першы беларускі, сур'ёзна падрыхтаваны адчынены спэктакль, які паклаў сабой пачатак арганізацыі беларускіх трупаў, беларускага тэатру.

Вялікі Кастрычнік канчаткова разбурыў усе перашкоды на шляху разьвіцьця беларускага тэатру. З 22-га сьнежня 1918 году пачынае існаваць у Менску Беларускі Савецкі

Тэатр. У сярэдзіне ліпня м-ца 1919 году беларускі тэатр, у сувязі з пачаткам польскай акупацыі, зачыніўся. З восені 1920 году, пасьля аслабаненьня Беларусі ад польскай акупацыі, тэатр зноў пачаў існаваць. 1-га жніўня 1921 году пастановаю Народнага Камісарыяту Асьветы БССР было абвешчана адчыненьне Беларускага Дзяржаўнага Акадэмічнага тэатру.

Адсутнасьць кваліфікаваных працаўнікоў тэатру не дала магчымасьці разгарнуць працу ў шырокім маштабе. У зьвязку з гэтым, у 1921 годзе перад Урадам Беларусі паўстала пытаньне аб арганізацыі Беларускай Дзяржаўнай Драматычнай Студыі, дзеля падрыхтоўкі неабходнага кадру работнікаў тэатру. Так як у цэнтры Беларусі— у Менску ня было патрэбных для кіраваньня працай студыі—сіл, дык студыю рашылі адчыніць у Маскве і запрасіць да працы ў ёй лепшыя тэатральна-мастацкія сілы Маскоўскіх Акадэмічных тэатраў.

Маскоўская Студыя пасьля 5 гадовай напружанай працы ў маі 1926 году пераехала ў Беларусь—у г. Віцебск, дзе была рэарганізавана ў 2-гі Беларускі Дзяржаўны Тэатр і з восені 1926 году прыступіла да самастойнай працы, як тэатр, з тым рэпэртуарам, які быў прапрацаваны яшчэ ў Маскве ў працэсе студыйных работ. З гэткімі мэтамі і задачамі пры Беларускай Студыі ў Маскве была адначасова арганізавана і Яўрэйская Дзяжаўная Студыя для абслугоўваньня яўрэйскіх рабочых мас Беларусі. У восень 1926 году яўрэйская студыя пераехала ў Менск, рэарганізавана ў Яўрэйскай Дзяржаўны Тэатр Беларусі і прыступіла да самастойнай працы з тым рэпэртуарам, які быў падрыхтаваны ў Маскве ў працэсе студыйных работ. Апроч гэтых тэатраў у БССР існуе яшчэ Беларускі Дзяржаўны Вандроўны тэатр, які мае заданьне абслугоўваць беларускую вёску і мястэчка. Такім чынам Беларуская Рэспубліка ў 1926-27 годзе мела 4 беларускіх дзяржаўных тэатры. Першы Беларускі Дзяржаўны Тэатр за кароткі час свайго існаваньня дасягнуў значных посьпехаў. Ад прымітыўных аматарскіх пастановак ён перайшоў у апошнія гады да пастановак высокай мастацкай вартасьці і ўтварэньню свайго арыгінальнага рэпэртуару. Як малады тэатр, утвораны рэвалюцыяй, ён у сваёй працы яскрава адбівае нашую сучаснасьць.

Характэрнай асаблівасьцю Беларускага Дзяржаўнага Вандроўнага тэатру зьяўляецца тое, што ён не зьвязаны сталым месцам свайго пабыту, а вандруе з месца на месца, пераважна па вёсках і мястэчках Беларусі. Тэатр гэты ў апошнія гады набыў сабе папулярнасьць у вёсцы.

Беларускі тэатр, беларускае тэатральнае мастацтва буйным крокам ідзе наперад.

Тэатральнае мастацтва Беларусі, як краіны, якая на працягу шэрагу стагодзьдзяў была пад прыгонам і толькі з вялікай Кастрычнікавай Рэвалюцыяй атрымала права свабодна і самастойна разьвіваць і выяўляць свае культурныя і мастацкія цэннасьці,—разгарнулася ў такім шырокім маштабе, што Ўрад Беларусі, разумеючы важнасьць разьвіцьця гэтай галіны ў культурным будаўніцтве, па магчымасьці, матар'яльна дапамагае тэатральнаму будаўніцтву.

## Беларускае дзяржаўнае кіно.

Беларускае Дзяржаўнае кіно (Белдзяржкіно) распачало сваю працу ў 1925 годзе. За кароткі час свайго існаваньня гэтая маладая арганізацыя ня толькі арганізавала кіно ў гарадох і дала ім адпаведныя формы, але распачала сваю працу і ў вёсцы.

У 1926 годзе ў БССР дзейнічала 41 сталых кіно-ўстановак і 55 клюбных установак. Побач з гэтым працавала стала ў вёсцы 25 кіно-перасовак, якія знаходзіліся пад загадам Белдзяржкіно Кіно-перасоўкі працуюць у самых далёкіх і глухіх раёнах. З 1-га красавіка 1927 году колькасьць кіно-перасовак павялічылася яшчэ на 25, а да 10-й гадавіны Кастрычнівай Рэвалюцыі мяркуецца давесьці сетку кіно-перасовак да 100. Апроч гэтых кіно-перасовак працуе яшчэ 15—20 кіно-перасовак розных арганізацый.

Аднэй з важнейшых задач у галіне кінофікацыі зьяўляецца самастойная вытворчасьць карцін, што вельмі важна ня толькі ў мэтах асьветы шырокіх мас Беларусі, але ў мэтах азнаямленьня ўсяго Савецкага Саюзу і заграніцы з жыцьцём, бытам і гісторыяй народаў БССР. Да гэтай працы ўжо прыступлена. Ужо скончана і выпушчана на экран карціна «Лясная Быль» (Грышка Сьвінапас); карціна малюе эпоху наезду белапалякаў на Беларусь у 1919-20 годзе. Да 10-гі годзьдзя Кастрычнікавай Рэвалюцыі Белдзяржкіно выпускае тры фільмы, з якіх дзьве: «Кастусь Каліноўскі» і «Гірш Лекерт»—гістарычныя.

## Навуковыя ўстановы.

Апроч Інстытуту Беларускай Культуры, і Беларускага Навукова-дасьледчага Інстытуту Сельскай і Лясной гаспадаркі, аб якіх даюцца асобныя нарысы, у Беларусі існуюць наступныя навуковыя ўстановы: 2) Беларуская дзяржаўная бібліатэка з аддзеламі ў Віцебску і ў Магілёве; 3) Беларуская Кніжная Палата; 1) Беларускі Дзяржаўны Музэй з аддзеламі ў Віцебску і ў Магілёве; 5) Краязнаўчыя музэі ў гарадох БССР; 4) Рэспубліканскія Навуковыя Таварыствы.

## Беларуская Дзяржаўная бібліатэка.

У сучасны момант налічвае каля 300.000 томаў. Калі прыняць пад увагу поўную адсутнасьць у межах сучаснай БССР да Рэвалюцыі якіх небудзь больш значных кнігасховаў, адсутнасьць нацыяналізаваных кніжных фондаў, якія магчыма было-б пакласьці ў аснову шэрагу бібліатэк Беларусі (у нашых умовах гэтыя фонды зьніштожаны фронтамі і акупацыямі), то арганізацыя на працягу пяці гадоў буйнай дзяржаўнай біліатэкі, зьяўляецца адным з важнейшых дасягненьняў культурнага будаўніцтва БССР.

Беларускі аддзел біблатэк ужо ў сучасны момант зьяўляецца буйнешым згуртаваньнем літаратурнага матар'ялу па ўсіх пытаньнях, якія датычуць вывучэньня Беларусі.

У склад гэтага аддзелу ўваходзіць шэраг цаннейшых калекцыяў па гэтаму прадмету: акадэміка Карскага, вядомага этнографа прафэсара Янчука, былога папячыцеля Віленскай вучэбнай акругі—Карнілава, прафэсара Жуковіча і інш.

У агульныя аддзелы бібліатэчкі ўвайшоў таксама шэраг спэцыяльных навуковых збораў, як прафэсара Случэўскага у галіне права, прафэсара Ісаева—па біолёгіі, Барысава—па матэматыцы, бібліатэка акадэміка Грота і інш.

З 1922 году бібліатэка атрымлівае абавязковы экземпляр усіх друкаваных твораў ўсіх саюзных рэспублік.

## Беларуская Кніжная Палата.

Беларуская Кніжная Палата існуе з 1924 году. Як і кніжныя палаты іншых рэспублік, Беларуская Кніжная Палата мае заданьне: прыёмку і разьмяркаваньне па кнігасховах СССР абавязковых экзэмпляраў твораў друку БССР і іх бібліяграфічную рэгістрацыю. З 1925 году Палата выдае пэрыодычны орган Дзяржаўнай Бібліатэкі БССР «Летапіс Беларускага Друку».

## Беларускі Дзяржаўны Музэй.

Беларускі Дзяржаўны Музэй арганізаваўся ў канцы 1921 года. Найбольш цэннымі аддзеламі Музэю зьяўляюцца: этнаграфічны, якім сабрана да 2.000 прадметаў, якія датычуць этнаграфіі Беларусі, і гісторыка-археолёгічны аддзел, які мае значную колькасьць экспонатаў курганнага пэрыоду, што дае магчымасьць азнаёміцца з былымі насельнікамі тэрыторыі Беларусі. Мастацкі аддзел пакуль што прадстаўлены прадметамі расійскіх мастакоў. Гэтыя прадметы атрыманы з музэйных фондаў Галоўнавукі РСФСР. Ёсьць таксама ў Музэі значная калекцыя прыладаў каменнага веку і грашовых скарбаў, якія знойдзены за апошні час на тэрыторыі Беларусі.

## Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.

3-га лістапада 1920 году было ўпершыню арганізавана «Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі», якое сканцэнтравала ў сябе ўсе выдавецтва ў Беларусі, у тым ліку і пэрыодычныя выданьні. Дзяржвыдавецтва Беларусі прыняло на сябе выпуск 12 пэрыодычных выданьняў у г. Менску:

а) на расейскай мове—газэты: «Звезда», Белорусская Деревня», «Известия ЦИК'а Белоруссии», «Голос производственных союзов», «Красная Смена» и журнал «Известия Центрального Бюро Коммунистической Партии (большевиков), а ўсяго 5 газэтаў і адзін часопіс;

б) На расійскай і беларускай мове часопіс: «Вестник Наркомпроса Белоруссии»;

в) На беларускай мове:—газэты: «Савецкая Беларусь» і часопісы: «Вольны Сьцяг» і «Зорка» (дзіцячы);

г) На яўрэйскай мове газэты: «Вэкэр і Проф. Бэвэгунг»;

д) На польскай мове газэта «Млот»;

10 газэтаў ў павятовых гарадох:

а) у Барысаве—на расійскай мове «Бедняк», «Коммунистический Труд», «Партийный листок», «Известия Борисовского Исполкома».

б) У Бабруйске на расійскай мове: «Коммунист» і «Путь Победы», на яўрэйскай мове:—Дэр вэг фун зіг»;

в) У Мазыры на расійскай мове: «Пролетарское Слово»;

г) У Чэрвені—на расійскай мове: «Голос Труженика»;

д) У Слуцку на расійскай мове: «Плуг и Молот».

У 1921 годзе было выдана 141 назва на расійскай мове і 22 на беларускай мове.

Разьвіцьцё беларускай культуры шло шпаркім крокам.

Пачалася беларусізацыя школ. Адразу зьявілася патрэба ў беларускай кнізе, падручніку, часопісу.

Узмоцнены попыт на беларускую кнігу і асабліва—падручнік—вызвалі да жыцьця Каапэратыўна-Выдавецкае Таварыства—«Адраджэньне», якое потым было пераіменавана ў выдавецтва «Савецкая Беларусь».

Пасьля роўналежнага існаваньня на працягу аднаго году, абодва гэтыя выдавецтва былі ў верасьні 1924 г. аб'яднаны ў «дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі» на правох дзяржаўнага трэсту пры Наркамасьветы БССР.

Белдзяржвыдавецтва за тры гады свайго існаваньня зрабіла вялікую арганізацыйную працу.

На працягу 6 гадоў існаваньня Савецкай Улады ў Менску паліграфічныя прадпрыемствы дасягнулі такога разьвіцьця, што могуць даць ў месяц пры поўнай нагрузцы 690 друкаваных аркушаў набору і больш 3.571.000 друкаваных адцiскаў.

У зьвязку з значным пашырэньнем Беларускай Рэспублікі, з павялічэньнем школьнай сеткі, з тэмпам беларусізацыі як школьнай сеткі, так і ўсіх дзяржаўных, партыйных і культурна-асьветных арганізацый, дзейнасьць Белдзяржвыдавецтва разгарнулася яшчэ больш.

Кніжная прадукцыя Белдзяржвыдавецтва за апошнія 3 гады акрэсьліваецца наступнымі лічбовымі данными.

| На якой мове і ў які пэрыод | Кольк. назваў | Колькасьць друкаваных аркушаў | Колькасьць экзэмпляраў |
|---|---|---|---|
| 1924-25 г. | | | |
| На беларускай мове . . | 101 | 684 | 1.420.000 |
| „ яўрэйскай „ . . | 17 | 69 | 46.500 |
| „ польскай „ . . | 6 | 8 | 19.000 |
| „ расійскай „ . . | 18 | 112 | 74.000 |
| Разам . | 142 | 873 | 1.559.500 |
| 1925-26 г. | | | |
| На беларускай мове . . | 107 | — | 1.123.000 |
| „ яўрэйскай „ . . | 14 | — | 47.000 |
| „ польскай „ . . | 10 | — | 48.000 |
| „ расійскай „ . . | 7 | — | 27.000 |
| Разам . | 138 | 1.079 | 1.235.000 |

Па пляну ў 1926-27 годзе павінна было быць выдана на беларускай мове—930 аркушаў, на яўрэйскай—187½ аркушаў, на польскай—62½ аркуша, на расійскай—70 аркушаў, а ўсяго разам—1.250 аркушаў.

Гэтыя даныя гавораць аб тым, што выдавецкая дзейнасьць накіравала па шляху прапарцыянальнага абслугоўваньня ўсіх нацыянальнасьцяй, якія жывуць у БССР. Выдавецкія пляны ўкладаюцца з адзначэньнем месца для кожнай нацыянальнасьці, згодна зацьверджаных працэнтных суадносінаў, а іменна: для беларускай мовы—70 проц., для яўрэйскай—15 проц., для польскай—5 проц., расійскай—8 проц., латышскай і інш.—2 проц.

### Газэты і журналы.

У сучасны момант ў ББССР выходзяць наступныя газэты: у Менску—на беларускай мове: «Савецкая Беларусь», орган ЦВК БССР. «Зьвязда»—орган ЦК КП(б)Б, «Беларуская Вёска»; на расійскай мове—«Рабочий», на яўрэйскай—Октябрь», на польскай «Orka».

Апроч таго ў акругах выходзяць акруговыя газэты: у Віцебску—«Заря Запада»—на расійскай мове, і «Віцебскі Селянін»—на беларускай мове; у Гомелі «Полесская Правда» і «Новая Деревня»— абыдзьве на расійскай мове; у Бабруйску—«Камуністы»—на беларускай мове; у Воршы «Камуністычны шлях»—на беларускай мове; у Полацку «Чырвоная Полаччына»—на беларускай мове; у Мазыры—«Савецкая Вёска»—на беларускай мове. З камсамольскіх газэтаў ў Менску выходзяць «Чырвоная Зьмена»—на беларускай мове; «Юнгер Арбейтэр»—на яўрэйскай мове, і «Gwiazda Młodzieży»—на польскай мове.

З часопісаў, якія выходзяць ў БССР неабходна адзначыць наступныя: «Полымя»—штомесячны, літэратурна-эканамічна-палітычны часопіс на беларускай мове, «Маладняк» часопіс на беларускай мове, орган літэратурнай арганізацыі пад гэтай жа назвай; «Узвышша»—часопіс на беларускай мове—орган літэратурнай арганізацыі пад гэтай жа назвай.

Гэтыя даныя гавораць аб тым, што выдавецкая дзейнасьць накіравана па шляху прапарцыянальнага абслугоўваньня усіх нацыянальнасьцяй, якія жывуць у БССР.

На заканчэньне неабходна адзначыць, што выдавецкая дзейнасьць расьце ня толькі ў бок колькасьці выпускаемых кнігаў, але таксама і ў бок палепшаньня якасьці сваёй кніжнай прадукцыі як ў сэнсе ідэолёгічным, так і ў сэнсе тэхнічным.

## VII.

## Інстытут Беларускай культуры. (Інбелкульт).

### Кароткія гістарычныя весткі аб арганізацыі Інстытуту Беларускай Культуры.

Вышэйшай Навукова-дасьледчай ўстановай, якая аб'яднае ўсю навукова-дасьледчую працу ў БССР—зьяўляецца Інстытут Беларускай Культуры.

Перад Кастрычнікавай рэвалюцыяй ў Беларусі ня было ні вышэйшых навучальных устаноў, ні навукова-дасьледчых. Інстытут Беларускай Культуры зьяўляецца дзіцём пралетарскай Рэвалюцыі ў Беларусі.

Адначасова з пытаньнем аб арганізацыі ў Менску Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту пастаўлена было пытаньне і аб арганізацыі Інстытуту Беларускай Культуры. Яшчэ ў лютым 1921 г. гэтае пытаньне абгаворвалася на 2-ой Сэсіі ЦВК БССР. У стэнаграме дакладу Наркамасьветы на гэтай сэсіі гаворыцца аб неабходнасьці ўтварэньня пры Беларускім Унівэрсытэце двух інстытутаў: беларускай і яўрэйскай культуры. Аднак адсутнасьць высока-кваліфікаваных працаўнікоў па беларусазнаўству ў Беларусі і недахоп неабходнага абсталяваньня—змусілі часова адмовіцца ад мыслі ўтварэньня гэтых інстытутаў.

Аднак настойная патрэба ў беларускай тэрміналёгіі, у беларускіх падручніках, палітыка-літэратурных і—іншых часопісах з ўсёй рашучасьцю высоўвалі пытаньне аб утварэньні пры Наркамасьвеце Навукова-Дасьледчай ўстановы, якая з часам павіна была разгарнуцца ў Інстытут Беларускай Культуры.

Такім зародышам Інстытуту Беларускай Культуры зьявілась утвораная ў 1921 годзе пры Акадэмічным Цэнтры Наркамасьветы—Навукова-тэрміналёгічная Камісія з трома сэкцыямі: гуманітарнай, прыродазнаўчай і матэматычнай. У заданьне Навукова-тэрміналёгічнай Камісіі зпачатку ўваходзіла распрацоўка і выданьне ў сьпешным парадку навуковай тэрміналёгіі хоць бы для пачатковых і сярэдніх беларускіх школ. З гэтай задачай Навукова-Тэрміналёгічная Камісія справілась пасьпяхоўна. Да 1922 году была выдана навуковая беларуская тэрміналёгія па галінам—гуманітарнай, прыродазнаўчай і матэматычнай.

У 1922 годзе Навукова-тэрміналёгічная Камісія, якая шырока разгарнула сваю працу,—была рэарганізавана ў Інстытут Беларускай Культуры з двома сэкцыямі: гуманітарнай і прыродазнаўчай. Гэтыя сэкцыі ў свой чарод падзяліліся на шэраг навукова-дасьледчых камісій (літэратуная, па укладаньню слоўніка, тэрміналёгічная і інш.).

У выніку спэцыяльнай адозвы Інстытут Беларускай Культуры да працоўных масаў і інтэлігэнцыі, каб яны прынялі пасільны ўдзел ў выяўленьні асаблівасьцяй Беларусі да гэтага часу амаль не кранутай дасьледчай працай, хутка вырасла густая сетка краязнаўчых арганізацый, у якія ўвайшло шмат рабочых і сялян, пераважна-ж сельская інтэлігэнцыя, а таксама і вучнёўская моладзь. Пры Інстытуце Беларускай Культуры было утворана Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, якое пачало выдаваць дзеля асьвятленьня краязнаўчай працы—журнал—«Наш край».

Праз гэтае бюро была ўстаноўлена самая шчыльная сувязь з працоўнымі масамі Беларусі. У сучасны момант у краязнаўчыя арганізацыі Беларусі ўваходзяць 9.000 членаў. Дасьледчыя матар'ялы, якія зьбіраюцца гэтымі арганізацыямі, па-

ступаюць ў Інстытут Беларускай Культуры для навуковай апрацоўкі.

З 1924 году навукова-дасьледчая праца Інстытуту Беларускай Культуры шырока разгарнулася і абхапіла шэраг галін будаўніцтва Савецкай Беларусі. У працу Інстытуту Беларускай Культуры былі ўцягнуты сотні навуковых, партыйных і савецкіх кіруючых работнікаў.

У гэтым жа 1924 годзе Савет Народных Камісараў БССР зацьвердзіў статут Інстытуту Беларускай Культуры. Паводле гэтага статуту ў задачы Інстытуту Беларускай Культуры ўваходзіць плянавае дасьледаваньне Беларусі і аб'яднаньне працы ў галіне мовы, літэратуры, этнографіі, гісторыі, прыроды, эканомікі, сацыяльна-грамадзкага руху і інш. У 1926 годзе ЦВК і СНК БССР, надаючы асаблівую важнасьць працы Інстытуту Беларускай Культуры і прымаючы пад увагу, што круг дзейнасьці Інбелкульту і ўплыў яго на шырокія масы насельніцтва ўсё пашыраецца, пастанавіў рэарганізаваць Інстытут Беларускай Культуры ў самастойную ўстанову, падпарадкаваную непасрэдна Савету Народных Камісараў.

## Структура Інстытуту Беларускай Культуры і кароткі агляд яго дзейнасьці.

У склад Інстытуту Беларускай Культуры ў 1926-27 акадэмічным годзе ўваходзіла 7 навуковых сэкцый і 8 сталых камісій, якія аб'ядналі ў сучасны момант два вялікіх аддзелы: Гуманітарны Аддзел і Аддзел Прыроды, якія падзяляюцца на камісіі.

1. Слоўнікавая Камісія назьбірала пры дапамозе краязнаўчых арганізацый і прыватных асоб звыш 300.000 слоў жывой беларускай мовы; падрыхтоўвае да выданьня вялікі акадэмічны слоўнік беларускай мовы; выдала абласны беларускі слоўнік Віцебшчыны і падрыхтавала да друку гэткі-ж слоўнік Калініншчыны і Чэрвеншчыны.

2. Галоўная Тэрмінолёгічная Камісія выдала навуковую беларускую тэмінолёгію па наступным дысцыплінам: матэматыцы, географіі, хіміі, анатоміі, мастацтву, грамадазнаўству, праву, сельскай і лясной гаспадаркі.

3. Літэратурная Камісія падрыхтавала да акадэмічнага выданьня поўны збор твораў некаторых беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў. Ужо вышаў з друку 1 том твораў М. Багдановіча.

4. Фальклёрна-Дыялектолёгічная камісія вывучае беларускія народныя гутаркі і народную творчасьць. Камісіяй гэтай падрыхтавана да выданьня некалькі тамоў фольклёрнага матар'ялу.

5. Сацыяльна-Гістарычная Сэкцыя у 1925 годзе да 400 годзьдзя беларускага друку выдала гістарычныя досьле-

ды па гэтаму пытаньню, потым выдала зборнік «Беларускі Архіў» т. I, «Гісторыка-Археолёгічны зборнік» і шэраг іншых выданьняў па гісторыі і археолёгіі Беларусі.

6. Камісія па ахове помнікаў старыны ўзяла на вучот гэтыя помнікі ў Беларусі і робіць навуковае апісаньне іх; гэтая камісія арганізавала шэраг запаведнікаў.

7. Этнаграфічная Камісія правяла некалькі экспэдыцыяў па Беларусі, якія назьбіралі каштоўныя матар'ялы і калекцыі, а таксама дадаткова абсьледвалі этнаграфічныя межы расьсяленьня беларусаў.

8. Сэкцыя мастацтва, у склад якой уваходзяць камісіі: тэатральная, музычная і камісія вобразных мастацтваў, была занята апрацоўкай рэпэртуару для Беларускага Тэатру, заснавала беларускі тэатральны музэй, вядзе запіс народных песьняў і дае ім інструментальную апрацоўку (апрацавана звыш 500 песьняў і мэлёдый).

9. Прыродазнаўчая сэкцыя праз спэцыяльныя падсэкцыі і камісіі робіць досьледы арганічнай і неарганічнай прыроды Беларусі. Праведзеныя сэкцыяй за апошнія 3-4 гады навуковыя экспэдыцыі далі магчымасьць прыступіць да укладаньня гэо-батанічнай, гэолёгічнай і глебавай картаў Беларусі, выявілі шэраг залежаў камяннага вугля, крэйды, гліны розных сартоў, пяску, фасфарытаў і інш. З матар'ялаў якія накапіліся пры досьледах флёры і фаўны Беларусі, а таксама матар'ялаў гэолёгічных досьледаў,—арганізаваны багаты музэй прыроды Беларусі ў складзе 3 аддзелаў: зоолёгічнага, батанічнага і глебавага.

Мэтэоролёгічнае Бюро сэкцыі, якое мае сетку мэтэоролёгічных станцый на Беларусі, вывучае клімат Беларусі.

10. Камісія па вывучэньню натуральна-вытворчых сіл БССР вядзе плянавыя досьледы прыроды Беларусі з мэтаю навуковага абслугоўваньня разьвінаючайся прамысловасьці і сельскай гаспадаркі Рэспублікі.

11. Мэдычная сэкцыя робіць досьледы спэцэфічных хваробаў Беларусі (калтун, зоб, бытавы сіфіліс (пранцы) і інш.), вывучае санітарнае становішча беларускай вёскі і інш.

12. Антрополёгічная Камісія вядзе дасьледчую працу і выяўляе антрополёгічныя асаблівасьці беларускага насельніцтва.

13. Геаграфічная камісія на падставе матар'ялу, якія зьбіраюцца ёю і краязнаўчымі арганізацыямі, падрыхтоўвае поўнае географічнае апісаньне Беларусі.

14. Сельска-гаспадарчая сэкцыя да хвілі арганізацыі ў Беларусі Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя Леніна, вяла навуковыя досьледы ў галіне сельскай і лясной гаспадаркі Беларусі.

15. Бібліографічная камісія ўкладае бібліаграфіі па усім галінам беларусазнаўства.

16. Вайсковая камісія падрыхтавала і выдала на беларускай мове вайсковыя статуты, беларускі вайсковы слоўнік, беларускія песьні для Чырвонай арміі і шэраг беларускіх падручнікаў і хрэстаматый для каманднага і чырвонаармейскага складу.

17. Камісія па вывучэньню Заходняй Беларусі занята зьбіраньнем і навуковым вывучэньнем матар'ялаў сацыяльна-эканамічнага, бытавога і наогул культурнага жыцьця насельніцтва (пераважна беларускага) ў Заходняй Беларусі. Падрыхтавана да друку вялікая праца па дасьледваньню эканамічнага становішча Заходняй Беларусі. Праца гэта хутка выйдзе ў сьвет.

У склад Інстытут Беларускай Культуры ўваходзяць 2 нацыянальных аддзелы: яўрэйскі і польскі; апроч таго у надыходзячым бюджэтным годзе адчыняюцца аддзелы: Літоўскі і Латышскі. Гэтыя нацыянальныя аддзелы будуць весьці навуковыя досьледы мовы, гісторыі, этнографіі і наогул нацыянальнай культуры яўрэйскага, польскага, літоўскага і латыскага насельніцтва Беларусі.

Інстытут Беларускай Культуры мае свой філіал пры Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі ў Горках «Навуковае Таварыства па вывучэньню Беларусі». Таварыствам гэтым выдана ўжо тры томы навуковых прац ў галіне вывучэньня сельскай і лясной гаспадаркі і мэліорацыі БССР.

Пры Інстытуце Беларускай Культуры знаходзіцца Навуковая Арганізацыя Працы (НАП) з псіха-тэхнічнай лябараторыяй; ёсьць бібліатэка, якая налічвае каля 40.000 рэдкіх спэцыяльных кнігаў, Музэй Прыроды, Акліматызацыйны сад ў Вэцебскай акрузе, хімічная лябараторыя і абсталяваная спэцыяльнымі шрыфтамі—друкарня.

Падчас свайго 5-гадовага існаваньня Інстытут Беларускай Культуры выдаў да 70 томаў навуковых прац, якія датычуць усіх бакоў жыцьця Савецкай Беларусі. Ужо адзін пералік установаў Інстытуту Беларускай Культуры і кароткая характарыстыка іх дзейнасьці сьведчыць аб тэй колёсальнай працы акадэмічнага тыпу, якую праводзіць Інстытут Беларускай Культуры па адраджэньню і разьвіцьцю нацыянальных культур насельніцтва Беларусі.

Апроч гэтага Інстытут Беларускай Культуры ўстанавіў цесную сувязь і ўзаемны абмен кнігамі з усімі Акадэміямі Навук і іншымі навуковымі ўстановамі (унівэрсытэтамі, інстытутамі, бібліатэкамі, музэямі), як ў СССР, так і ў Эўропе і Амерыцы. Колькасьць гэтых навуковых ўстаноў з якімі зьвязаны Інстытут Беларускай Культуры дасягае ў сучасны момант да 750. Інстытут Беларускай Культуры прымае ўдзел ў навуковых канфэрэнцыях і зьездах ў СССР і за граніцай (Нямеччына, Амэрыка, Польшча і іншыя краіны) і склікае свае канферэнцыі і зьезды (Канферэнцыя па рэформе бела-

рускага правапісу і альфабэту, канфэрэнцыя археолёгаў, краязнаўцаў і інш.) ў якіх прымаюць удзел вучоныя спэцыялістыя СССР і Эўропы (Нямеччыны, Польшчы, Літвы, Латвіі, Чэха-Славакіі і інш.).

Разгорнутая ў сучасны момант Інстытутам Бел. Культуры Навукова-Дасьледчая праца ва ўсіх галінах жыцьця Савецкай Беларусі высунула перад Кампартыяй і Савецкай Ўладай пытаньне аб рэарганізацыі Інстытуту Беларускай Культуры ў Беларускую Акадэмію Навук. Пытаньне аб такой рэарганізацыі высунута было ўпяршыню ў сярэдзіне 1926 году. У рэзалюцыі па дакладу Ўраду Беларусі 4-га чэрвеня 1926 г. у Прэзыдыуме ЦВК СССР,—Саюзны ЦВК пастанавіў:

«Прымаючы пад увагу труднасьці нацыянальнага пытаньня ў Беларусі, якія ўзьнікаюць дзякуючы рознастайнаму складу яе насельніцтва, Прэзыдыум ЦВК Саюзу адзначае, што Беларускі Ўрад здолеў правільна выразіць у асноўным важнейшыя пытаньні нацыянальнай палітыкі, аддаючы належную ўвагу пытаньням беларускай культуры, забясьпечыўшы яе далейшае разьвіцьцё. Пры гэтым Прэзыдыум ЦВК Саюзу асабліва адзначае вялікае значэньне дзеля гэтай мэты—Інстытут Беларускай Культуры, які ў сваёй далейшай працы павінен пэратварыцца ў Беларускую Акадэмі Навук».

10-га ліпеня 1926 г. па дакладу Інстытуту Беларускай Культуры—Савнаркам Беларусі вынес наступную пастанову: «Адзначыць узмацненьне ўплыву Інстытуту Беларускай Культуры на ўсю навуковую і дасьледчую працу ў Рэспубліцы і разам з тым лічыць неабходным з 1926-27 акадэмічнага году надаць Інстытуту Беларускай Культуры напрамак у бок паступовага пэратварэньня яго ў Беларускую Акадэмію Навук».

21га ліпеня 1927 г. Савет Народных Камісараў зацьвердзіў новы статут Інстытуту Беларускай Культуры, які зьяўляецца аналёгічным статуту ўсесаюзнай і Украінскай Акадэміям Навук. Згодна апошняму статуту Інстытут Беларускай Культуры зьяўляецца вышэйшай дзяржаўнай ўстановай ў БССР і падпарадкаваны непасрэдна СНК БССР.

У § 2 статуту гаворыцца: «Інстытут Беларускай Культуры мае наступныя задачы:

а) распаўсюджваньне і ўтачненьне навуковых дысцыплін, якія ўваходзяць ў яго кампэтэнцыю, узбагачаючы іх новымі адкрыцьцямі і мэтадамі досьледаў;

б) плянавае дасьледваньне Беларусі з боку яе прыродных вытворчых сілаў, вывучэньне і садзейнічаньне іх выкарыстоўваньню, вывучэньне народнай гаспадаркі, права, грамадзянскага руху, мовы, літаратуры, гісторыі, этнаграфіі і інш.

в) аб'яднаньне ў гэтых галінах ўсей навуковай працы, якая вядзецца навуковымі ўстановамі БССР і асобнымі вучонымі;

г) прыстасаваньне навуковых тэорый і вынікаў навуковых досьледаў да практычнага ўжываньня ў прамысловым і культурна-эканамічным будаўніцтве БССР».

І так, дзякуючы кіраўніцтву Кампартыі і Савецкай Ўлады ў галіне нацпалітыкі, працоўныя Беларусі у галіне культурнага будаўніцтва дасягнулі таго, чаго яны не маглі дасягнуць на працягу стагодзьдзяў свайго гістарычнага існаваньня.

Апроч некалькіх тысяч пачатковых, сярэдніх, а таксама і вышэйшых школаў на роднай беларускай мове, працоўныя масы Беларусі маюць Інстытут Беларускай Культуры, які знаходзіцца напярэдадні пераатварэньня яго ў Беларускую Акадэмію Навук і зьяўляецца вышэйшай навукова-дасьледчай ўстановай.

## Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя Ў. І. Леніна.

Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя Ў. І. Леніна заснаваўся 26-га студзеня 1927 году. У сваей дзейнасьці ён падпарадкаваны СНК БССР.

Мэта Інстытуту—шляхам навуковага дасьледваньня дапамагчы сацыялістычнай перабудове сельскай і лясной гаспадаркі і разьвіцьцю вытворчых сіл яе.

Інстытут разгортвае дасьледчую працу па тых галінах гаспадаркі, якія да гэтага часу не абслугоўваліся існуючымі дасьледчымі ўстановамі Беларусі і маюць найпаважнейшае значэньне як у эканоміцы БССР, так і ў працы па аднаўленьні і разьвіцьці сельскай гаспадаркі згодна пэрспэктыўнаму пляну. Такімі галінамі зьяўляюцца: жывёлагадоўля,—ў першую чаргу сьвінагадоўля,—тэхнічныя і палявыя культуры, лясная гаспадарка, мэліорацыя.

У 1926-27 гаспадарчым годзе Інстытут працаваў у складзе трох Аддзелаў: Лясной гаспадаркі, Мэліорацыі і Культуры балот, і Сельска-Гаспадарчай Эканоміі Аграрнай Палітыкі. Інстытут меў ў гэтым годзе 4 дасьледчых станцыі—Цэнтральную Лясную з 1 дасьледчым лясьніцтвам і 2 дасьледчыміляснымі вучасткамі, Менскую Балотную Станцыю, Менскую Агранамічную і Менскую Станцыю Аховы Расьлін. У 1927-28 гаспадарчым годзе пачалі арганізоўвацца ў Інстытуце два новых Адзелы—Жывёлагадоўлі і Расьлінагадоўлі; засноўваюцца 4 новых дасьледчых станцый:—Цэнтральная Сьвінаводчая, Станцыя Чырвонага Беларускага Быдла, Цэнтральная Бульбяная станцыя і Гідролёгічная. У 1927-28 г. Інстытут прыняў ад НКЗ Палескую Пяшчана-Ба-

лотную Станцыю, і Мэтэоролёгічнае Бюро. Для Палескай Станцыі Інстытут адшукаў адпаведныя плошчы пад балотную базу (у Мар'іне, на калёнізацыйным фондзе).—Мэтэоролёгічнае Бюро рэарганізуецца ў Беларускую Гэофізычную Службу (Белгэофіз), з пабудовай белгэофізычнай абсэрваторыі ў Менску.

Галоўныя працы, праведзеныя Інстытутам у 1926-27 г. наступныя:

Па Аддзелу Мэліорацыі і культуры балот:

1) Досьледы аб найбольш выгадных адлегласьцях між асушальнымі канавамі.

2) Формы і разьмеры устойлівых магістралей дзеля адводу вады.

Названыя два цыклі прац ахопліваюць цэлы шэраг асобных дасьледчых тэм. Вынікі досьледаў зьяўляюцца падставай тэхнікі мэліорацыі на Беларусі.

Балотная Станцыя галоўную ўвагу аддала працам:

1) Мэтоды культуры балот.

2) Кульцівіраваньне розных палявых і травяных расьлін на балоце; карыснае ўжываньне мінэральных угнаеньняў.

Балотная Станцыя правяла гэобатанічную экспэдыцыю па Палесьсю.

Аддзел Лясной Гаспадаркі і Цэнтральная Лясная Дасьледчая Станцыя галоўным чынам працавалі над:

1) Вывучэньнем дэндролёгіі і біолёгіі дрэўных парод БССР (сасны, дуба, бярозы, асіны ёлкі);

2) Вывучэньнем біолёгіі лясных насаджэньняў Беларусі, іх тыпаў і доглядаў за імі;

3) складаньнем сартымэнтных табліц дзеля лясоў Беларусі;

4) Вывучэньнем падсочкі сасны.

Аддзел Сельска-Гаспадарчай Эканомікі і аграрнай політыкі правёў некалькі экспэдыцый:

1) Па вывучэньні форм і эфэктыўнасьці земляўпарадкаваньня;

2) Па вывучэньні эканомікі мэліорацыі (па ўсёй БССР);

3) Па эканоміцы ільняводзтва;

4) Па эканоміцы сельскай гаспадаркі Мазырскага Палесься;

5) Па вывучэньні рынечных умоў таварнае сьвінагадоўлі ў Случчыне.

Апроч таго, аддзел распачаў стацыянарнае вывучэньне арганізацыі сельскай гаспадаркі ў 70 пунктах БССР; канчаюцца працы па вывучэньні народнай гаспадаркі Заходняй Беларусі і эканомічнаму профілю БССР.

Менская Агранамічная Станцыя вывучала:

1) Спосабы павялічэньня вытворчасьці лехкіх беларускіх глебаў;

2) Севазвароты, сортавывучэньне, тэхніку культур лёхкіх глебаў.

Станцыя Аховы Расьлін вывучала розныя шкоднікі палявых расьлін, галоўным чынам, збожа (ячменю, жыта); асабліва ўважліва вывучаліся швэцкая муха і трыпсы.

Апрача дасьледчае працы Інстытут імя Ў. І. Леніна вядзе навукова-арганізацыйную працу. Інстытуту належыць навуковае кіраўніцтва ўсёй дасьледчай дзейнасьцю па сельскай і лясной гаспадарцы Беларусі.

З організацыйных прац Інстытуту трэба адзначыць:

1) Складаньне пяцігадовага пэрспэктыўнага пляну навукова-дасьледчае працы сельскай і лясной гаспадаркі Беларусі, ў якім удзельнічалі ўсе выдатнейшыя сілы сярод дасьледчыкаў БССР.

2) Арганізацыя Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў, у які зараз уваходзяць 434 гаспадары-дасьледчыкі; непасрэдна Інстытутам выяўлена 259 дасьледчыкаў, досьледы якіх ставяцца па праграме Інстытуту.

3) Выданьне навукова-агранамічнага часопісу «Сельская і Лясная Гаспадарка».

Інстытут імя Ў. І. Леніна мае дапаможныя ўстановы: Цэнтральную Хімічную Ляборатрыю (аб'яднаньне 3-х хім. ляборатырый—Балотнай, Агранамічнай Станцыі і ІБК), Дасьледчы музэй, Бібліатэку, прыблізна з 10.000 тамоў навуковай літаратуры. З выданьняў Інстытуту (7 назваў) найбольш каштоўным зьяўляецца «Кліматычны Атлас Беларусі».

Беларускі Інстытут імя Ў. І. Леніна асабліва шырока разгортвае досьледы ў тых галінах гаспадаркі, якімі Беларусь адрозніваецца ад іншых раёнаў Саюзу: сьвінагадоўля бульбяная гаспадарка мэліорацыя і культура балот. Дасьледчыя працы ў гэтых галінах павінны мець усесаюзнае значэньне.

---

## Ацэнка нашых дасягненьняў ў галіне беларусізацыі па даным зарубежнай прэсы.

Нашыя дасягненьні ў справе беларусізацыі, ня гледзячы на існуючыя ў гэтай працы недахопы, не маглі не зьвярнуць на сябе ўвагу працоўных за кардонам. Калі працоўныя ўсіх краін і народаў з глыбокім інтарэсам увагаю і спачуваньнем сачаць за нашай працай—будаўніцтва сацыялізму, то ўвага да нашай культурнай працы працоўных Заходняй Беларусі,—якая хоць і адмяжавана ад БССР дзяржаўнай Савецка-польскай мяжой, але зьяўляецца такой жа этнаграфічнай часткай Беларусі, як і БССР,—зьяўляецца зусім зразумелай.

Польская буржуазія з усіх сіл старалась і стараецца выставіць усе нашыя дасягненьні ў галіне культурнага будаўніцтва, у тым ліку і беларусізацыю, ў ілжывым асьвятленьні, маючы на мэце зьменьшыць, затушаваць перад працоўнымі масамі Заходняй Беларусі важнасьць і вялічыню нашых дасягненьняў ў культурным будаўніцтве.

Аднак нават варожая нам прэса, як беларуская ,згодніцка-палёнофільская, альбо шовіністычная, так і польская рэакцыйная,—бываюць змушаны сказаць аб нашай культурнай працы ў БССР то, чаго ім вельмі не хацелася-б прызнаваць.

Возьмем, напрыклад, віленскую газэту «Kurjer Wileński» якая зьяўляецца органам поўафіцыйным і стаіць, безумоўна, панад усялякімі падазрэньнямі адносна якой небудзь «сымпатыі» да дыктатуры пралетарыяту.

У адным з нумароў гэтай газэты за кастрычнік м-ц 1926 году, у артыкуле прысьвечаным абгаварэньню палітычнага становішча ў Заходняй Беларусі, робіцца параўнаньне з становішчам у БССР.

Аўтар артыкулу з пачатку абвінавачвае Савецкую ўладу ў прыгнечаньні буржуазіі, але ўсё-ж змушаны ў рэшце-рэштаў прызнаць і культурныя дасягненьні у БССР.

У артыкуле гаворыцца, што:

«Савецкая Ўлада арганізавала Беларускі Унівэрсытэт, арганізавала Інстытут Беларускай Культуры, заснавала некалькі спэцыяльных школ і цэлую сетку нізшых школ. Шэраг даўнішніх палітычных ворагаў камунізму

знаходзяць сёньня застасаваньне для сваіх сілаў на тэрыторыі Савецкай Беларусі. Нават такі дзеяч як Смоліч, які ў свой час арганізоўваў беларускія легіёны на польскім баку—займае цяпер кіруючую пасаду ў галіне творчай культурнай працы. Трэба прызнаць, што палітыка Савецкай Ўлады значна больш разумнейшая чымся палітыка Польшчы».

Гэтая вымушаная характырыстыка нашага культурнага будаўніцтва ў процілегласьць таму становішчу, якое існуе ў Заходняй Беларусі, якая знаходзіцца пад уладаю Польшчы,— зьяўляецца вельмі паказальнай, калі прыняць пад увагу, што гэтая характарыстыка адбівае настрой нават некаторых буржуазных колаў пануючай польскай нацыі.

Зьвернемся цяпер да заяў варожых нам беларускіх дзеячоў, як напрыклад,—лідэра беларускай згодніцкай партыі «Сялянскі Саюз», дэпутата Сойму—Ярэміча альбо кіраўніка беларускай хрысьціянскай дэмакратыі—дэпутата Сойму—ксяндза А. Станкевіча. Гэтыя беларускія лідэры дробна-буржуазнага лягэру таксама ня могуць не прызнаць нашых дасягненьняў у культурным будаўніцтве, у прыватнасьці, ў беларусізацыі.

У артыкуле аб Беларусі,—які зьмешчаны у журнале «Natio» (№ 1-2—1927 г.), што выходзіць у Варшаве і аб'ядна е т. з. дэмакратычную частку ўсіх нацыянальных меншасьцяй ў Польшчы—дэпутат Ярэміч гаворыць:

«Пачатковыя сярэднія і вышэйшыя школы ў Савецкай Беларусі ў большай частцы беларусізаваны.

Там разьвіваецца беларуская навука і мастацтва».

Гэтае становішча у БССР Ярэміч далей роўнуе з становішчам ў Польшчы, дзе беларусы ня маюць ні воднай беларускай пачатковай ўрадавай школы, не гаворачы ўжо аб школах больш павышанага тыпу.

Беларускі дэпутат ў Сойме—ксёндз А. Станкевіч—бясспрэчны і бэзапэляцыйны вораг дыктатуры пралетарыяту вось як характарызаваў нашыя культурныя дасягненьні ў сваёй прамове ў Сойме, вытрымкі з якой зьмешчаны ў Віленскай беларускай газэце—органе беларускай хрысьціянскай дэмакратыі:—«Беларуская Крыніца» (нумар ад 21/X-1926 г.):

«Хоць я за шмат чаго не хвалю Савецкай палітыкі, адношуся да яе крытычна, аднак я павінен прызнаць з некаторай прасьцярожнасьцю, што на культурнай народнай беларускай ніве там дасягнулі вялікіх посьпехаў. Гавару гэта, каб Вас тут ацьвярозіць. Факт застаецца фактам, што там жыцьцё беларускага народу скранута з месца, што беларускія школы ў Савецкай Беларусі на-

лічваюцца тысячамі. Я магу Вам паказаць цэлыя горбы савецкіх беларускіх выданьняў.

Вы можаце самі, нарэшце, зьезьдзіць туды і палядзець, альбо запытацца ў тых якія езьдзілі. Наогул я дзіўлюся таму, што Вы ня хочаце чорнае назваць чорным, а белае—белым».

У беларускай Віленскай газэце «Наша Справа»—органе радыкальна беларускай партыі «Беларуск. Сял.-Раб. Грамада» (№ 8 за 24 сьнежня 1926 г. [1]) ва ўступным артыкуле пад загалоўкам «На разьвітаньне», побач з характарыстыкай прыгону і ўціску рабочых і сялян ў Заходняй Беларусі польскім урадам, аб Савецкай Беларусі гаворыцца вось што:

«А далей на ўсход—за гранічным кардонам, там дзе існуе ўжо ўлада рабочых і сялян,—беларуская культурная творчая праца ажно кіпіць! Звыш 4.000 пачатковых беларускіх школаў, некалькі дзесяткаў сярэдніх (тэхнікумаў) дапоўніліся сёлета ўжо чацьвёртай беларускай вышэйшай школай—Сельска-Гаспадарчай Акадэміяй ў Горы-Горках.

Адчыніўся сьледам за Менскам—другі Дзяржаўны Беларускі тэатр ў Віцебску. Вышлі сотні новых беларускіх кніжак. Інстытут Беларускай Культуры робіць паважныя крокі ў кірунку ператварэньня ў Беларускую Акадэмію навук. А навуковы зьезд, які аб'яднаў ў Менску прадстаўнікоў усіх беларускіх кірункаў з усіх краін, дзе жывуць беларусы (апрача Заходняй Беларусі—з прычыны перашкоды з боку польскага ўраду),—паказаў якія вялікія крокі ў будаваньні роднае культуры зроблены беларускім народам».

З паданых вытрымак з закардоннай беларускай і нават польскай прэсы мы бачым, што нашае культурнае будаўніцтва, а ў асаблівасьці беларусізацыя, знайшлі ў Заходняй Беларусі вельмі моцны водгук.

Ня толькі варожыя нам беларускія палітычныя групоўкі полёнафільскага або шовіністычнага напрамку, але нават польская буржуазная грамадзкасьць змушана прызнаць, наперакор, бязумоўна, свайму жаданьню, нашыя посьпехі,—бо факты гавораць аб сябе і ніякая крытыка ня здолее іх зьнішчыць. Праўда, станоўчая ацэнка нашых дасягненьняў у культурным будаўніцве гэтымі буржуазнымі польскімі, а таксама «жоўтымі» беларускімі групоўкамі, якія адбіваюць думку вельмі незначнай часткі беларускай інтэлігенцыі, робіцца заўсёды з шматлікімі агаворкамі.

Гэтыя агаворкі зьяўляюцца шэрагам штучных, падтасаваных, т. з. пабочных акалічнасьцяй, якія быццам павінны

[1]) Гэты нумар газэты „Наша Справа" па загаду адміністрацыйнай ўлады быў сканфіскаваны.

зганьбіць дасягнутыя намі станоўчыя вынікі ў нашай культурнай працы.

Радыкальная частка беларускага насельніцтва Заходняй Беларусі, г. з. рабочыя і сялянскія масы ацэніваюць нашыя дасягненьні на культурным фронце без ўсялякіх хітрыкаў, а так як ёсьць ў рэчавістасьці, уносячы ў гэтую ацэнку толькі горкасьць сьвядомасьці, што ня ўсе беларусы маюць гэтыя дасягненьні і могуць імі карыстацца.

---

*Дадатак II.*

**Галоўнейшыя рашэньні партыі і пастановы Савецкай Ўлады па нацыянальным пытаньні.**

зганьбіць дасягнутыя намі станоўчыя вынікі ў нашай культурнай працы.

Р[illegible] частка беларускага насельніцтва Заходняй Беларусі, г. з. рабочыя і сялянскія масы ацэньваюць нашыя дасягненьні на культурным фронце без усякіх [illegible], а так як ёсьць у рэчаіснасьці, уносячы ў гэтую ацэнку толькі горкасьць сьвядомасьці, што не ўсе беларусы маюць гэтыя дасягненьні і могуць імі карыстацца.

---

## Рашэньні партыі.

*Рэзалюцыя XII Усебеларускай Парткан фэрэнцыі.*

*(Сакавік 1923 г.).*

Праграма партыі па нацыянальным пытаньні і адпаведная ёй палітыка Савецкай улады апіраюцца (выцякаюць) на марксыцкае разуменьне пытаньня, якое разьвязвае яго толькі ў зьвязку з гістарычнымі ўмовамі, узятымі ў іх разьвіцьці.

Асаблівасьць бягучага гістарычнага моманту складаецца з таго, што, побач з вельмі дужымі капіталістычнымі дзяржавамі, паўсталі, існуюць і разьвіваюцца савецкія дзяржавы.

Буржуазія пануючых нацый выкарыстоўвае свае пануючае становішча дзеля прыдушэньня і ўціску нацыянальна-вызваленчага руху прыгнечаных нацый.

З другога боку, буржуазія прыгнечаных нацыянальнасьцяй, прыкрываючыся лёзунгамі еднасьці нацый для барацьбы за вызваленьне, імкнецца сьцерці розьніцу ў інтарэсах, якая існуе ў розных кляс гэтай нацыі. Пад лёзунгам нацыянальнай еднасьці і нацыянальнай барацьбы, буржуазія хавае свае чыста клясавыя інтарэсы.

Задача комуністычных партый ва ўсіх краёх—высоўваць такое разьвязаньне нацыянальнага пытаньня, якое-б поўнасьцю ліквідавала такую «нацыянальную еднасьць», узмацняла-б клясавую дыфэрэнцыяцыю ў сярэдзіне нацыі, вызваляла-б рабочую клясу з-пад уплыву нацыяналістычнай буйнай і дробнай буржуазіі.

Савецкая дзяржава, ставячы мэтай свайго будаўніцтва выключна інтарэсы працоўных, заклікае да жыцьця і актыўнай творчасьці самыя шырокія гушчы працоўных, незалежна ад нацыянальнасьцяй, даючы з гэтай мэтай самую шырокую свабоду разьвіцьця нацыянальных асаблівасьцяй ўсіх народаў, што насяляюць яе тэрыторыю.

Трэба яшчэ раз падкрэсьліць бязумоўнае прынцыповае прызнаньне права нацый на самавызначэньне аж да аддзяленьня. У той-жа самы час патрэбна з магчыма большай дакладнасьцю ўстанавіць таксама і тое, што толькі агульныя задачы Партыі і Савецкай улады могуць вызначыць сабою асновы ўзаемных адносін паміж нацыянальнымі савецкімі дзяржавамі і адносіны іх да буржуазнага сьвету.

Супроць адзінага фронту буржуазіі трэба выставіць адзіны фронт Савецкіх рэспублік.

Грунтуючыся на гэтым і маючы на ўвазе патрэбнасьць папярэджаньня якіх-колечы непаразуменьняў на грунце азначэньня правоў і паўнамоцтва нацыянальных савецкіх дзяржаваў, патрэбна імкнуцца да ўтварэньня такой сыстэмы адносін паміж савецкімі дзяржавамі, пры якой ўсе савецкія дзяржавы павінны мець адзінае кіраўніцтва ў пытаньнях замежнай і ўнутраной політыкі; у той-жа час кожная нацыянальная савецкая дзяржава павінна быць прыцягнута да актыўнага ўдзелу ў адзіным кіраўніцтве. Саюз Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік з правам свабоднага ўваходу і выхаду кожнага члена з данага Саюзу, ў цяперашніх умовах ёсьць адзіная форма, здавальняючая азначаныя патрэбы.

Пры такой сыстэме адносін паміж Савецкімі Рэспублікамі, існаваньне мясцовых савецкіх дзяржаўных утварэньняў і іх органаў апраўдваецца, галоўным чынам, пастолькі, паколькі яны, прымаючы пад увагу ўсе асаблівасьці данае тэрыторыі і насяленьня, што яе засяляе, прымаючы пад увагу эканоміку, быт, культуру свайго раёну, ужываюць усе сродкі да як найхутчэйшага яго адраджэньня.

Хутка адрадзіць Савецкую Беларусь можна толькі: ўлучыйшы ў тэрыторыю Беларусі родныя ёй суседнія раёны, больш дэцэнтралізаваўшы кіраўніцтва галінамі прамысловасьці мясцовага значэньня; прыцягнуўшы шырокія слаі працоўных да актыўнага савецкага будаўніцтва; узмацніўшы культурна-асьветную працу на родных (беларускай, яўрэйскай і польскай) мовах; прыдушаная царызмам беларуская культура павінна адрадзіцца.

Трэба прагледзець існуючыя цяпер адміністрацыйна-гаспадарчыя дзяленьні і перагрупаваць іх у большай адпаведнасьці з іх натуральна-гістарычнымі, вытворчымі і нацыянальна-культурнымі асаблівасьцямі. Паасобна, ў адносінах Беларусі, трэба вырашыць пытаньне аб канчатковым вызначэньні яе тэрыторыі, праз далучэньне да складу Беларусі аднародных з ёй суседніх раёнаў.

Пакідаючы камандныя высоты нашай прамысловасьці, кіраўніцтва фінансамі і замежным гандлем у руках адзінага цэнтральнага органу, павінна паставіць і вырашыць у дадатным сэнсе пытаньне аб большай дэцэнтралізацыі кіраўніцтва тымі галінамі гаспадаркі, якія маюць мясцовае значэньне.

Прыняць усе крокі для ўцягненьня шырокіх слаёў працоўных у актыўную працу савецкага будаўніцтва. Блізкае сялянству па сваёй існасьці савецкае заканадаўства і кіраваньне не заўсёды ўспрыймаецца з выстарчальнай яснасьцю, бо падаецца на незразумелай мове. Карыстаньне мясцовымі мовамі павінна мець шырокае распаўсюджаньне і падтрымлівацца і партыйнымі і савецкімі органамі.

Асаблівую ўвагу партыя павінна аддаць пытаньню аб разьвіцьці школы, друку, тэатру, клюбаў і наогул культурна-асьветных установаў на роднай мове (беларускай, яўрэйскай, расійскай, польскай).

Многавечны нацыянальны ўціск і русыфікатарская палітыка царскага ўраду не далі магчымасьці нармальна разьвівацца беларускай культуры. Камуністычная партыя, ў поўнай згодзе з сваёй праграмай у галіне нацыянальнага пытаньня, павінна прыняць усе крокі для наладжаньня працы на беларускай мове, ствараючы нормальныя ўмовы для разьвіцьця беларускай культуры.

Аднак, разьвіцьцё азначанай працы сустракае перашкоды на сваім шляху ў зьвязку з тымі ўмовамі, ў якіх памянёная праца праходзіць. З аднаго боку, заўважаецца ў нашых культурна-асьветных установах засільле некамуністычных, дробна-буржуазных нацыяналістычных элемэнтаў, выкарыстоўваюць правы свабоднага разьвіцьця нацыянальнай культуры з мэтай сьвядомага ўхілу гэтай працы ў бок разьвіцьця вузкага нацыяналізму, зьдзяйсьненьня нацыянальных ідэалаў адраджэньня буржуазна-дэмакратычнай дзяржаўнасьці.

З другога боку, выяўляецца няпоўнае зразуменьне значэньня гэтай працы паасобнымі партыйнымі таварышамі, якія зьмяншаюць значэньне нацыянальных асаблівасьцяй насельніцтва Беларусі і ня хочуць з імі лічыцца і вымагаюць спыненьня якой-бы ні было працы на нацыянальных мовах.

Партыя павінна зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на гэтыя два ўхілы. Паставіўшы рашуча пытаньне аб неабходнасьці паступовага, але няўхільнага разьвіцьця працы на мясцовых мовах; партыя павінна ўзяць на сябе актыўнае кіраўніцтва гэтай працай.

Надаючы асаблівае значэньне правільнаму разьвіцьцю культурнай працы ў беларускай мове і недапушчэньню нездаровых ухілаў, конфэрэнцыя падкрэсьлівае, што кіраўніцтва гэтай працай павінна быць ускладзена на партыйныя арганізацыі ў цэлым, як у цэнтры, таксама і на мясцох.

Канфэрэнцыя лічыць, што працэс пашырэньня ўплыву беларускай культуры павінен быць узгоднен з наяўнасьцю выстарчаюча-падгатаваных, клясава-выхаваных і рэвалюцыйна-вытрыманых працаўнікоў.

Для гэтага патрэбна:

Падрыхтоўка камуністых праз савпартшколы, пэдтэхнікумы і інш. для паступовай замены імі цяперашніх працаўнікоў па ўсёй лініі культурна-асьветнай беларускай працы.

Адхіленьне ад працы ўсіх нацыяналістычна-настроеных працаўнікоў з прыцягненьнем замест іх камуністых і камуністычна-настроеных працаўнікоў.

Узмацненьне выданьняў марксыцкай літаратуры на беларускай мове.

Ажыцьцяўленьне вышэйпаказаных мерапрыемстваў магчыма толькі пры яшчэ большай згуртаванасьці нашай партыі, пры захаваньні ранейшага парадку цэнтралізаванага кіраўніцтва партыйным жыцьцём і працай.

## Чарговыя задачы КП(б)Б у нацыянальнай палітыцы.

*(Рэзалюцыі Пленуму ЦК КП(б)Б. Студзень 1925 г.).*

### Значэньне нацыянальнай палітыкі КП(б)Б у бягучы пэрыод.

КПБ павінна перад сабою на ўвесь рост паставіць чарговыя задачы па нацыянальнай палітыцы, каб як магчыма глыбей і больш усеабыймна захапіць пытаньне, праверыць дасягненьні, выпрацаваць практычны плян па ўсіх лініях працы.

Дыктуецца гэта перш за ўсё тым, што, пры ўсеагульнай ўвазе партыі да вёскі, патрэбна дамагчыся магчыма большых дасягненьняў па нацыянальнай палітыцы, якая захоплівае перш за ўсё інтарэсы селяніна.

### Існасьць нацыянальнага пытаньня ў БССР.

«Існасьць нацыянальнага пытаньня ў РСФСР (гаварылася перад утварэньнем СССР) заключаецца ў тым, каб зьнішчыць тую адсталасьць (гаспадарчую, палітычную і культурную) нацыянальнасьцяй, якую яны атрымалі ў спадчыну ад мінулага, каб даць адсталым народам магчымасьць дагнаць Цэнтральную Расію ў дзяржаўных, культурных і гаспадарчых адносінах»,—так казаў т. Сталін на Х-м зьезьдзе РКП.

П е р ш а е,—што вызначае існасьць нацыянальнага пытаньня ў БССР—гэта гаспадарчая адсталасьць і дэзарганізацыя, якія створаны ўсёй дарэвалюцыйнай гісторыяй краю і пэрыодам, калі цераз край некалькі разоў пераходзіў фронт імпэрыялістычнай і грамадзянскай войн і якія ў значнай меры ўзмоцнены прыроднымі ўмовамі БССР (балоты, бедная глеба пры малазямельлі).

Д р у г о е,—культурная адсталасьць, якая, з аднаго боку,—спадарожнічае нізкаму ўзроўню дабрабыту і быту насельніцтва, з другога—абумоўлена ўсёй палітыкай царскага ўраду задушэньня беларускай культуры, уціску мовы, літаратуры; тое самае адносіцца і да польскага і яўрэйскага насельніцтва краю.

Т р э ц я е,—нацыянальныя супярэчнасьці ў БССР, якія складаюцца з таго, што нацыянальныя і сацыяльныя адзнакі ў моц гістарычных умоваў цесна перапляліся, адлажыўшы таўсты слой нацыяналістычных забабонаў, адасобленасьці і варожасьці і, што асабліва важна,—аддзяліўшы горад ад вёскі куды больш рэзка, чым у другіх раёнах Саюзу.

Пры ажыцьцяўленьні нацыянальнай палітыкі па ўсіх трох лініях, КПБ няўхільна спаткаецца з шэрагам труднасьцяй і небясьпек скажэньня ленінскай лініі ў нацыянальнай палітыцы. Асноўная небясьпека—гэта нязначны слой пралетарыяту ў БССР, цераз прадстаўнікоў якога нацыянальная палітыка праводзілася-б найбольш вытрымана, найбольш станоўча, перамагаючы дробна-буржуазныя ўплывы. Гэтую труднасьць патрэбна ўлічыць пры вызначэньні задач па праведзеньню нацыянальнай палітыкі, як унутры партыі, так і па-за партыяй.

## Праца над гаспадарчым адраджэньнем краю.

КПБ паставіла перад сабою задачу гаспадарчага адраджэньня Беларусі на асновах будаўніцтва сацыялізму.

Пры гэтым КПБ павінна ўлічыць шэраг асаблівасьцяй прыродных і гістарычных:

а) Балоцістая глеба вымагае вялізнай працы па мэліарацыі;

б) Вялізны абшар балот і лясоў, нізкая якасьць глебы ў значнай меры абумовілі гострае малазямельле; франтавая барацьба на тэрыторыі Беларусі надзвычайна затрымала працу па зямляўпарадкаваньню, што яшчэ ў большай меры загастрае патрэбу вялікага слою незабясьпечаных зямлёй гаспадарак, затрымлівае ўздым сялянскай гаспадаркі;

в) Працэс уздыму сялянскай гаспадаркі, ў зьвязку з гострым малазямельлем, можа быць вырашаны толькі ў бок інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі, што вымагае вялікага крэдытаваньня, якое ня можа ажыцьцявіць сама БССР.

г) Лясная і дрэваапрацоўчая прамысловасьць,—аснова буйнай прамысловасьці БССР і большая частка народнагаспадарчага балянсу БССР,—ня можа паўстаць на ногі, калі не пакласьці на яе значных сродкаў.

д) Фронт прынёс у шмат якія раёны Беларусі захворваньні вэнэрычнымі хваробамі; нізкі жыцьцёвы ўзровень, асабліва местачковага насельніцтва, абумовіў нязвычайна высокі процант захворваньняў на сухоты.

е) Фронт, наяўнасьць многіх часьцей арміі, прывялі некаторыя гарады да становішча разбураньня або паўразбураньня.

ЦК павінен:

1. Працягваць вызначаную працу па адраджэньню гаспадаркі Беларусі.

2. Старанна прапрацаваць пытаньне аб неабходнасьці дапамогі СССР у справе гаспадарчага і культурнага адраджэньня БССР звыш існуючых нормаў, паколькі гэта абумоўлена самымі цяжкімі ўмовамі жыцьця і барацьбы Беларусі ў дарэвалюцыйны час і ў гады грамадзянскай вайны.

3. Гэтае пытаньне, пасьля правядзеньня яго ў савецкім парадку ў БССР, павінна быць пастаўлена ў Маскве, магчыма цераз ЦК РКП.

### Культурное адраджэньне Беларусі.

Сярод насельніцтва пашыранай Беларусі налічваецца 70 проц. беларусаў. Калі-ж лічыць без гарадоў, то 80 проц. насельніцтва—беларускае у пераважнай частцы (чатыры-пятых)—сялянства, і ў значнай частцы (больш 45 проц.) члены прафсаюзаў.

Рост Беларускай нацыянальнай культуры (мова, літаратура, школа, ўдзел беларусаў у палітычным культурным і гаспадарчым жыцьці) асабліва адстаў, калі параўнаць з яўрэйскай, расійскай і польскай нацыянальнасьцямі. Немагчыма вырашыць у БССР задачу змычкі з сялянствам і ўплыву гораду на вёсцы, калі не аддаць выключнай ўвагі працы па разьвіцьці беларускай культуры.

Такім чынам, лёзунг, які КПБ павінна прыняць у культурнай працы,—гэта лёзунг «беларусізацыі». Пры роўнапраўстве ўсіх нацыянальнасьцяй, пры абавязковым, з боку ўраду і партыі, забясьпячэньні разьвіцьця культуры кожнай з іх, пры прызнаньні дзяржаўнымі мовамі 4-х моваў,—пры ўсім гэтым, аднак, справа разьвіцьця мовы, літаратуры, школы, усёй культуры на беларускай мове прызнаецца першай і асноўнай справай.

II.

Асноўным пытаньнем беларусізацыі зьяўляецца пытаньне аб беларускай мове. Патрэбна ўлічыць:

а) Астачы ў сялянстве ранейшых адносін да беларускай мовы, як халопскай, якая не дае ніякіх правоў, што знаходзіць свой адбітак, у прыватнасьці, і ў шэрагах КПБ, у форме гутарак аб варожых адносінах сялянства да беларусізацыі і гэтак далей.

б) Стракатасьць мовы.

в) Незакончанасьць літаратурнай мовы і папулярна літаратурнай, паколькі навуковая праца над мовай распачата пасьля рэволюцыі.

Патрэбна прызнаць, што праца над літаратурнай беларускай мовай у асноўным праведзена, але, з аднаго боку надзвычайна адстала праца па паліт-навуковай, юрыдычнай і марксыцкай тэрміналёгіі; з другога боку,—што асабліва недапусьціма,—бадай нічога не эроблена для выпрацоўкі, на аснове вывучэньня народнай мовы, аднастайнай і папулярнай беларускай мовы. Пры гэтым нельга супроцьстаўляць літаратурную беларускую мову папулярнай мове, якая па меры культурнага росту вёскі будзе ўзбагачацца, ачышчацца, набліжацца да літаратурнай беларускай мовы.

Такім чынам:

1. ЦК павінен цераз Наркамасьветы і Інбелькульт тэрмінова арганізаваць працу па выпрацоўцы папулярнай беларускай мовы найбольш блізкай да вёскі.

2. Зьвярнуць выключную ўвагу на выданьне літаратуры, газэт—на папулярнай беларускай мове.

3. Арганізаваць выпрацоўку палітычнай, мастацкай, навуковай і юрыдычнай тэрмінолёгіі.

4. Адпаведная-ж праца павінна быць зроблена і адносна яўрэйскай мовы (у польскай мове гэтую задачу трэба лічыць вырашанай.

III.

У выдавецкай працы трэба прызнаць гострыя недахват беларускай кніжкі і кніжкі на другіх нацыянальных мовах. Гэта абумоўлена ў вялізнай меры:

а) крайняй адсталасьцю друкарскай тэхнікі БССР;

б) немагчымасьцю пакрыць недахват кніг з па-за БССР, асабліва на беларускай мове.

ЦК павінен:

1. У выдавецкай працы найбольшы процант аддаць выданьням на беларускай мове (адпаведна з патрэбамі вёскі і школы), забясьпечыўшы процант выданьняў на другіх мовах, прынамсі, адпаведна колькасьці насельніцтва.

2. Паставіць па савецкай лініі ў Маскве і па партлініі перад ЦК РКП пытаньне аб неадкладнай дапамозе Беларусі сродкамі Саюзу ў пастаноўцы друкарскай тэхнікі—для пашырэньня выданьняў на дзяржаўных мовах БССР, у першую чаргу на беларускай.

IV.

Ня гледзячы на шэраг дасягненьняў па Наркамасьветы, галоўным чынам, па лініі школаў сацвыху, беларусізацыя ВНУ, рабфакаў, тэхнікумаў, школаў фабзавуча, савпартшколаў,—праходзіць надзвычайна слаба: а) з боку настаўніцкага пэрсаналу і, што асабліва дрэнна;—б) нацскладу вучняў; в) з боку пераводу гэтых установаў на беларускую мову і г) пастаноўкі беларусазнаўства,

Правільнае вырашэньне нацыянальнай палітыкі ў гэтай частцы па існасьці значыць: задавальненьне цягі селяніна да вучобы, узмацненьне выпрацоўкі рабоча-сялянскай інтэлігэнцыі і працаўнікоў, якія могуць блізка падыйсьці да вёскі і заступіць на вёсцы, і асабліва ў горадзе, тую частку старой інтэлігэнцыі, якая ў недахватнай меры прыстасавана да новага зьместу грамадзкай і культурнай працы.

Апрача таго, да гэтага часу нязначны дасягненьні КПБ ў справе беларусізацыі пазашкольных установаў і культурна-асьветнай працы (клюбы, хаты-чытальні і г. д.).

ЦК павінен:

1. Працягваць умацаваньне працы ўсіх школ сацвыху на асновах матычнай мовы, замацаваўшы разьмяркаваньне сілы і сродкаў, прыкладна, адпаведна колькасьці насельніцтва.

2. Ва ўсіх ВНУ, рабфаках і савпартшколах працягваць беларусізацыю, улічаючы праробленую раней працу ў гэтым напрамку (наяўнасьць падручнікаў і падрыхтаваных настаўнікаў).

3. Забясьпечыць у бліжэйшы набор у гэтыя навучальныя ўстановы найбольшы процант беларусаў рабочых і сялян.

4. Падрыхтаваць летнія курсы культурных працаўнікоў, забясьпечыць культурных працаўнікоў падручнікамі па беларускай мове і беларусазнаўству, забясьпечыць клюбы, хаты-чытальні, сельска-гаспадарчыя гурткі і г. д. літаратурай на беларускай мове.

Патрэбна ўзмацніць уплыў партыі ў культурным будаўніцтве.

ЦК павінен:

1. Шырока ўцягнуць у будаўніцтва беларускай культуры камуністых, што вывучылі беларускую мову і асаблівасьці краю,—не беларусаў па нацыянальнасьці.

2. У літаратуры падтрымліваць, у першую чаргу, прадстаўнікоў найбольш блізкай да Савецкай улады і Кампартыі—плыні.

3. З прычыны недахвату камуністых-беларусаў, у працу Інбелкульту ўцягнуць камуністых іншых нацыянальнасьцяй (гл. вышэй п. 1), уцягваючы ў працу Інбелкульту ў такіх пытаньнях, як распрацоўка папулярна-літаратурнай беларускай мовы, лепшых прадстаўнікоў нізавой інтэлігэнцыі з рабочых і сялян.

**Лінія КП(б)Б у працы сярод яўрэяў, палякоў і латышоў.**

Пры вызначэньні задач нацыянальнай палітыкі сярод нацыянальных меншасьцяй, КП(б)Б павінна ўлічыць усе асаблівасьці гаспадарчага і палітычнага становішча гэтых груп.

Задачы працы КП(б)Б сярод насельніцтва гэтых нацыянальнасьцяй павінны быць вызначаны ў тым напрамку, каб стварыць самае цеснае зьбліжэньне працоўных гэтых нацыянальнасьцяй з беларускім сялянствам, зблізіць горад і вёску Беларусі, сьцерці ўсю нацыянальную варожасьць, уцягнуць ўсе нацыянальнасьці ў працу над экономічным і культурным адраджэньнем БССР.

Самымі важнымі задачамі КП(б)Б адносна яўрэйскага насельніцтва зьяўляюцца:

1. Разьвіцьцё працы на яўрэйскай мове ў яўрэйскіх школах, сярод рабочых і саматужнікаў.

2. Правядзеньне працы па вывучэньні беларускай мовы ва ўсіх яўрэйскіх школах і, у парадку ліквідацыі беларускай няпісьменнасьці, сярод рабочых і інтэлігэнцыі.

3. Уцягненьне яўрэяў у мястэчках у клюбы, хаты-чытальні, народныя хаты і інш.

4. Уцягненьне ў аб'яднаньні саматужнікаў—яўрэяў і дапамога гэтым аб'яднаньням.

5. Правядзеньне земляўпарадкаваньня працоўнага яўрэйскага насельніцтва і надзяленьне яго зямлёю, пры гэтым весьці працу па надзяленьню яўрэйскага насельніцтва зямлёю такім чынам, каб не парушыць нармальных умоваў—сужыцьця яго з караным беларускім сялянскім насельніцтвам.

У працы сярод польскага насельніцтва задачамі КП(б)Б зьяўляюцца:

1. Расслаеньне шляхэцкага і польскага кулацтва сялянства, правядзеньне абрэзкі зямельных лішкаў ў яго, роўналежна з правядзеньнем падобнай працы па ўсёй вёсцы, зблiжэньне найбольш-савецкай і серадняцкай часткі шляхэцтва з польскім і белрускім сялянствам.

2. Тыя школы, якія абслугоўваюць беларусаў-каталікоў, паступова перавесьці на беларускую мову, уводзячы польскую мову, як абавязковы прадмет выкладаньня.

3. Выкладаньне беларускай мовы ва ўсіх польскіх школах, правядзеньне беларусізацыі сярод польскіх рабочых і сялян, галоўным чынам, у сэнсе ліквідацыі беларускай няпісьменнасьці.

4. Няўпынная растлумачвальная праца сярод беларускага сялянства супроць астач агульна-недаверлівых адносін да польскіх сялян, як да ворагаў працоўных і Савецкай улады, што абумоўлена наяўнасьцю ў мінулым на Беларусі моцна разьвітага абшарніцкага польскага земляўласьніцтва і агульнай падазрэнасьці ў імкненьні польскага насельніцтва да буржуазнай Польшчы.

Сярод латышскага насельніцтва важна паставіць выкладаньне беларускай мовы і правядзеньне беларусізацыі, перш за ўсё сярод латышскіх рабочых, у мэтах зблiжэньня з беларускай вёскай.

Агульныя заўвагі:

Праца сярод нацыянальных меншасьцяй БССР павінна праводзіцца ўсёй КП(б)Б у цэлым, бо правядзеньне працы толькі паасобнымі нацбюро затрымлівае сьціраньне рамак нацыянальнай адасобленасьці.

Аднак, ва ўсёй працы трэба заўсёды памятаць словы Сталіна на XII-м зьезьдзе: «Расійскія камуністыя ня могуць змагацца з татарскім, грузінскім, башкірскім і інш. шовінізмам, бо калі расійскі камуністы возьме на сябе цяжкую задачу барацьбы з татарскім і грузінскім шовінізмам, то гэ-

тая барацьба і будзе ацэнена, як барацьба вялікарасійскага шовінізму супроць татар ці грузін. Толькі татарскія, грузінскія і г. д. камуністыя могуць змагацца супроць татарскага, грузінскага шовінізму. У гэтым абавязак не-расійскіх камуністых».

Такім чынам, патрэбна працу па беларусізацыі сярод яўрэяў, палякоў і латышоў пераважна праводзіць цераз прадстаўнікоў даных нацыянальнасьцяй, вывучыўшых беларускую мову, якія ведаюць асаблівасьці краю. Асабліва важна ўсю працу і мерапрыемствы ў галіне барацьбы з нацыяналістычнымі і рэлігійнымі забабонамі праводзіць ад імя партыі рукамі прадстаўнікоў данай нацыянальнасьці або, у крайнім выпадку тых,—якія гавораць на мове данай нацыянальнасьці.

**Правядзеньне нацыянальнай палітыкі ў савецкіх прафэсыянальных і іншых апаратах і ў Чырвонай Арміі.**

У працы па беларусізацыі савецкага, прафэсыянальнага, каапэрацыйнага апаратаў, чыгунак, пошты, тэлеграфу і Чырвонай Арміі—няма выстарчаючай плянамернасьці. Апрача таго, да гэтага часу не зломаны рэзка адмоўныя вялікадзяржаўна-шовіністычныя адносіны да беларускай мовы і працы па беларусізацыі з боку старога расійскага чыноўніцтва, якое знаходзіцца на працы ў савецкім апараце. Зроблена вельмі нямнога для таго, каб абслужыць гэтымі апаратамі нацыянальныя меншасьці.

Патрэбна:

1. На аснове пастановаў пленума ЦК КП(б)Б (1924 г.) па нацпалітыцы выпрацаваць па кожным з ведамстваў і ўстановаў, а таксама ў прафэсыянальных і каапэрацыйных арганізацыях плян беларусізацыі апаратаў у тэрміны устаноўленыя пленумам.

2. Камісію па нацыянальнай палітыцы пры ЦВК БССР прызнаць органам, які заўсёды дзейнічае, рэгулярна працуе, з сталым працаўніком—адказным сакратаром камісіі. У задачы гэтай Камісіі ўключыць, галоўным чынам, праверку правядзеньня ў жыцьцё пляну па ажыцьцяўленьні нацпалітыкі ва ўсіх апаратах.

3. Па лініі Чырвонай арміі правесьці беларусізацыю на працягу 1925-26 г. г., зусім закончыўшы яе па тэрытарыяльным беларускім корпусу.

У плян працы ў Чырвонай арміі ўключыць таксама абслугоўваньне ў беларускіх часьцях чырвонаармейцаў іншых нацыянальнасьцяй і абслугоўваньне беларусаў, якія знаходзяцца ў небеларускіх часьцях у межах БССР і па-за ёю.

Патрэбна ўвесьці таксама беларускую мову і беларусазнаўства для пастаяннага складу часьцей Чырвонай арміі, якія знаходзяцца на тэрыторыі БССР, адначасна арганізаваць здавальненьне іх беларускай літаратурай, падручнікамі і г. д.

### Моманты нацпалітыкі ўнутры партыі.

Пры вызначэньні ўнутрыпартыйнай лініі з пункту погляду нацпалітыкі патрэбна КП(б)Б ухіліцца двух небясьпек: першая асноўная памылка тых камуністых, якія «зьмяншаюць значэньне нацыянальных асаблівасьцяй у партыйнай і савецкай працы, або зусім ня лічацца з імі, ня ўлічваюць у сваёй працы асаблівасьцяй клясавай пабудовы, культуры, быту, гістарычнага мінулага данай народнасьці».

Другая небясьпека—памылка тых таварышоў, якія «пераялічваюць значэньне нацыянальных асаблівасьцяй ў партыйнай і савецкай працы, пакідаючы ў ценю клясавыя інтарэсы працоўных, або проста зьменшваюць інтарэсы працоўных данай нацыі з так званымі агульна-нацыянальнымі інтарэсамі тае самае нацыі, ня ўмеючы вылучаць першыя з апошніх і будаваць на іх партыйную працу».

Першая небясьпека знаходзіць свой адбітак, галоўным чынам, у тым, што, прымаючы нацыянальную палітыку на словах, асобныя члены партыі зрываюць правядзеньне нацыянальнай палітыкі пасыўным сапраціўленьнем ёй.

Другая небясьпека складаецца з таго, што нацыяналізм беларускі, яўрэйскі, які нарастае, і настроі адасобленасьці палякаў, могуць з шэрагаў нацыяналістычнай інтэлігэнцыі па-за партыяй прабівацца ў партыю ў форме супроцьстаўленьня інтарэсаў аднэй нацыянальнасьці—другой.

Гэтыя небясьпекі будуць тым больш ухілены, чым у большай меры вытрымана бальшавіцкай будзе лінія КП(б)Б і яе асобных арганізацый. КП(б)Б у аснову свае ўнутрыпартыйнае лініі, улічваючы ўмовы сялянскага краю, павінна прыняць палажэньні, фармуляваныя ў вадным з апошніх артыкулаў тав. Зіноўева:

...«Правільна зразумелыя інтарэсы клясы-гегэмона вымагаюць, зразумела, вядомых уступак сялянству, дастасаваньня ўсёй палітыкі да некаторых карэнных інтарэсаў сялянства.

Але... іменна... у цяперашніх абставінах... палітыка партыі павінна больш строга, чым калі-б то ні было, арыентавацца, перш за ўсё, на рабочую групу партыі. І іменна таму-ж кіруючы штаб партыі павінен быць асабліва вытрыманым, асабліва цьвёрдым, асабліва ленінскім...».

Зразумела, «арыентацыю на рабочую групу» трэба разумець і як арыентацыю на павялічэньне рабочага ядра ва

ўсёй КП(б)Б і яе кіруючых цэнтрах і вылучэньне рабочых, і як заўсёднае няўхільнае нагляданьне за тым, каб лінія—і сялянскіх па складу арганізацый КП(б)Б, і ўсяе яе—цалком была пралетарскі вытрыманай, бальшавіцкай, каб КП(б)Б усё далей ішла па шляху бальшавізацыі.

Якраз таксама, словы аб «кіруючым штабе партыі» КП(б)Б павінна ўжываць у адносінах да кіруючага ядра кожнай ячэйкі, акруткома, ЦК.

Бальшавізацыя КП(б)Б павінна адбывацца, як двухстаронні процэс: а) па лініі марксыцка-ленінскага выхаваньня недахватна вытрыманых яе элемэнтаў, бальшавіцкага іх загартаваньня, асабліва элемэнтаў, што вылучаюцца з шэрагаў сялян і сялянскай інтэлігэнцыі; б) па лініі ўсваеньня ўсімі членамі КП(б)Б асноваў нацыянальнай палітыкі ў Беларусі, актыўнай працы ў гэтай галіне кожнага члена КП(б)Б, барацьбы кожнага члена КП(б)Б з ўсякімі спробамі пасыўнага сапраціўленьня нацыянальнай палітыцы.

Пры правядзеньні нацпалітыкі ў сярэдзіне КП(б)Б спрыяючай зьяўляецца акалічнасьць, што, пры ўсіх асаблівасьцях гістарычных і эканамічных умоваў Беларусі, яны не прадстаўляюць такога рэзкага разыходжаньня з умовамі цэнтральнай Расіі, як гэта мае месца ва ўсходніх частках СССР. Апрача таго, беларуская мова, параўнаўча, лёгкая для вывучэньня.

З усяго гэтага вынікаюць практычныя задачы:

1. Пры вылучэньні на адказную працу трымаць курс на вытрыманага камуністага, які ведае беларускую мову, ўсе мясцовыя ўмовы БССР, асабліва беларускую вёску.

2. Пры падборы кіруючых партыйных працаўнікоў браць за аснову, у першую чаргу, партыйную вытрыманасьць, дзелавыя якасьці, веды беларускай мовы і ўмоваў БССР (тое самае па лініі яўрэйскай і польскай нацыянальнасьці ў адпаведных раёнах).

3. Улічваючы надзвычайную адсталасьць у вылучэньні беларусаў, якія зьяўляюцца пераважна выхадцамі з сялян або сялянскай інтэлігэнцыі,—прызнаць патрэбным, ва ўмовах працы сялянскага краю, гэты працэс вылучэньня прысьпешыць, адначасна вядучы ўзмоцненую працу бальшавіцкага выхаваньня таварышоў, якія вылучаюцца.

4. Асаблівую ўвагу аддаць, з аднаго боку, ўцягненьню ў партыю беларусаў рабочых і ўцягненьню іх ў савпартшколы, з другога—вылучэньне іх на працу. У прыватнасьці прызнаць патрэбным вылучэньне ў большым процанце беларусаў і ў прафорганы, праца якіх зьяўляецца першай школай для вылучэнцаў.

5. Патрэбна арганізаваць шэраг гурткоў павышанага тыпу на беларускай мове па марксызму і ленінізму для тава-

рышоў пераважна з сялянскіх і інтэлігэнцкіх колаў, якія вядуць адказную працу. Тое самае трэба зрабіць на яўрэйскай і польскіх мовах.

6. Ставячы працу па вылучэньню беларускіх таварышоў, тым ня менш не супроцьстаўляць іх ніколі тым працаўніком, не—беларусам, якія вывучылі беларускую мову і мясцовыя ўмовы.

7. Узяць курс на тое, каб беларуская мова ў арганізацыях партыі, у сельсавеце, у РВК і АкрВК, цэнтральных органах увайшла ў абіход.

8. К канцу 1925 году пасяджэньні і пратаколы Бюро ЦК і акругкомаў КП(б)Б павінны весьціся на беларускай мове; патрэбна распачаць адпаведную працу зараз-жа.

Усебеларускі зьезд Саветаў у красавіку, па крайняй меры, на палавіну праводзіцца на беларускай мове. Пасяджэньні Саўнаркому, ЦВК адбываюцца на беларускай мове з 1-га траўня 1925 году.

9. ЦК КП(б)Б і акругкомы да 10-га лютага складаюць сьпісы камуністых, якія павінны вывучыць беларускую мову да канца 1925 году. У гэты сьпіс уключыць усіх працаўнікоў, якія па роду працы сутыкаюцца з сялянскім насельніцтвам усіх райпрацаўнікоў, усіх сельскіх працаўнікоў, усіх культурных працаўнікоў, прафпрацаўнікоў, лектараў і настаўнікаў ўсіх навучальных устаноў (у тым ліку партшкол), прычым апошнія павінны вывучыць мову да 1-ІХ-1925 г. АПА падрыхтоўвае не пазьней 15-га лютага камплекты патрэбных падручнікаў.

Адначасна АПА арганізуе лекцыі і даклады, гурткі па беларусазнаўству, забясьпечваючы імі ўсе арганізацыі КП(б)Б.

10. Усебеларуская канфэрэнцыя КПБ у восень 1925 году, прыкладна, на палавіну павінна быць праведзена на беларускай мове.

11. Прызнаць мэтазгодным зьмешаную мову для «Звезды» і «Вперед»; пытаньне аб канчатковым пераходзе іх на беларускую мову паставіць на разгляд ЦК у канцы 1925 г.

### Прапаганда пытаньняў нацпалітыкі.

Бюро ЦК на аснове прынятых пастановаў Пленуму ЦК КП(б)Б 25-1-25 г. павінна арганізаваць шырокую растлумачальную кампанію ў КПБ і па-за партыяй, на сходах і ў газэтах. Асабліва важна правесьці сыстэматычную растлумачальную працу сярод рабочых БССР.

### Праверка працы па нацпалітыцы.

Прасіць ЦКК КП(б)Б ўключыць у плян сваёй працы з лютага нагляданьне за правядзеньнем і праверку працы па

нацыянальнай палітыцы ў БССР па лініі савецкіх, партыйных, прафэсыянальных і іншых арганізацый.

### Выданьне гісторыі КП(б)Б і БССР.

Абавязаць Бюро ЦК КП(б)Б організаваць выданьне гісторыі партыі і Савецкай ўлады ў Беларусі.

## Аб нацпалітыцы.

*(Рэзолюцыя Пленуму ЦК КП(б)Б—Кастрычнік 1925 году)*

### I. Асноўныя вынікі.

1. Ліпеньскі пленум 1924 году і пленум у студзені 1925 г. накрэсьлілі шырокую праграму працы ў справе разьвязваньня нацыянальнага пытаньня ў Беларусі—праграму, якая ня вычарпана і да гэтага часу. Таму паказаныя пастановы як і раней застаюцца асновай для дзейнасьці партыйных арганізацый. Задача гэтага пленуму складаецца з таго, каб падвесьці важнейшыя вынікі працы за мінулы пэрыод і, на аснове гэтых вынікаў, паставіць шэраг чарговых задач у галіне нацпалітыкі.

2. Пралетарская пастаноўка нацыянальнага пытаньня адрозьніваецца ад вузкага, дробна-буржуазнага падыходу да яго, ў першую чаргу, тым, што замест фармальнага роўнапраўства нацый, на пярэдні плян ставіцца рэальная дапамога раней прыгнечаным нацыянальнасьцям у справе ўздыму іх культуры, і, перш за ўсё, іх эканамічнай базы. Таму самай першай меркай посьпехаў нацпалітыкі ў Беларусі, з пункту погляду камуністычнай партыі, зьяўляюцца гаспадарчыя дасягненьні рэспублікі і павышэньне ўзроўню жыцьця працоўных масаў.

3. Праца КП(б)Б у гаспадарчай галіне прывяла да некаторага ўздыму прамысловасьці, палепшаньня становішча сялянскай гаспадаркі, умацаваньня фінансавай сыстэмы, павышэньня ўзроўню жыцьця рабочых і сялян. Гаспадарчы ўздым стварае аснову для разьвіцьця і пашырэньня працы ў галіне нацыянальнай палітыкі.

4. Побач з карэннай задачай гаспадарчага адраджэньня краю, самае важнае значэньне мае праца па пераводу дзейнасьці дзяржаўных, партыйных, прафэсыянальных установаў на родную мову насельніцтва, па стварэньню школы на матчынай мове, па забясьпечаньні роўнапраўства моваў, па вылучэньні і выхаваньні працаўнікоў з колаў нацыянальнасьцяй, якія прыгняталіся царызмам.

5. За пэрыод які прайшоў пасьля пленуму ў студзені, часьць установаў і арганізацый—партыйных, савецкіх, прафэсыянальных і г. д. як у цэнтры, так і на мясцох перавялі

сваю працу на беларускую мову. Аднак, у цэлым, беларусізацыя ўстановаў зьяўляецца найбольш слабым месцам у сыстэме нацыянальнай працы, як у моц спазьненьня яе ў шмат якіх выпадках супроць вызначаных тэрмінаў, так і ў моц таго, што яна, часта носіць павярхоўны і фармальны характар. Апрача аб'ектыўных прчын, гэтае зьявішча тлумачыцца: сапраціўленьнем русіфікаванага дзяржаўнага апарату, які далёка яшчэ ня вызваліўся ад вялікадзяржаўных забабонаў, і недахватна рашучым, часта, ўплывам кіруючых працаўнікоў.

6. Побач з гэтым, у шэрагу галін працы, ў адносінах беларусізацыі, дасягнуты пэўныя посьпехі, важнейшымі з якіх зьяўляюцца: значны прагрэс у беларусізацыі пачатковай і сярэдняй школы, які даў магчымасьць распачаць у непашыранай Беларусі перавядзеньне на беларускую мову другога концэнтру навучаньня, а ў далучанай—другога і трэцяга году; пачатак беларусізацыі ВНУ'ў, што сказалася ў пераходзе ў гэтым годзе на беларускую мову першых курсаў рабфакаў і некаторых катэдр па асноўных факультэтах; поўная беларусізацыя пэдтэхнікумаў; узмацненьне беларусізацыі савпартшколаў; павялічэньне проценту беларусаў і, у прыватнасьці (што вельмі важна)—беларусаў рабочых пры прыёме ў ВНУ'ы; значнае папаўненьне кніжнае базы на беларускай мове; заметнае павялічэньне проценту беларусаў у складзе выбарных органаў па у с і х важнейшых лініях і па ўсіх зьвенах; пасьпяховая, наогул, праца па беларусізацыі N-й тэрытарыяльнай дывізіі і Аб'яднанай Беларускай Школы, комскладу і г. д. Разам з тым, важным заваяваньнем зьяўляецца прыкметнае аслабленьне забабонаў супроць беларусізацыі ў шырокіх масах насельніцтва і стварэньне кадра настаўнікаў і перадавікоў-сялян, якія актыўна праводзяць беларусізацыю.

7. Асноўныя дасягненьні ў яўрэйскім пытаньні адбываюцца ў поўным правядзеньні гадовага калёнізацыйнага пляну і ў некаторай палёгцы матар'яльнага становішча саматужнікаў, ва ўстанаўленьні падатковых ільгот для бяднейшага мястэчковага насельніцтва, ў стварэньні нац. сельсаветаў і судовых камор на яўрэйскай мове, у некаторым пашырэньні сеткі яўрэйскіх школаў, у пераводзе працы на яўрэйскую мову саюзу краўцоў і часткова гарбароў, у пашырэньні і разьвіцьці яўрэйскага культурнага будаўніцтва наогул.

8. У працы сярод польскага насельніцтва, апрача росту ліку вучняў у школах, стварэньня нацыянальных сельсаветаў, судовых камор, клюбаў і г. д., патрэбна адзначыць рашучы пералом у настроях польскіх масаў дасягнуты ў выніку праробленай працы і ўсёй нацыянальнай палітыкі партыі і значнае павышэньне савецкай актыўнасьці польскага сялянства.

9. Усе паказаныя дасягненьні сьведчаць, што праца па выкананьню партыйных пастановаў адбываецца здавальняюча і што нацыянальная палітыка ў Савецкай Беларусі ідзе па правільным шляху.

## II. Беларусізацыя.

1. Ня гледзячы на адзначаныя вышэй дасягненьні, справа беларусізацыі знаходзіцца яшчэ толькі ў пачатковым этапе. Наступны зімні пэрыод павінен даць новы штуршок гэтай працы.

2. Асноўнымі хібамі ў пастаноўцы працы па беларусізацыі зьяўляліся: 1) недахватная плянамернасьць і арганізаванасьць працы; 2) крайні недахват партыйнай і масавай сялянскай літаратуры на беларускай мове; 3) неналаджанасьць працы нацкамісій як у цэнтры, так і, асабліва, на мясцох, 4) неўсваеньне і павольнасьць выкананьня дырэктывы пленуму, што адбыўся ў студзені аб папулярнай літаратурнай мове.

3. Маючы на ўвазе выключнае значэньне Інбелкульту, пленум даручае Бюро ЦК узмацніць апошні партыйнымі працаўнікамі, а акруткомам—зьвярнуць больш увагі на краязнаўчыя таварыствы і на залучэньне карэспандэнтаў для Інбелкульту.

4. Паколькі беларуская мова ў галіне палітычнай, навуковай і праўнай знаходзіцца яшчэ толькі ў пачатковай стадыі разьвіцьця, пытаньні разьвіцьця і распрацоўкі мовы павінны карыстацца бліжэйшай ўвагай партыі. Члены партыі, якія працуюць у гэтай галіне, павінны, па-перш, імкнуцца да таго, каб друкаванае слова (асабліва, газэтная мова) насіла больш папулярны характар; па-другое, дамагацца, каб патрэбная праца па выпрацоўцы тэрміналёгіі ў максымальнай ступені апіралася на жывую гутарку беларускай вёскі. Пленум адзначае патрэбнасьць прысьпешаньня тэрміналёгічнай працы. Пленум прапануе фракцыі Дзярж. Выдавецтва Беларусі наладзіць старанную праверку перакладаў (асабліва ленінскай і сялянскай літаратуры) пад тым жа пунктам погляду—максымальнай зразумеласьці для вёскі.

Разам з тым партыя павінна весьці рашучую барацьбу супроць неасіленага яшчэ да канца шовіністычнага погляду на беларускую мову, як, нібыта, «выдуманую» і «штучную».

5. Патрэбна пакласьці канец саматужніцкім мэтадам праводзеньня беларусізацыі ўстановаў. Замест ранейшых бяссыстэмных гурткоў пры ўстановах, асноўная праца павінна быць перанесена на цэнтралізаваныя курсы беларусазнаўства, кіраўніцтва якімі знаходзіцца ў Галоўпалітасьвеце. Галоўпалітасьвеце і яе органам на мясцох даручаецца пакла-

паціцца падабраць падрыхтаваных кіраўнікоў для гэтых курсаў, фракцыі СНК—правесьці фінансаваньне гэтага мерапрыемства.

6. Нацкамісіі даручаецца ў бліжэйшы час правесьці праверку выкананьня дырэктыў ў галіне нацпалітыкі ў самых важных установах, цэнтральных і акруговых.

На аснове гэтай праверкі павінны быць: дэтальна ўстаноўлены ўсе прычыны, якія тармозяць беларусізацыю, распрацаваны шляхі да іх ўхіленьня і прыняты меры ўплыў аднosна кіраўнікоў устаноў, якія не праяўлялі актыўнасьці ў правядзеньні партыйных і савецкіх дырэктыў.

7. Пленум падкрэсьлівае, што для пасьпяхоўнай працы па беларусізацыі патрэбна, каб партыйныя арганізацыі падавалі прыклад апарату ў справе беларусізацыі.

8. Значнай перашкодай у беларусізацыі партыйных арганізацый зьяўляецца тое, што партыйныя пытаньні высьвятляліся ў друку бадай выключна на расійскай мове. Патрэбна ўзмацніць выданьне палітычнай літаратуры на беларускай мове (марксыцкія і ленінскія выданьні, дакумэнты партыйных зьездаў і канфэрэнцый і інш.). Пленум даручае Бюро ўжо ў гэтым годзе распачаць выданьне скарочанага збору твораў Леніна на беларускай мове.

9. Паколькі цэнтральны орган партыі павінен выдавацца на мове зразумелай для ўсіх слаёў апошняй і паколькі гарадзкая частка партарганізацый яшчэ далёка ня ў выстарчаючай ступені навучылася беларускай мовы, неадкладны і поўны перавод «Звезды» на беларускую мову пагражаў-бы пакінуць КП(б)Б без адзінага кіруючага органу. Аднак, частковая беларусізацыя газэты магчыма ўжо цяпер. Пленум прапануе перавесьці на беларускую мову частку разьдзелаў «Звезды» з тым, каб каля чвэрткі матар'ялу ў кожным нумары давалася на беларускай мове. Разам з тым, «Звезда» павінна зварачаць значна больш увагі на пытаньні беларускай культуры, а таксама і культуры нацменшасьцяй.

10. Патрэбна ўзмацніць палітычны і марксыцка-тэарэтычны разьдзел часопісаў «Полымя» і «Маладняк» і павялічыць пашырэньне іх сярод партыйнага і камсамольскага актыву.

11. «Савецкая Беларусь» павінна быць пашырана і палепшана, на што павінны быць адпушчаны адпаведныя сродкі па бюджэту.

12. Пленум прызнае патрэбным выданьне ўсебеларускай масавай сялянскай газэты і даручае Бюро ЦК распрацаваць гэтае пытаньне. Дзяржаўнаму Выдавецтву Беларусі патрэбна зьвярнуць асаблівую ўвагу на выданьне масавай літаратуры для вёскі.

13. Аддзелу друку ЦК даручаецца разам з Акруткомамі распрацаваць парадак беларусізацыі для кожнай з мясцовых газэтаў.

14. Часопіс «Работніца і Сялянка» выдаваць на зьмешанай (расійскай і беларускай) мове.

15. Пленум лічыць патрэбным, апрача далейшага разьвіцьця беладрусізацыі № -й дывізіі, унясеньне ўсяго № корпусу ў плян нацыянальных фармаваньняў з забясьпячэньнем яго сродкамі па бюджэту і падборам працаўнікоў для гэтай мэты; Бюро ЦК і РВС ЗВА дамагчыся вырашэньня данага пытаньня ў адпаведных органах.

16. Пленум ізноў падкрэсьлівае асаблівае значэньне працы сярод рабочых-беларусоў,—як маючых найбольшую сувязь з вёскай,—для ўзмацненьня змычкі рабочай клясы і сялянства. Патрэбна ўзмацніць залучэньне рабочых беларусаў у партыю, яшчэ больш энэргічна вылучаць іх на адказныя пасады ў прафсаюзах, шырэй уцягваць у вячэрнія школы, рабкораўскі рух і г. д., а таксама ліквідаваць сярод іх беларускую няпісьменнасьць.

17. Праца па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод беларускага сялянства павінна праводзіцца на роднай мове, для чаго пленум катэгарычна прапануе фракцыям Наркамасьветы і Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі прысьпешыць выданьне беларускага лемантара і выдаць яго ў патрэбным ліку экзэмпляраў.

18. Пленум адзначае дасягненьні Калінінскага Акругкому, які правёў беларусізацыю больш поўна і рашуча, чым ва ўсіх іншых акругах, і прапануе ўсім акругам, на аснове калінінскае практыкі, ўзмацніць і разьвіць далейшую працу ў гэтай галіне.

19. Патрэбна ўзмацніць працу нацыянальных камісій, цэнтральнай і акруговых, утварыўшы пры іх адпаведны апарат.

## III. Праца сярод нацменшасьцяй.

1. Карэннае разьвязваньне яўрэйскага пытаньня ў Беларусі заключаецца ў выратаваньні яўрэйскага мястэчка з таго надзвычайна цяжкага эканамічнага становішча, у якім яно знаходзіцца цяпер. Праца па палепшаньню эканамічнага становішча местачковага насельніцтва павінна займаць віднейшае месца ў працы партыі.

2. Надзяленьне працоўных яўрэяў зямлёю па трохгадоваму пляну Белкамзэту павінна праводзіцца поўным тэмпам. Патрэбна ажывіць і надаць больш масавы характар працы ОЗЕТ'у.

3. Пленум ЦК у верасьні паставіў пытаньне аб прыцягненьні лішняга насельніцтва Беларусі на заводы саюзных

рэспублік. Пры разьвязваньні гэтага пытаньня патрэбна аддаць значную ўвагу яўрэйскаму насельніцтву горада і мястэчка, сярод якога беспрацоўе асабліва вострае. Патрэбна таксама ўзмацніць працу па павялічэньні кваліфікацыі яўрэйскай моладзі.

4. Патрэбна скончыць з астачамі недаверлівых адносін да саматужнікаў, з недаацэнкай іх гаспадарчай ролі, і значэньня партыйнай працы ў іх колах. Аднэй з найважнейшых задач партыі зьяўляецца дапамога і разьвіцьцё саматужніцка-прамысловай каапэрацыі, саматужных арцеляй і крэдытнай дапамогі саматужнікам. Праца таварыстваў саматужнікаў павінна быць пастаўлена пад бліжэйшае кіраўніцтва партыі. Трэба ўзяць больш рашучы курс на ўцягненьне саматужніцкай моладзі ў комсамол. Найбольш перадавыя элемэнты сярод саматужнікаў павінны ўцягвацца ў партыю. Праца сярод саматужнікаў і рабочых саматужнай прамысловасьці павінна зрабіцца самай важнай часткай працы ў мястэчку.

5. Бюро ЦК даручаецца распрацаваць пытаньне аб напрамку і мэтадах працы сярод яўрэяў-сялян. У прыватнасьці трэба ўсімі мерамі падтрымліваць і ўмацоўваць арцельныя пачаткі ў яўрэйскім земляробстве, для чаго ўзмацніць матэр'яльную дапамогу яўрэйскім калектыўным аб'яднаньням, побач з другімі калектыўнымі гаспадаркамі, якія арганізуюцца.

6. Савецкі апарат у раёнах, дзе ёсьць яўрэйскае насельніцтва, павінен быць больш дастасаваны (веды мовы, быту) да абслугоўваньня яўрэйскіх масаў. Адначасна трэба працягваць працу па стварэньні яўрэйскіх местачковых саветаў і па дапамозе ім у пераводзе працы на яўрэйскую мову.

7. Пленум лічыць патрэбным пры наступных перавыбарах у саветы перагледзець выбарную практыку ў бок больш шырокага прыцягненьня да выбараў непралетарскай гарадзкой і местачковай беднаты.

8. Патрэбна ўзмацніць працу па ўстанаўленьні рэвалюцыйнай законнасьці ў мястэчку. Канстатуючы, у прыватнасьці, што падатковыя ільготы, якія даюцца савецкімі органамі бяднейшаму местачковаму насельніцтву, у шэрагу выпадкаў зрываюцца незаконнымі дзеяньнямі працаўнікоў фінапарату, Пленум прапануе ўзмацніць барацьбу супроць сваволі пры зборы падаткаў і правесьці некалькі паказальных судоў над фінінспэктарамі, якія злоўжываюць уладай.

9. Патрэбна павялічыць разьмер і пашырыць распаўсюджаньне яўрэйскай газэты «Вэкер».

10. Цяжкія недахваты, якія перажывае местачковае насельніцтва, ствараюць ўдзячную глебу для разьвіцьця сіянізму, ўплыў якога на яўрэйскія дробна-буржуазныя слаі і местачковую моладзь у даны момант вельмі значны.

Улічваючы контр-рэвалюцыйную ролю сіянізму як у сярэдзіне краю, так і ў міжнародным маштабе, Пленум, побач з вышэйадзначанымі эканамічнымі мерапрыемствамі, прапануе партарганізацыям узмацніць барацьбу супроць сіянізму. Патрэбна азнаёміць усю партыйную, і камсамольскую арганізацыю з характарам і дзейнасьцю сіяніцкіх груп і падрыхтаваць адпаведную літаратуру. Асабліва-ж трэба ўзмацніць агітацыйна-асьветную працу камсамолу сярод масаў яўрэйскай гарадзкой і местачковай моладзі.

11. Пленум цалком зацьвярджае пастанову Бюро ЦК ад 20-га жніўня гэтага году па польскім пытаньні і прапануе ўсім мясцовым арганізацыям правесьці яе ў жыцьцё.

12. Трэба ўзмацніць працу сярод латышскага насельніцтва, а таксама аддаць больш увагі нацменшасьцям, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі асобнымі паселішчамі (літоўцы, эстонцы, немцы і г. д.).

13. Патрэбна весьці барацьбу з праявамі ўхіленьня часткі таварышоў ад працы сярод нацменшасьцяй. Усе таварышы, якія ведаюць мову нацменшасьці і н ямогуць быць цалком вызвалены для гэтай працы, павінны прыцягвацца да яе ў парадку партнагрузкі.

14. Патрэбна далей разьвінаць сетку нацсельсаветаў і дапамагаць палепшаньню іх працы. Гэтая сетка павінна быць устаноўлена да перавыбараў сельсаветаў.

15. З тае прычыны, што з боку некаторых партарганізацый праяўляецца імкненьне ўскласьці працу сярод нацменшасьцяй выключна на нацыянальныя сэкцыі. Пленум падкрэсьлівае, што гэтая праца зьяўляецца складанай часткай працы ўсяе партарганізацыі і што адказнасьць за яе нясуць партарганізацыі ў цэлым.

### IV. Нацпалітыка ў школьнай справе.

1. Непарушанай асновай нацпалітыкі ў школьнай справе зьяўляецца забясьпека насельніцтву кожнай нацыянальнасьці—магчымасьці навучаць дзяцей на роднай мове. Пленум пахваляе рэзалюцыю Бюро ЦК ад 24 ліпня, якая вызначыла асноўны напрамак нацпрацы ў школе на бягучы навуч. год.

2. У справе стварэньня беларускай школы дасягнуты вялікія посьпехі. Аднак, беларусізацыя шмат якіх школаў носіць яшчэ пакуль што павярхоўны характар, што тлумачыцца, у першую чаргу, недахватам падручнікаў і падрыхтаваных працаўнікоў. Патрэбна працягваць працу па ўхіленьні гэтых хібаў і, асабліва, дамагацца, каб беларуская мова ня толькі вывучалася, але і ўваходзіла-б ва ўсё жыцьцё школы.

3. Побач з некаторым колькасным ростам школ нацменшасьцяй патрэбна адзначыць, з аднаго боку, непрапарцыянальна малую колькасьць гэтых школаў, у параўнаньні з колькасьцю насельніцтва адпаведных нацыянальнасьцяй, а,

з другога боку, усё яшчэ цяжкія матар'яльныя ўмовы іх працы. Пленум даручае фракцыі Наркамасьветы распрацаваць пытаньне аб мерах для прысьпяшэньня падрыхтоўкі пэдагогаў і палепшаньня ўмоваў працы школаў нацменшасьцяй.

4. Пры правядзеньні нацпалітыкі ў школьнай справе ў шэрагу таварышоў сустракаюцца памылкі дваякага роду. Адна з іх заключаецца ў імкненьні заняць пасыўную пазыцыю ў гэтым пытаньні і адмовіцца ад ініцыятывы зьверху. Тым часам працяжная задушанасьць і прасьледваньні беларускай і яўрэйскай культуры прывялі да ўкараненьня, нават ў масах насельніцтва гэтых нацыянальнасьцяй, погляду на беларускую і яўрэйскую мовы, як на няпоўнапраўныя. Пры гэтых умовах адмаўленьне ад ініцыятывы зьверху (папярэдняе вызначэньне сеткі, агітацыя за навучэньне дзяцей на роднай мове і т. п.) азначала-б аб'ектыўна—падатлівасьць русіфікатарскім традыцыям, і таму не адпавядае нацыянальнай палітыцы партыі. Другая памылка складаецца са спробы праводзіць нацпалітыку ў школьнай справе голымі мэтадамі адміністраваньня і камандаваньня, што Пленум прызнае зусім недапусьцімым.

5. Асабліва недапусьціма вырашаць шляхам камандаваньня пытаньне аб школах беларусаў-каталікаў. Асноўная задача партыі ў адносінах да гэтага слою насельніцтва складаецца з адарваньня яго з-пад рэакцыйнага ўплыву каталіцкіх ксяндзоў і ў поўным і канчатковым заваяваньні на бок Савецкай улады. З пункту погляду гэтай задачы пасьпешнае адміністраваньне ў школьным пытаньні можа даць толькі адмоўныя вынікі. Пленум, сьцьвярджаючы дырэктыву Пленуму, што адбыўся ў студзені, і пастанову Бюро ЦК ад 6-га жніўня аб паступовым пераводзе гэтых школ на беларускую мову выкладаньня, падкрэслівае, што абавязковай ўмовай пры гэтым зьяўляецца поўная падрыхтаванасьць бацькоў да такога пераводу.

6. У зьвязку з разьвіцьцём справы беларусізацыі школ, Пленум даручае фракцыі Наркамасьветы распрацаваць пытаньне аб забясьпечаньні вялікарасійскага насельніцтва школай на расійскай мове.

### V. Міжнацыянальныя адносіны.

1. Няўважлівыя адносіны да момантаў нацпалітыкі прыводзяць да частых выпадкаў парушэньня роўнапраўства моваў. З гэтай прычыны, Пленум прапануе як партыйным арганізацыям, так і асобным членам партыі, якія стаяць на чале установаў, сачыць за тым, каб усе дакумэнты масавага характару выходзілі абавязкова на чатырох мовах. Таксама на ўсіх сходах і дэманстрацыях, якія маюць вялікае палітычнае значэньне, выступленьні павінны адбывацца на чатырох мовах.

2. Патрэбна дамагацца збліжэньня яўрэяў-земляробаў з вакольным сялянствам, для чаго правесьці сярод апошняга кампанію па высьвятленьні значэньня надзяленьня яўрэяў зямлёю. У працы земляўпарадкаваньня яўрэяў трэба захоўваць як мага асьцярожнасьць, ухіляючыся ад канфліктаў з суседнім сялянствам на зямельнай або рэлігійнай глебе.

3. Партарганізацыі павінны імкнуцца да зьліквідаваньня ўзьнікшай гістарычна звадкі паміж беларускім і польскім сялянствам. У гэтых мэтах Бюро ЦК даручаецца распрацаваць пытаньне аб папулярызацыі польскага рэвалюцыйнага руху— сярод беларускага сялянства.

4. Улічваючы, што прызначаны на восень 1926 г. перапіс можа даць патрэбныя вынікі толькі пры ўмове заўчаснай падрыхтоўкі да яго і растлумачальнай кампаніі сярод насельніцтва, Пленум прапануе Нацкамісіі распрацаваць пытаньні зьвязаныя з нацыянальнымі момантамі.

## VI. Партыйная лінія ў нацпытаньні.

1. Далейшае разьвіваньне НЭП'у і зьвязаны з ім рост капіталістычных адносін вядуць да ўмацаваньня буржуазна-дэмакратычнай ідэолёгіі і да ўзмацненьня яе напору на партыю і савецкі апарат. Уплыў буржуазна-дэмакратычнай ідэолёгіі выяўляецца ў беларускіх умовах—асабліва, у форме нацыянал-дэмакратычных настрояў, якія выходзяць з колаў дробна-буржуазнай інтэлігэнцыі і заможнай верхавіны сялянства і захопліваюць асобных, недахватна моцных, камуністых. Таму перад партыяй паўстае задача ўзмацненьня барацьбы супроць ухілаў, забясьпечаньне бальшавіцкай лініі ў вырашэньні нацыянальнага пытаньня.

2. Найбольш небясьпечным ухілам зьяўляецца недахватная ўвага да пытаньняў нацыянальнай палітыкі і недалік нацыянальнай псыхалёгіі (пасыўнасьць у правядзеньні палітыкі партыі, пагардныя адносіны да «слабых культур», недахватная ўвага справе вылучэньня і выхаваньня працаўнікоў з колаў раней прыгнечаных нацый, няўважлівасьць да будаўніцтва культуры гэтых нацый наогул). Настроі такога роду зьяўляюцца, па існасьці справы, прыкрытай і таму найбольш небясьпечнай формай вялікадзяржаўнага шовінізму і вымагаюць з боку ўсяе партыі самай рашучай барацьбы і асіленьня.

3. Побач з гэтым сярод камуністых, з колаў раней прыгнечаных нацыянальнасьцяй, магчымы (і часткова праяўляюцца ўжо цяпер) захапленьні «нацыянальнай культурай наогул», на шкоду клясавай пастаноўцы пытаньня. Пленум падкрэсьлівае, што задачаю партыі ў справе нацыянальна-культурнага будаўніцтва зьяўляецца забясьпечаньне камуністычна-пралетарскага зьместу нацыянальных культур.

4. У галіне ўзаемаадносінаў паміж асноўнай беларускай нацыянальнасьцю і нацменшасьцямі, небясьпекамі зьяўляюцца: з аднаго боку,—наступальны беларускі нацыяналізм, накіраваны супроць нацменшасьцяй, з другога боку,—імкненьне працаўнікоў з колаў нацменшасьцяй замкнуцца у рамках сваёй нацыянальнай культуры, у баку ад агульнабеларускага будаўніцтва (сюды належаць, у паасобку, такія зьявішчы, як адмоўныя адносіны да беларусізацыі з боку часткі яўрэйскага і польскага насельніцтва). Супроць абедзьвюх небясьпек партыя павінна весьці барацьбу.

5. Змагаючыся супроць нацыяналістычнага ўплыву дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, патрэбна ўстанавіць адначасна адносіны дзелавога супрацоўніцтва з ёю. Пленум адзначае працэс набліжэньня, які адбываецца, да партыі значных слаёў інтэлігэнцыі і лічыць самай важнай задачай ўзмацненьне ўплыву камуністычнай ідэолёгіі ў яе колах і далейшае збліжэньне з партыяй лепшых яе элемэнтаў.

6. Канстатуючы недахватна яснае разуменьне лініі партыі ў нацпытаньні з боку часткі партыйнай арганізацыі, у тым ліку і часткі партактыву, Пленум лічыць патрэбным узмацніць вытлумачэньне як тэорэтычных асноваў, так і бягучай практыкі нацыянальнай палітыкі партыі і ўстанавіць больш частае і шырокае абмяркаваньне пытаньняў гэтай галіны на партыйных сходах і ў друку.

7. Небясьпека скрыўленьня партыйнай лініі ў нацыянальным пытаньні ўскладняецца тым, што ў склад актыву КП(б)Б ўваходзіць вялікая колькасьць таварышоў, якія вышлі з нацыяналістычных партый, існаваўшых на Беларусі, і што пры ўсёй суб'ектыўнай шчырасьці гэтых таварышоў, старыя традыцыі ня ўсімі з іх зжыты да канца. З гэтае прычыны, Пленум даручае Гістпарту прыступіць да падрыхтоўкі крытычнай гісторыі гэтых партый і да высьвятленьня мінулага рэволюцыйнай барацьбы на Беларусі з бальшавіцкага пункту погляду.

8. Пленум пахваляе пастаноўку Бюро ЦК пытаньня аб небясьпеках, якія пагражаюць КП(б)Б у сфэры нацыянальнай палітыкі, што выяўлена ў дакладзе тав. Крыніцкага: «Аб асаблівасьцях унутрыпартыйнага становішча КП(б)Б», і прапануе працягнуць працу па растлумачэньні і паглыбленьні пытаньняў ўзьнятых у дакладзе.

Пленум адзначае, што Бюро ЦК, у ажыцьцяўленьні пастаноў Пленуму, які быў у студзені, паставіла перад агульна-саюзнымі цэнтрамі заяўкі па асобных пытаньнях аб узмацненьні гаспадарчай дапамогі Беларусі, у выніку чаго ёсьць некаторыя, пакуль нязначныя, дасягненьні. У даны час, у зьвязку з бюджэтам, пытаньне пастаўлена ў агульным маштабе. Пленум даручае Бюро ЦК працягваць працу ў гэтым на-

прамку, пацьвярджае лінію Бюро ў пастаноўцы гэтых пытаньняў у Маскве. Пленум даручае Бюро паставіць таксама пытаньне аб узмацненьні прадстаўніцтва БССР у агульнасаюзных органах.

## Аб нацыянальнай палітыцы.

*(Резалюцыя Пленуму ЦК КП(б)Б—Кастрычнік 1926 г.).*

Падагульваючы вынікі працы КП(б)Б па правядзеньні нацыянальнай палітыкі, Пленум ЦК адзначае, што за мінулы год КП(б)Б у цэлым і Бюро ЦК паасобку, правялі вялікую працу і ажыцьцявілі цэлы шэраг важнейшых задач у справе вырашэньня нацыянальнага пытаньня ва ўмовах БССР, вытрымаўшы ў асноўным правільную бальшавіцкую лінію.

Мінулы гаспадарчы год характарызуецца, як пэрыод значнага росту і ўмацаваньня ўсёй народнай гаспадаркі Савецкай Беларусі. Поруч з ростам прамысловасьці і сельскай гаспадаркі значна павялічыўся таксама дзяржаўны і мясцовы бюджэт БССР, што дало магчымасьць у больш шырокім разьмеры, чым раней, разьвінуць гаспадарчае і культурнае будаўніцтва ў гарадох, мястэчках і вёсках, забясьпечваючы гэтым самым палепшаньне матар'яльнага становішча рабочае клясы і сялянства. Не зважаючы на гэта, труднасьці становішча Беларусі, як зруйнаванага і адсталага ў гаспадарчым і культурным разьвіцьці краю,—і надалей захоўваць сваю вострасьць; з прычыны чаго і ў далейшым аднэй з важнейшых першачарговых задач партыі ў нацыянальным пытаньні зьяўляецца задача гаспадарчага адбудаваньня і ўмцаваньня Беларусі, як нацыянальнай савецкае рэспублікі.

У выніку правядзеньня ў мінулым годзе ўнутры партыі і ЛКСМ растлумачвальнай і выхаваўчай працы па пытаньнях нацыянальнай палітыкі, стварыўся пэўны пералом у бок больш выразнага разуменьня і ўсваеньня партыйнай масай асноўных прынцыпаў і лініі партыі ў нацыянальным пытаньні. Адзначаныя у рэзолюцыі кастрычнікаўскага Пленуму ЦК 1925 г. ўхілы як вялікадзяржаўнага шовінізму, так і мясцовага,—у партыйных колах, у значнай меры, аслаблены і страцілі сваю гострасьць, аднак, яшчэ і да гэтага часу ў партыі наглядаюцца зьявішчы пасыўных і фармальных адносін да правядзеньня нацыянальнай палітыкі, асабліва да беларусізацыі, і таму ў далейшым патрабуецца правядзеньне рашучай барацьбы з гэтымі адмоўнымі зьявішчамі.

Шляхам правядзеньня цэлага шэрагу мерапрыемстваў эканамічнага і культурнага характару і растлумачвальнае працы, партыя здолела дамагчыся некаторых посьпехаў ў справе ўкараненьня сярод шырокіх слаёў рабочае клясы большага зразуменьня і ўсваеньня асноўных пачаткаў нацыя-

нальнай палітыкі і практычных задач, якія стаяць перад партыяй і Савецкай Уладаю ў вырашэньні гэтага пытаньня. Аднак, гэтая праца ў прафсаюзных масах, паводле сваіх вынікаў, мела меншы посьпех, чым у шэрагах партыі і ЛКСМ. Таму ў далейшым неадкладнаю задачаю партыі зьяўляецца ўзмацненьне і паглыбленьне выхаваўчай працы ў прафсаюзных масах па нацыянальнай палітыцы і па правядзеньню беларусізацыі, дамагаючыся пры гэтым практычнага прыцягненьня актыўнай часткі рабочае клясы ўсіх нацыянальнасьцяй да ўдзелу ў правядзеньні нацыянальнай палітыкі і ўмацаваньня змычкі паміж рабочаю клясаю і сялянствам.

Некаторыя дасягненьні ёсьць у растлумачвальнай працы асноў нацыянальнай палітыкі сярод сялянства. Але праца гэта сярод шырокіх сялянскіх мас яшчэ ня досыць разьвінута і вымагае ў далейшым ад усіх партыйных і камсамольскіх арганізацый большае ўвагі і актыўнасьці ў правядзеньні яе.

Дасягненьні ў разьвіцьці і росьце эканамічнага дабрабыту БССР, а таксама ў галіне культурнага будаўніцтва выклікалі, натуральна, рост палітычнай актыўнасьці сярод інтэлігэнцыі ўсіх нацыянальнасьцяй, асабліва беларускай. Большая частка інтэлігэнцыі (пераважна настаўніцтва) выразна павярнулася тварам да партыі і распачала працаваць пад яе кіраўніцтвам. Частка беларускай інтэлігэнцыі сваю актыўнасьць у нацыянальным пытаньні накіравала па іншым, чужым для партыі і рабочай клясы шляху, імкнучыся заўладаць дасягнутым становішчам і ажыцьцявіць свае заветныя нацыянал-дэмакратычныя ідэалы. У зьвязку з тэмпам беларусізацыі апаратаў савецкіх установаў, які ўзмацніўся у апошні час, русіфікаваная частка інтэлігэнцыі, што працуе ў гэтых апаратах, рэагавала ўзмацненьнем вялікадзяржаўных настрояў у сваёй сфэры, імкнучыся так ці інакш затрымаць практычнае правядзеньне мерапрыемстваў ў гэтай галіне. Актыўнае правядзеньне нацыянальнай палітыкі ў галіне беларусізацыі ўстаноў адбілася і на настроях часткі інтэлігэнцыі нацыянальных меншасьцяй (яўрэйскай, польскай і інш.), якія ацэньваюць нацыянальную палітыку КП(б)Б, як палітыку «абеларушваньня» і грэбаваньня інтарэсамі і запытаньнямі іншых нацыянальнасьцяй. З гэтай прычыны чарговаю задачаю партыі зьяўляецца і ў далейшым ня толькі не аслабляць палітыка-выхаваўчай працы сярод інтэлігэнцыі (асабліва сярод вагаючайся яе часткі), але разьвіваць і паглыбляць гэтую працу. У гэтым сэнсе яшчэ раз зварачаецца асаблівая ўвага ўсёй КП(б)Б на важнасьць пастаноў Пленумаў ЦК КП(б)Б у сакавіку і ліпені гэтага году па пытаньні «Аб інтэлігэнцыі» і «Аб чарговых задачах культурнага будаўніцтва ў БССР». Усёй працы ў галіне культурнага будаўніцтва КП(б)Б павінна аддаваць выключную ўвагу і ніяк не аслабляць свайго ўплыву і кіраўніцтва ў гэтай галіне.

Не зважаючы на аб'ектыўныя труднасьці і цэлы шэраг няспрыяльных умоў, якія склаліся гістарычна, беларусізацыя як цэнтральных, так і мясцовых установаў пасунулася наперад, асабліва за апошнія месяцы. Усё-ж такі ў гэтай галіне стаіць яшчэ вялікая і складаная праца, выкананьне якой зьяўляецца аднэй з важнейшых чарговых задач партыі.

Значную працу правяла партыя па выкананьні дырэктыў папярэдніх пленумаў адносна нацыянальных меншасьцяй. Надаючы разьвіцьцю беларускай культуры, як культуры пераважнай большасьці насельніцтва, асабліва важнае і першачарговае значэньне, партыя тым ня менш праводзіла гэтую працу пад пунктам погляду роўнаправўнасьці ўсіх нацыянальнасьцяй і моваў і, дзякуючы гэткай палітыцы, партыя дабілася некаторых вынікаў ў здаваленьні як эканамічных, так і культурных патрэб і запытаньняў нацыянальных меншасьцяй. Гэтай працы партыя і далей павінна аддаваць самую сур'ёзную ўвагу, сыстэматычна вывучаючы складаныя і заблытаныя пытаньні міжнацыянальных адносін, паставіўшы перад сабою, як важнейшую задачу, фактычнае забясьпечаньне матар'яльных патрэб і запытаньняў нацыянальных меншасьцяй, культурнае іх разьвіцьцё і ўцягненьне ў савецкае будаўніцтва працоўных нацыянальных меншасьцяй, ліквідуючы захаваўшуюся месцамі нацыянальную звадку.

Адзначаючы вышэй пералічаныя дасягненьні ў справе правядзеньня нацыянальнай палітыкі, Пленум ЦК КП(б)Б сьцьвярджае, што з вызначаных кастрычнікаўскім пленумам ЦК КП(б)Б 1925 г. практычных мерапрыемстваў па нацыянальнай палітыцы засталіся нявыкананымі н а с т у п н ы я:

1. Застаецца неўпарадкаванаю праца па пераводу ўстаноў на беларускую мову; не даволі выразна распрацаваны пляны беларусізацыі ў кожнай ўстанове; курсы па вывучэньні супрацоўнікамі ўстановаў беларускай мовы ўтвараліся бяз пэўнага адзінага пляну і сыстэмы, ня было кіраўніцтва гэтымі курсамі. Таксама не ўпарадкавана пытаньне аб абслугоўваньні апаратам установаў насельніцтва небеларускай нацыянальнасьці (яўрэяў, палякаў і інш.).

2. Не закончана падрыхтоўкай і ня выдана тэрміналёгія розных відаў (палітычная, навуковая, праўная і вайсковая).

3. Ня ў поўнай меры выканана дырэктыва аб выданьні папулярнай партыйнай і масавай літаратуры для рабочых і сялян на беларускай мове.

4. Вельмі мала зроблена ў сэнсе пераводу на беларускую мову і выданьня палітычнай літаратуры (марксыцкай, ленінскай, дакумантаў партыйных зьездаў, канфэрэнцый і інш.)

5. Адзначыць, як дэфэкт, што да гэтага часу ня былі прыняты ніякія меры да выданьня на беларускай мове агуль-

на-палітычнай, навуковай, мастацкай, а таксама дзіцячай літаратуры як арыгінальнай, так і перакладнай.

6. Ня выканана дырэктыва аб правядзеньні на роднай мове працы па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дарослага насельніцтва, асабліва сярод беларусаў.

7. Ня выканана пастанова Пленуму ЦК, які адбыўся у студзені 1925 г., аб працы па вывучэньні беларускай мовы, у парадку ліквідацыі беларускай няпісьменнасьці сярод рабочых нацыянальных меншасьцяй.

8. Невыстарчальна прапрацаваны і праведзены ў жыцьцё мерапрыемствы па аслабленьні сіяніцкіх уплываў на яўрэйскую моладзь і ў невыстарчальнай меры праведзена праца па азнаямленьні партыйнай і камсамольскай арганізацый з характарам і дзейнасьцю сіяніцкіх групаў, адпаведнай літаратуры па гэтым пытаньні амаль няма. Агітацыйна-прапагандыцкая праца камсамолу сярод яўрэйскай гарадзкой і местачковай моладзі ў гэтым напрамку пастаўлена слаба.

9. У некаторых акругах слаба наладжана праца сярод жыхарства польскай, латышскай і літоўскай нацыянальнасьцяй пры слабым уцягваньні яго ў савецкае будаўніцтва. Асабліва слаба пастаўлена праца сярод польскай, латышскай і літоўскай моладзі і жанчын.

Пленум ЦК пахваляе і сьцьвярджае наступныя пастановы, якія Бюро ЦК прыняла па пытаньнях нацыянальнай палітыкі:

а) ад 27 жніўня г. г.—аб вылучэньні ў партыйныя, прафэсыянальныя, савецкія і іншыя органы працаўнікоў з мясцовага карэннага насельніцтва;

б) ад 1-га верасьня г. г.—аб правядзеньні мерапрыемстваў па праверцы выкананьня пастановаў аб беларусізацыі ўстаноў.

в) ад 27 жніўня г. г.—аб пераводзе з 1-га студзеня 1927-га году газэты «Звезда» на беларускую мову і аб пераводзе на беларускую мову ўсіх акруговых газэт;

г) ад 11-га верасьня—аб мерапрыемствах па беларусізацыі ВНУ;

д) ад 6-га верасьня г. г.—аб беларусізацыі №-ай Беларускай дывізіі;

е) аб працы сярод нацыянальных меншасьцяй па дакладах Нацбюро ЦК.

Пленум ЦК КП(б)Б даручае Бюро ЦК у далейшай сваёй працы ўжыць захады да ажыцьцяўленьня наступных мерапрыемстваў:

1. Працягваць і ўзмацніць працу, надаўшы ёй сыстэматычны і плянавы характар, па растлумачэньні сярод шырокай масы працоўных, асабліва ў прафсаюзах, асноваў нацыянальнай палітыкі і практычных мерапрыемстваў партыі па яе ажыцьцяўленьню. Зрабіць захады да больш сыстэма-

тычнага і сур'ёзнага высьвятленьня гэтага пытаньня ў друку, а таксама да выданьня ў хуткім часе матар'ялаў па пытаньнях нацыянальнай палітыкі ў БССР, згодна пастановы Бюро ЦК ад 2-га кастрычніка г. г.

2. Зрабіць захады да найхутчэйшага выданьня беларускай і яўрэйскай тэрміналёгіі, палітычнай, навуковай, юрыдычнай і вайсковай.

3. Зрабіць рашучыя захады да найхутчэйшага перакладу на беларускую мову і выданьня палітычнай літаратуры (марксыцкай, ленінскай, дакумантаў партыйных зьездаў, канфэрэнцыі і інш.), а таксама да выданьня на беларускай мове навуковай, мастацкай і дзіцячай літаратуры, як арыгінальнай, так і перакладнай.

4. Выканаць дырэктыву аб выданьні патрэбнага ліку папулярнай літаратуры для рабочых і сялян на беларускай мове.

5. Зрабіць захады да выданьня на беларускай мове і на мовах нацыянальных меншасьцяй партыйнай літаратуры для членаў партыі, ЛКСМ і партыйнага актыву.

6. Выканаць дырэктыву наконт правядзеньня працы па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дарослага насельніцтва поўнасьцю на роднай мове.

7. З мэтай зьбліжэньня рабочых усіх нацыянальнасьцяй з сялянскаю масай і ўзмацненьня кіруючай ролі рабочае клясы ў саюзе з сялянствам, паставіць, як чарговую задачу, выкананьне пастановы Пленуму ЦК ад студзеня 1925 году аб ліквідацыі беларускай няпісьменнасьці сярод рабочых-беларусаў і аб вывучэньні беларускай мовы рабочымі іншых нацыянальнасьцяй і ў першую чаргу актывам, праводзячы гэтую працу на аснове дабраахвотнасьці. Бюро ЦК і акруговым камітэтам распрацаваць мерапрыемствы аб вывучэньні беларускай мовы ўсёю партыйнаю організацыяй: «Уся КП(б)Б павінна гаварыць на беларускай мове».

8. Даць цьвёрдую дырэктыву кіраўнікоМ установаў аб ўвядзеньні плянавасьці і сыстэмы ў працу па пераводу апаратаў установаў на беларускую мову. Нацыянальная камісія ЦВК, а таксама ЦКК РСІ павінны ажыцьцяўляць строгі і пастаянны нагляд за дакладным выкананьнем гэтай дырэктывы.

9. Устанавіць, што прадугледжаны Пленумам ЦК КП(б)Б, які адбыўся ў ліпені 1924 г., тэрмін канчатковага пераводу працы ўсіх установаў на беларускую мову застаецца бяз зьмены, прычым тэмп працы, якая ў гэтых адносінах праводзіцца, ні ў якім выпадку не павінен аслабляцца. На кіраўнікоў установаў ускладаецца поўная адказнасьць за дакладнае выкананьне гэтай дырэктывы.

10. Сьцьвердзіць усе ранейшыя пастановы аб забясьпечаньні насельніцтва нацыянальных меншасьцяй поўнай магчымасьцю карыстацца сваёй роднай мовай пры пісьмовых і вусных зносінах з усімі цэнтральнымі і мясцовымі ўстанова-

мі. Для гэтай мэты кіраўнікі ўсіх цэнтральных і мясцовых устаноў павінны забясьпечыць свае апараты патрэбным лікам супрацоўнікаў, якія ўладаюць мовамі нацыянальных меншасьцяй.

11. У самы блізкі час арганізаваць паверку і вывучэньне пастаноўкі працы ў нацыянальных сельскіх і местачковых саветах і нацыянальных каморах народных судоў.

12. Побач з забесьпячэньнем насельніцтва ўсіх нацыянальнасьцяй школамі на роднай мове вучняў, зрабіць рашучыя захады, каб прысьпешыць тэмп прыстасаваньня клюбаў, нардомаў, хатаў-чытальняў і іншых культурна-асьветных устаноў у горадзе і вёсцы для абслугоўваньня працоўных на роднай мове.

13. Узмацніць працу па правядзеньні мерапрыемстваў, вызначаных Пленумам ЦК КП(б)Б, які адбыўся ў ліпені гэтага году, па дакладу аб становішчы мястэчак. Лічыць патрэбным у бюджэце 1926/27 году прадугледзець фінансаваньне саматужніцка-прамысловай каапэрацыі, а таксама ўзмацненьне крэдытаваньня саматужнікаў, што бясспрэчна павінна аслабіць гострае беспрацоўе сярод яўрэйскага насельніцтва гарадоў і мястэчак.

14. Прыступіць да правядзеньня адпаведных мерапрыемстваў па ліквідацыі сіяніцкага і клерыкальнага ўплыву на яўрэйскую рабочую моладзь гарадоў і мястэчак, да азнаямленьня партыйнай і камсамольскай арганізацый з характарам і дзейнасьцю сіяніцкіх групаў і ўзмацніць у гэтым напрамку агітацыйна-прапагандыцкую працу камсамолу сярод яўрэйскай гарадзкой і местачковай моладзі і выданьне адпаведнай літаратуры.

15. У далейшым узмацніць працу сярод польскага, латышскага і літоўскага насельніцтва, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ўзмацненьне працы сярод моладзі і жанчын. Адначасна зьвярнуць увагу на патрэбнасьць узмацненьня барацьбы з клерыкалізмам сярод гэтых нацыянальных меншасьцяй.

16. Улічваючы вялікае значэньне працы сярод насельніцтва нацыянальных меншасьцяй, а таксама невыстарчальную забясьпечанасьць працаўнікамі адпаведных раёнаў,— сьцьвердзіць пастанову Бюро ЦК аб умацаваньні працаўнікамі—мястэчак і раёнаў з насельніцтвам нацыянальных меншасьцяй.

17. Зьвярнуць увагу на неабходнасьць стараннага вывучэньня ўсіх момантаў ў міжнацыянальных адносінах і на аснове сабраных матар'ялаў даручыць Бюро ЦК распрацаваць і праводзіць адпаведныя мерапрыемствы, накіраваныя да культурнага збліжэньня працоўных мас усіх нацыянальнасьцяй і да хутчэйшага зьнішчэньня нацыянальнай звадкі і адчужанасьці, вядучы пры гэтым энэргічную барацьбу з

нязжытымі яшчэ выпадкамі скажэньня нацыянальнай палітыкі ў адносінах да нацыянальных меншасьцяй.

18. Усю працу партыйнага і камсамольскага апарату перавесьці да 1-га студзеня 1927 году на беларускую мову.

19. Праца па вывучэньні партыйнымі і камсамольскімі масамі асноў нацыянальнай палітыкі і практычных задач па правядзеньні яе ў жыцьцё павінна быць паглыблена і ўвайсьці ў плян працы ячэек КП(б)Б і ЛКСМ (асабліва ў Менску і Віцебску). Даручыць Бюро ЦК у бліжэйшы час выпрацаваць і даць на месцы адпаведныя паказаньні і дырэктывы.

20. Даручыць Бюро ЦК паклапаціцца аб хутчэйшым выданьні «Гісторыі КП(б)Б».

21. Запрапанаваць усім акругкомам аддаваць больш увагі працы акруговых нацыянальных камісій, узмацняючы іх адпаведным складам працаўнікоў. Устанавіць для акруговых нацыянальных камісій пасаду аднаго платнага адказнага працаўніка.

---

# ПАСТАНОВЫ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ.

## МАНІФЭСТ

### Часовага Рэвалюцыйнага Рабоча-Сялянскага Ўраду Беларусі.

*Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!*

Таварышы і браты рабочыя, бедныя сяляне і чырвонаармейцы Беларусі!

Гаротная, змучаная Беларусь, Беларусь рабочых і бедных сялян, якая праз увесь доўгі час свайго існаваньня служыла крыніцай ўзбагачэньня польскага вяльможнага панства—абшарнікаў, ліхадзееў—купцоў і ўсіх іншых багачоў кравапійцаў, а потым захвачаная расійскім крывавым самаўладзтвам і ўсялякім чыноўніцтвам, якую адурманівалі і абманывалі з касьцельных амбонаў ксяндзы і з алтароў папы, якая была скована з ног да галавы ланцугамі няволі, цярпела праз увесь доўгі час зьдзекі і глумленьні і перажыла цяжкае ярмо нямецкай акупацыі, цяпер аслабаняецца ад векавой пакуты адважным наступам Чырвонай Арміі і пераходзіць да новага вольнага жыцьця, якое будуецца на асновах камунізму, на фундаманце міжнароднага адзінства працоўных.

Вялікая Кастрычнікавая Рэвалюцыя ў Расіі, зруйнаваўшы паганае панаваньне абшарнікаў, фабрыкантаў, ксяндзоў і папоў, панаваньне абману, няволі і прыгону,—залажыла фундамант новага ладу жыцьця з уладаю самаго працоўнага народу і, пачаўшы ад Расіі, яна запаліла сусьветны

агонь аслабаненьня працоўных ад прыгону цароў і капіталістых. Полымя гэтага агню з кожным днём, з кожным часам абыймае ўсё большыя прасторы, пераходзіць з аднэй краіны ў другую, адганяючы прэч ад працоўных масаў цёмру, неадукаванасьць, маўклівасьць і пакорнасьць, абуджае пачуцьцё да паўстаньня супроць прыгнятацеляў, заклікае да помсты і пагражае затапіць сабою ўсіх заклятых ворагаў вольнасьці і шчасьця—ворагаў рэвалюцыі, расчысьціць шырокі чырвоны шлях да панаваньня вольнай працы, да панаваньня камунізму, на фундаманце міжнароднага братэрскага адзінства працоўных усяго сьвету.

Чуючы і бачучы сваю нямінучую хуткую пагібель ворагі рэвалюцыі,—якая нясе рабочаму і беднаму селяніну, гэтым сапраўдным гаспадаром усяго жыцьця на зямлі, поўную ўладу над гэтым жыцьцём,—мятусяцца і выбіваюцца з сілаў нібы няпрытомныя, стараючыся як мага абманамі і подкупамі сабраць вакол сябе сілы, наваліцца на рэвалюцыю і задушыць яе грозны наступ.

Але дарэмны ўсе іх надзеі, прапашчы ўсе патугі. Магутны ўздым рэвалюцыйных хваляў, які руйнуе рабства, зьніштажае ўсялякую няволю і аслабаняе працоўны народ, ня сустрэне на сваім шляху ніякіх перашкодаў.

Рабочыя, сялянская бедната і чырвонаармейцы Беларусі!

Руйнуючы будову цяжкай няволі, асушаючы мора сьлёз і рэкі крыві, разьлітай на шырокіх прасторах гарамычнай Беларусі, разбуранай жудаснай вайною, узьнятай царамі і багацеямі ў сваіх інтарэсах і згубіўшай дарэмна мільёны рабочых і сялян—да Вас ідзе ў праменьнях сонца з прывітальным клічам аслабаненьне, нам нясе рэвалюцыя поўную ўладу і панаваньне.

Сумесна з працоўнымі народамі Расіі, Літвы, Украіны і Латвіі ад сёньняшняга дню і вы зьяўляецеся вольнымі і поўнапраўнымі гаспадарамі вольнай, незалежнай Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. Ад сёньняшняга дню Беларусь—Савецкая Рэспубліка—зьяўляецца Рэспублікаю працоўнага народу, рабочых, сялянскай беднаты і чырвонаармейцаў Беларусі.

Усе пасягаўшыя да гэтай пары на працоўную Беларусь буржуазныя прадажныя ўрады, урады прыгнятацелей—абшарнікаў, фабрыкантаў і купцоў, урады, якія падтрымлівае прадажнае духавенства, дзе-б іх улада яшчэ ня трымалася, ці будзе гэта паганая рада, ці нямецкая акупацыйная ўлада, ці польскія або ўкраінскія захватчыкі,—лічуцца ад гэтага часу скінутымі няіснуючымі і абвяшчаюцца з усімі сваімі ўдзельнікамі і аднадумцамі—злымі ворагамі вашымі і працоўных усяго сьвету; яны заслугоўваюць бязьлітаснай рэвалюцыйнай кары.

Уставайце ўсе на абарону Сацыялістычнай Савецкай Працоўнай Рэспублікі Беларусі, уставайце!

Няхай ад Усходу да Захаду, ад Поўначы да Поўдня прагучыць гэты прызыўны кліч на ўсім абшары Беларусі і падыме ўсіх да аднаго пралетараў і бедных сялян стаць пад чырвоны сьцяг сусьветнай рэвалюцыі, каб аб вашы загартаваныя шэрагі ў прах разьбіліся ўсе атакі цёмных сілаў ворагаў рэвалюцыі і беднага працоўнага народу. Хутчэй-жа да змогі, каб не засталі вас у бясклопатным спачываньні ўсе рыхтуючыяся да нападу на Савецкую Беларусь чорныя банды польскіх легіянэраў і пятлюраўскіх «самасьційнікаў», а таксама ідучыя ім у сьлед белагвардзейскія слугі саюзьнічэскага імпэрыялізму.

Да змогі!.. Да змогі!.. Да змогі!..

Імям—які цярпеўшай няволю, пакуту і зьдзекі Беларусі і ад гэтага дню вольнай Савецкай Беларусі, імям Чырвонай Арміі, імям Сацыяльнай Рэвалюцыі і сусьветнага міжнароднага сацыялізму Часовы Рабоча-Сялянскі Ўрад Беларускай Савецкай Незалежнай Рэспублікі, пастаўлены на пост рашэньнем апошняй канфэрэнцыі Камуністычнай партыі і воляю Саветаў Беларусі, абвяшчаем перад усім сьветам:

1. З гэтага моманту ўся ўлада на Беларусі належыць толькі Саветам Рабочых, Сялянскіх, Батрацкіх і Чырвонаармейскіх дэпутатаў.

2. Захаваўшаяся яшчэ дзе-небудзь на Беларусі ўлада нямецкіх, польскіх і ўкраінскіх акупантаў ад гэтага часу лічыцца скасаванай.

3. Прадажная буржуазная беларуская рада з яе так званымі «народнымі міністрамі» абвяшчаецца безабароннай законамі.

4. Усе законы, дагаворы, пастановы як рады і яе слугаў, так і нямецкай, польскай і ўкраінскай акупацыйнай ўлады лічацца скасаванымі, прыказы-ж, распараджэньні нямецкай ўлады, якія датычуць парадку выхаду нямецкіх салдатаў з Беларусі, захоўваюць сваю моц.

5. Ад гэтага моманту ўстанаўляецца на Беларусі рэвалюцыйны парадак, усе контр-рэвалюцыйныя выступленьні, а таксама патугі зрабіць пагромы, грабежства і гвалтаваньні будуць няшчадна карацца па ўсёй строгасьці рэвалюцыйных законаў.

7. Уся зямля абшарнікаў і буйных земляўласьнікаў, цэркваў, касьцёлаў і духавенства з усім жывым і мёртвым інвентаром, а таксама ўсе лясы, воды і нетры зямлі становяцца дабыткам працоўнага народу Беларусі.

8. Усе чыгункі, шляхі зносін: паштовыя, тэлеграфныя і тэлефонныя сеткі, фабрыкі, заводы і банкі абвяшчаюцца дабыткам рабочых і беднага сялянства Беларусі.

9. Мясцовыя Саветы мусяць ахоўваць народны дабытак ад пакражаў і псоты, прыцягваючы віноўных да адказнасьці.

10. Уводзіцца васьмігадзінны рабочы дзень, бяз зьверхурочных гадзін працы і адначасова ўваходзяць у сілу ўсе дэкрэты Расійскай Сацыялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікі па забесьпячэньні працоўнай клясы.

Чырвонай арміі, рабочым і сялянскай беднаце Беларусі мы, Часовы Рабоча-Сялянскі Ўрад Беларускай Савецкай Незалежнай Рэспублікі даручае абарону ўсіх гэтых вялікіх заваяваньняў Сацыяльнай Рэвалюцыі. Ён напамінае ўсім працоўным, што, абараняючы Савецкую Беларусь, яны абараняюць Савецкую Расію, абараняюць сусьветную Рэвалюцыю, інтарэсы працоўнага народу і сьветлую перамогу сусьветнага сацыялізму.

Няхай жыве аслабанёная працоўная Беларусь!

Няхай жыве Савецкая Расія!

Няхай жыве Сусьветная Рэвалюцыя!

Імям аслабанёнага Беларускага народу:

Старшыня Часовага Рэвалюцыйнага Рабоча-Сялянскага Ўраду Беларусі **Зьмітро Жылуновіч.**

Члены ўраду: **Алесь Чарвякоў** (Народн. Асьвета).
**Мясьнікоў** (Вайсков. Спраў).
**Ісаак Рэйнгольд** (Фінансы).
**Сямён Іванаў** (Унутран. Справы).

Гор. Менск,
1 студзеня 1919 г.

---

# ДЭКЛЯРАЦЫЯ

## аб абвяшчэньні незалежнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі.

Спакутаваная, змучаная Беларусь, краіна беларускіх, расійскіх, польскіх і яўрэйскіх рабочых і сялян, пры дапамозе адважнай расійскай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі заканчвае справу свайго вызваленьня. Чырвонае войска, разьбіваючы апошнія астаткі шляхэцкіх армій, падыходзіць да заходніх этнаграфічных межаў Беларусі. Рабоча-сялянскі народ Беларусі можа цяпер вызначыць свабодна свой лёс, формы далейшага свайго існаваньня, свае ўзаемаадносіны да суседзяў.

Арганізаваная рабочая кляса і працоўнае сялянства Беларусі (Камуністычная партыя Літвы і Беларусі, Беларуская Камуністычная арганізацыя, Усеагульны Яўрэйскі рабочы саюз «Бунд» і Цэнтральнае Бюро Прафэсыянальных Саюзаў г. Менска і Менскай губ.) грунтуючысь на волі працоўных масаў, выяўленай на першым зьезьдзе Саветаў Беларусі ў лютым 1919 г., ў шэрагу рэзалюцый і пастаноў павятовых Савецкіх Зьездаў і зьездаў рабочых і сялянскіх партый, ў поўнай згодзе з Чырвонай Арміяй і Рэволюцыйным Вайсковым Саветам заходняга фронту імям васстаўшых рабочых і сялян абвяшчаюць незалежную Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку Беларусі.

Імям працоўнага сялянства і рабочых масаў камуністычныя і рэвалюцыйна-сацыялістычныя рабоча-сялянскія арганізацыі Беларусі абвяшчаюць:

Што ўсе законы і пастановы польскай акупацыйнай ўлады аб аднаўленьні прыватнай ўласнасьці ў Беларусі—касуюцца.

Асноўныя палажэньні аб арганізацыі народна-гаспадарчага жыцьця, абвешчаныя 1-га студзеня 1920 г. у маніфэсьце Часовага Рабоча-Сялянскага Ўраду Беларусі, аднаўляюцца ў поўнай меры.

Яшчэ раз пацьвярджаецца, што права прыватнай ўласнасьці на зямлю касуецца назаўсёды. Права карыстаньня зямлёю атрымоўваюць усе грамадзяне (бяз розьніцы полу), якія жадаюць апрацоўваць яе самі пры дапамозе сваёй сям'і альбо ў таварыстве і толькі да тэй пары пакуль яны ў сілах зямлю апрацоўваць.

Усе народныя багацтвы пераходзяць у рукі дзяржаўных органаў рабоча-сялянскага народу.

У мэтах забесьпячэньня гарадзкога пралетарыяту ў ССРБ уводзіцца дзяржаўная хлебная манаполія, арганізуецца дзяржаўнае снабжэньне ўсяго працоўнага насельніцтва ўсімі прадметамі першай неабходнасьці, устанаўліваецца ўсебаковае сацыяльнае забесьпячэньне працоўных і поўнае ахоўваньне іх працы.

Рабоча-Сялянскія арганізацыі Беларусі імям вастаўшых працоўных масаў абвяшчаюць Беларускую «найвышэйшую раду» і ўсе белагвардзейскія, буржуазна-абшарніцкія ўрады Беларусі нізложанымі і падлягаючымі суду рабоча-сялянскага народу; усе ўрадавыя і клясавыя буржуазна-абшарніцкія ўстановы польскай акупацыйнай ўлады падлягаюць безадкладнаму затрыманьню і аддачэ пад суд ваенна-рэвалюцыйнага трыбуналу.

Адначасна рабоча-сялянскія арганізацыі Беларусі заяўляюць:

Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі вызначае сваю заходнюю мяжу па энтаграфічнай мяжы, паміж Беларусіяй і датыкаючыміся да яе буржуазнымі дзяржавамі. Мяжа Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі з Савецкімі Расіей і Украінай вызначаецца свабодным выяўленьнем волі Беларускага Народу на павятовых і губэрскіх зьездах Саветаў у поўнай згодзе з Урадам РСФСР і ССРУ.

Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі будуецца на прынцыпах бязьлітаснай дыктатуры пралетарыяту і выкарыстоўваньня ўсяго вопыту Савецкай Расіі.

Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі, знаходзячыся ва ўзаемаадносінах з Савецкай Расіяй, як роўная з роўнай, перадае на ўвесь час рэвалюцыйных войн усе свае ўзброеныя сілы пад загад адзінага камандаваньня ўзброенымі сіламі ўсіх Савецкіх рэспублік, а таксама заяўляе, што ўсе дыплёматычныя выступленьні ССРБ будуць узгоднены з выступленьнямі РСФСР і будуць мець на ўвазе агульныя інтарэсы ўсіх савецкіх рэспублік, пабудаваных на прынцыпах дыктатуры пралетарыяту.

Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі, якая знаходзілась на працягу доўгага часу ў цеснай сувязі з Расіей, павінна зараз прыступіць да ўстанаўленьня адзінага гаспадарчага пляну з РСФСР і іншымі Савецкімі рэспублікамі, якія ўжо існуюць, або будуць існаваць.

Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі будзе будаваць сваё жыцьцё на падставах уцягненьня ў Савецкае будаўніцтва самых шырокіх працоўных масаў да якой-бы нацыянальнасьці і вызнаньня яны не належалі.

Устанаўліваецца поўнае роўнапраўства моваў (беларускай, расійскай, польскай і яўрэйскай) у зносінах з дзяржаўнымі ўстановамі і ў арганізацыях і ўстановах народнай асьветы і сацыялістычнай культуры.

Аб'яднаўшыся вакол штандару ССРБ палітычныя і прафэсыянальныя арганізацыі ў поўнай згодзе з Чырвонай Арміяй і Рэвалюцыйным Ваенным Саветам Заходняга Фронту, аб'яўляюць, што да хвілі скліканьня свабодна абранага Зьезду Саветаў Рабочых і Чырвонаармейскіх дэпутатаў Беларусі, ўся поўнасьць ўлады ў ССРБ належыць Ваенна-Рэвалюцыйнаму Камітэту, у які Камуністычная Партыя Літвы і Беларусі дэлегіруе т.т. Чарвякова, Кнорына і Адамовіча, Усеагульны Яўрэйскі Саюз «Бунда»—т. Вайнштэйна і Беларуская Камуністычная Арганізацыя—т. Ігнатоўскага.

Аб'яднаўшыяся вакол штандару Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі арганізацыі заклікаюць усіх сьвядомых і чэсных грамадзян Беларусі напружыць усе свае сілы

для таго, каб падняць культурны ўзровень нашай краіны, наладзіць гаспадарку і пераможна закончыць вайну з адвечнымі ворагамі працоўнай Беларусі—польскімі шляхціцамі.

Няхай жыве Савецкая Сацыялістычная Беларусь!
Няхай жыве Фэдэрацыя Савецкіх Рэспублік!
Няхай жыве Сусьветная Рэвалюцыя!

За Цэнтральны Камітэт Камуністычнай Партыі Літвы і Беларусі—**І. Смілга, К. Кнорын, А. Чарвякоў.**

За Цэнтральны Камітэт Усеагульнага Яўрэйскага Рабочага Саюзу «Бунда» **А. Вайнштэйн.**

За Цэнтральны Камітэт Беларускай Камуністычнай Арганізацыі—**У. Ігнатоўскі.**

За Цэнтральнае Бюро Прафесыянальных Саюзаў г. Менска і Менскай губ.—**А. Крыніцкі.**

гор. Менск.
1920 г.

# ДЭКЛЯРАЦЫЯ

## 1-га Беларускага Зьезду Саветаў.

Рабочыя, сяляне, батракі і ўсе працоўныя Беларусі, скінуўшы з сябе панаваньне беларускіх абшарнікаў і кулакоў буржуазнай беларускай рады, вуснамі сваёй кіраўнічкі—Беларускай Камуністычнай Партыі абвясьцілі Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку, каб выявіць перад усім сьветам няўхільную волю Рабоча-Сялянскай Беларусі, накіраваную да канчатковага зьніштажэньня панаваньня капіталу і да ўстанаўленьня сацыялістычнага ладу. Рабочыя і сяляне Беларусі ў гэты-ж час ведаюць, што яны зьяўляюцца адным з атрадаў вялікай пралетарскай арміі, што бяз цеснага саюзу з рабочымі і сялянамі ўсіх савецкіх краін ім не закончыць будаўніцтва новага свабоднага жыцьця, не завершыць распачатых сацыялістычных рэформаў. Самавызначыўшаяся на руінах прыгоннай царскай Расіі Савецкая Беларусь прызнае неабходнасьць устанаўленьня цесных эканамічных і палітычных сувязей з сваім старшым братам—Расійскай Савецкай Рэспублікай, якая аказала Беларускай Рэспубліцэ грунтоўную дапамогу пры аднаўленьні яе разбуранай гаспадаркі. Грунтуючысь на гэтай воле міліёнаў беларускіх працоўных 1-ы Ўсебеларускі Зьезд Саветаў свабодна пастанаўляе: пачаць перагаворы з Расійскай Савецкай Рэспублікай аб устанаўленьні фэдэратыўнай сувязі паміж ёю і Савецкай Беларусьсю і выбраць дзеля гэтай мэты камісію, адказную перад выдзеленым праз Зьезд органам улады. Улічваючы разам з тым цесную сувязь і залежнасьць існуючую паміж рабочымі і сялянамі ўсіх частак былой Расійскай імпэрыі, Зьезд лічыць, што толькі свабодны дабравольны саюз працоўных усіх зараз незалежных Савецкіх

Рэспублік забясьпечыць перамогу рабочых і сялян у іх барацьбе з усім капіталістычным сьветам. Пагэтаму Зьезд зварочваецца да ўсіх братскіх незалежных сацыялістычных рэспублік з прапановай пайсьці па прыкладу рабочых і сялян Беларусі—прыступіць да перагавораў аб устанаўленьні фэдэратыўнай сувязі паміж Савецкай Расіяй і паміж сабою. Толькі аб'яднаўшысь у адну працоўную сям'ю рабочыя і сяляне ўсіх краін, дзе перамагла пралетарская рэвалюцыя, здолеюць пранесьці сацыялістычны штандар праз усю Эўропу і зьліцца ў адзіным Савецкім Саюзе з рабочымі і сялянамі—працоўнымі ўсяго сьвету.

гор. Менск.
1919 г.

## Пастанова Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту

### Аб прызнаньні незалежнасьці Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі.

Прэзыдыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту вітае працоўныя масы Беларусі, аслабаненьне якой ад заняцьця ўзброенымі сіламі імперыялістычных заваевацеляй амаль што скончана.

Выходзячы з прынцыпу поўнага і сапраўднага самавызначэньня працоўных масаў усіх краін, Прэзыдыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту яшчэ раз падцьвярджае, што факт належнасьці Беларусі, як і іншых знаходзячыхся ў такім-жа становішчы краін, да старой царскай імпэрыі, не ўскладае на яе ніякіх абавязкаў, выказваючы пры гэтым цьвёрдую ўпэўненасьць, што толькі цяпер, на грунце прызнаньня поўнай свабоды самавызначэньня і пераходу ўлады ў рукі рабочай клясы ўтвараецца дабравольны і непарушымы саюз працоўных усіх нацый, якія насяляюць тэрыторыю былой Расійскай імпэрыі. Прэзыдыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту вітае вызначаючэеся аб'яднаньне працоўных масаў Беларусі з працоўным народам Літвы, цесна зьвязаным з імі у сваім мінулым і эканамічнымі ўмовамі свайго існаваньня. Прэзыдыум Усерасійскага Цэтральнага Выканаўчага Камітэту заяўляе, аб гатоўнасьці РСФСР аказаць усялякую дапамогу і падтрыманьне працоўным масам Беларусі ў іх барацьбе супроць панаваньня эксплёатацыі і прыгону і ў абароне іх свабоды і незалежнасьці ад спробаў замежных заваявацеляў.

Старшыня Ўсерасійскага Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту—**Я. Сьвярдлоў.**
Сакратар—**А. Енукідзэ.**

1919 г.

## Рэзалюцыя 2 га Ўсебеларускага Зьезду Саветаў па дакладу аб Народнай Асьвеце.

На 2-м Усебеларускім Зьезьдзе Саветаў, які адбыўся ў Менску, у сьнежні 1920 году, па дакладу намесьніка Народнага Камісара Асьветы т. Фрумкінай, аб народнай асьвеце, была прынята наступная рэзалюцыя:

Зьезд з асобым задаваленьнем адзначае палітыку Савецкай ўлады ў справе асьветы беларускіх, яўрэйскіх і польскіх працоўных масаў. Толькі Савецкая ўлада толькі дыктатура пралетарыяту адчыняе працоўным усіх нацыянальнасьцяй магчымасьць шырокага разьвіцьця на іх роднай мове; разьвіцьця іх творчых сіл у галіне культуры. Толькі перамога пралетарыяту прыносіць прыгнечаным абяздоленым народам сапраўднае нацыянальнае роўнапраўства.

Аслабанёныя ад панскага прыгону рабочыя і сяляне Беларусі, маючы перад сабою вялікі прыклад Савецкай Расіі, з уздвоенай энэргіяй прымуцца цяпер за працу, каб нагарстаць страчанае ў галіне народнай асьветы. Векамі нашу краіну трымалі ў цемры ўгнетацелі ўсіх нацыянальнасьцяй.

Пры царскім рэжыме Беларусь належала да ліку самых адсталых краін і налічвала амаль найбольшы процант няпісьменных. Нямецкія і польскія акупанты, пад выглядам барацьбы з бальшавізмам, руйнавалі і выкаранялі народную школу. Духавенства ўсіх вызнаньняў спаборнічала адно з другім у натраўліваньні аднэй нацыянальнасьці супроць другой. Буржуазія ўсіх нацый хаотычна сьпяшалася зьнішчожыць усе сьляды нядоўгай яшчэ савецкай працы ў галіне асьветы, і ўзмацніць сваю духоўную ўладу над душою народных масаў.

Зруйнавана і матар'яльная форма школы. Школьныя будынкі разбураны, настаўнікі разьбегліся ад голаду і прасьледваньняў, школьны інвэнтар зьнішчожаны, значная частка дзіцячага насельніцтва засталася без даху над галавой.

Цяжкае ваеннае напружаньне ў першыя месяцы пасьля аднаўленьня Савецкай улады ў Беларусі, вайсковыя падзеі, што адбываюцца амаль на ўсёй тэрыторыі нашай Рэспублікі, зьвязаныя з новымі руйнаваньнямі і эвакуацыямі, не далі магчымасьці органам народнай асьветы Беларусі разьвіць нармальную працу ў справе адбудовы школы, выкарыстаць асеньні пэрыод для ўтварэньня кадраў школьных працаўнікоў, выданьня падручнікаў і сьпешнага рамонту школ. Цяпер, калі перад Савецкай Беларусьсю адчыняюцца перспэктывы мірнага будаўніцтва, на абавязку органаў народнай асьветы ляжыць: разьвіць максымум энэргіі, каб зьнішчожыць сьляды буржуазнай дыктатуры ў справе на-

роднай асьветы; аднавіць зруйнаваную працу 1-га пэрыоду Савецкае ўлады ў Беларусі і прыступіць да шырокай рэвалюцыйнай творчасьці ў галіне народнай асьветы.

У гэтай працы ў першую чаргу высоўваюцца наступныя задачы:

1. Усебаковая палітычная асьвета працоўных масаў, у асаблівасьці сялянства; уцягненьне іх у працэс савецкага будаўніцтва шляхам распаўсюджваньня ведаў аб савецкай працы, аб нашай вялікай барацьбе,—шляхам штодзённай агітацыі і прапаганды, шляхам ажыцьцяўленьня дэкрэту аб ліквідацыі няпісьменнасьці, утварэньня сеткі хатаў-чытальняў вандроўных лектараў, вандроўнага кінематографу і тэатру, шляхам арганізацыі народных сьвяткаваньняў і актыўнага ўдзелу ў праведзеньні рознастайных тыдняў. Пры гэтым як Камісарыят Асьветы, так і павятовыя органы народнай асьветы, біручы пад увагу асаблівую адсталасьць беларускай вёскі і вельмі значнае яе зруйнаваньне, павінны разьвіць максымум высілкаў дзеля задаваленьня культурна-асьветных патрэбаў вёскі і забясьпечаньня яе ўсім для гэтага неабходным: кнігаю, газэтаю, настаўнікамі вёсцэ і глухому мястэчку.

2. Бязьлітасная барацьба з усялякага роду расійскім і польскім шовінізмам і клерыкалізмам, якімі-б лёзунгамі яны ні прыкрываліся.

Сапраўднае праведзеньне ў жыцьцё аддзяленьня царквы ад дзяржавы і школы ад царквы.

3. Узмацненьне працы па праведзеньні асьветы сярод рабочых масаў. Аб'яднаньне культурна-асьветнай працы на грунце дэкрэтаў аб Галоўпалітасьвеце, які шчыльна злучае ў вадно: асьветную працу Наркамасьветы, партыі, прафсаюзаў і вайсковых арганізацый. Шырокае падтрыманьне камуністычнай працы сярод моладзі. Утварэньне ў горадзе і вёсцы сеткі клюбаў, школаў для падросткаў.

4. Утварэньне сеткі ўстаноў, якія-б ўсебакова абслугоўвалі культурныя патрэбы масаў на ўсіх мясцовых мовах, падрыхтоўка для гэтых устаноў—працаўнікоў асьветы і выданьне літаратуры на мясцовых мовах, прыцягненьне максымума камуністычных сіл для гэтай працы.

5. Насаджэньне прафэсыянальна тэхнічнай асьветы, пабудаваньня на абслугоўваньні жывых патрэбаў нашай краіны (сельская гаспадарка), апрацоўка сельска-гаспадарчых прадуктаў, лесаводзтва, апрацоўка дрэва, машынабудаўніцтва, электратэхніка, выраб і рамонт сельска-гаспадарчых прыладаў, далейшае разьвіцьцё Беларускага Дзяржаўнага Політэхнікуму і ўтварэньне пры ім рабоча-сялянскага вячэрняга тэхнікуму і шэрагу каротка-тэрміновых курсаў.

6. Утварэньне Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту з рабочым факультэтам пры ім, які-б даваў доступ да вышэйшай асьветы кожнаму пісьменнаму рабочаму і селяніну.

7. Сьпешны рамонт найбольшай колькасьці школьных будынкаў і дастаўка ім апалу, з прыцягненьнем да гэтай працы ўсяго насельніцтва як у выглядзе дабраахвотнай дапамогі (тыдзень дзіцяці, суботнікі), так і ў выглядзе працоўнай павіннасьці. Разьвіцьцё школьнага будаўніцтва ў вёсцы, апрацоўка і рассылка па мясцох узорных плянаў і матар'яльных сьметаў для школьных будынкаў, пры чым лескомам і земаддзелам прапануецца прыняць усе захады дзеля тэрміновага і бесьперашкоднага водпуску для гэтай мэты лесных матар'ялаў альбо адводу вучасткаў для загатоўкі гэтых матар'ялаў сіламі насельніцтва, праверка ўсіх памяшканьняў прыдатных пад школы, з мэтаю мажлівага аслабаненьня гэтых памяшканьняў пад культурна-асьветныя ўстановы.

8. Шырокая дапамога дзецям сялян, рабочых і беднаты, у асаблівасьці-ж пацярпеўшым ад злачынстваў белагвардзейцаў, утварэньне сеткі школьных хатаў, для чаго, у першую чаргу, прызначыць застаўшыяся абшарніцкія сядзібы; утварэньне сеткі школьных устаноў у горадзе і ў вёсцы.

9. Арганізацыя дзіцячага харчаваньня і ўтварэньне пры дапамозе працоўных—сеткі школьных сталовых. Арганізаваць гэтыя сталовыя, у першую чаргу, у найбольш пацярпеўшых гарадзкіх і вясковых пунктах.

10. Адкліканьне ўсіх школьных працаўнікоў Беларусі з устаноў, дзе гэтыя працаўнікі былі заняты не па сваёй спэцыяльнасьці, узбуджэньне хадайніцтва аб адкамандыраваньні школьных працаўнікоў Беларусі з шэрагаў Чырвонай Арміі ў распараджэньне Наркамасьветы Беларусі. Пашырэньне і рэарганізацыя існуючых і адчыненьне новых доўгатэрміновых курсаў для падрыхтоўкі працаўнікоў асьветы, а да хвілі выпуска працаўнікоў з гэтых курсаў, прыцягненьне пісьменнага насельніцтва (у тым ліку вучняў старшага ўзросту) да абавязковай асьветнай працы сярод рабочых і сялян.

11. Арганізацыя дапамогі працаўнікам асьветы, усебаковая апека аб утварэньні для іх, а таксама для курсантаў Наркамасьветы, мажліва спрыяючых умоў, прыцягненьне да гэтай справы насельніцтва і ўключэньне працаўнікоў асьветы і курсантаў ва ўдарныя групы па дастарчаньню харчоў і мануфактуры і г. д.

Праца сумесна з саюзам працаўнікоў асьветы і сацыялістычнай культуры па арганізацыі працаўнікоў асьветы і разьвіцьця іх палітычнага сьветапагляду і клясавай самасьвядомасьці.

12 Зьезд прапануе органам Улады Савецкай Беларусі распрацаваць у паасобных Наркаматах шэраг мерапрыемстваў у напрамку практычнага ажыцьцяўленьня прынятых пастаноў.

13. Зьезд заклікае ўсіх рабочых і сялян да актыўнага ўдзелу ва ўсёй гэтай працы.

Працоўныя масы Беларусі, якія вырваліся з цемры бяспраўя і векавога прыгону, з царскіх і панскіх засьценкаў,—пабудуюць сваімі рукамі сьветлыя харомы пралетарскай культуры.

Зьезд заклікае працаўнікоў асьветы аддаць усе свае сілы гэтай вялікай працы. Ён верыць, што працаўнікі асьветы здолеюць зьвязацца ў агульнай творчасьці і агульнай барацьбе—з працоўнымі ўсяго сьвету і што яны сваёй самаахвярнай працай ўнясуць долю ўдзелу ў вялікую справу барацьбы за пабеду камунізму і за вызваленьне ўсяго чалавецтва.

## Пытаньне аб народнай асьвеце Беларусі на лютаўскай сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саветаў Беларусі ў 1921 г.

### 1. Па пытаньні аб мясцовых мовах.

Пацьвярджаючы дэкрэт Савнаркому Літбела ад 1919 г. аб поўнай роўнапраўнасьці ўсіх мясцовых моваў, якімі ў межах ССРБ прызнаюцца мовы: беларуская, расійская, яўрэйская і польская, прымаючы цалком законадаўства РСФСР па пытаньнях асьветы нацыянальных меншасьцяй і пахваляючы палітыку Наркамасьветбел, накіраваную да сапраўднага наданьня ўсім нацыянальнасьцям Рэспублікі магчымасьці атрымліваць асьвету і выхаваньне, і разьвіваць сваю культуру на роднай мове, без усялякага прымусу да вучэньня на мовах чужых для іх,—ЦВК Беларусі прапануе Наркамасьветы зрабіць захады да ўзмацненьня працы на мове пераважнай большасьці працоўнага сялянства Беларусі—мове беларускай.

Наркамасьветы павінен у сваёй працы выходзіць з няўхільнай пэрспэктывы плянавага і паступовага пераходу ўстаноў, у якіх вучацца і выхоўваюцца дзеці беларусы, на іх матчыную беларускую мову выкладаньня. Да выкананьня гэтага заданьня прыступіць яшчэ ў бягучым годзе.

Дзеля гэтага Наркамасьветы павінен: разьвіць узмацнёную працу па падрыхтоўцы школьных працаўнікоў, якія-б маглі выкладаць на беларускай мове.

Апроч адчыненьня ў Менску курсаў, павінны быць яшчэ ў бягучым годзе адчынены курсы ў кожным горадзе. Павінны быць утвораны асобныя дадатковыя курсы беларус-

кай мовы для працаўнікоў асьветы ўсіх школаў, дзе вучацца дзеці-беларусы.

Інстытут Народнай Асьветы і трохгадовыя курсы ў Бабруйску і Барысаве павінны быць паступова ператвораны ва ўстановы, якія падрыхтоўваюць працаўнікоў асьветы на беларускай мове. Для падрыхтоўкі працаўнікоў на яўрэййскай, польскай і расійскай мовах павінны быць утвораны асобныя сэкцыі пры І. Н. А. і асобныя курсы.

Ва ўсіх школах ІІ-й ступены, курсах для падрыхтоўкі працаўнікоў, інструктарскіх курсах, спэцыяльных і вышэйшых навучальных установах ССР Беларусі, незалежна ад мовы выкладаньня ў іх, уводзіцца абавязковае выкладаньне беларускай мовы, як асобнага прадмету.

Наркамасьветы і яго органы, у прыватнасьці Дзяржвыдавецтва, павінны зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на выданьне літаратуры на мясцовых мовах. Выданьне-ж падручнікаў, дзіцячага журналу, навукова-папулярнай і палітычнай літаратуры на беларускай мове павінна быць пастаўлена як ударная задача.

Паліграфаддзел павінен зрабіць тэрмінова захады да забясьпечаньня гэтых выданьняў усім неабходным. На Дзяржвыдавецтва і літаратурна-выдавецкі аддзел ускладаецца абавязак што-тыдзень прадстаўляць у Прэзыдыум ЦВК справаздачу аб руху працы па выданьні навучальнай літаратуры на мясцовых мовах.

ЦВК асыгнуе дзесяць міліёнаў рублёў на ўтварэньне ў Менску Цэнтральнай Беларускай Бібліятэкі; Наркамасьветы даручаецца зьвярнуцца да Наркамасьветы РСФСР з хадайніцтвам аб выняцьці з кнігасховаў РСФСР кніг на беларускай мове, альбо такіх, якія маюць адносіны да розных галін беларускай навукі.

ЦВК асыгнуе пяць мільёнаў рублёў на набыцьцё кніг і навуковых дапаможнікаў для гэтай бібліатэкі; пяць мільёнаў на выдачу прэмій укладчыкам лепшых падручнікаў на беларускай мове; два міліёны ў распараджэньне Народнага Камісара Асьветы на выдачу дапамогаў тым літаратарам і вучоным, якія знаходзяцца ў становішчы, вымагаючым дапамогі, і якія працуюць на мясцовых мовах Беларусі.

**2. Аб задачах да павялічэньня колькасьці школьных працаўнікоў Беларусі.**

У выкананьне пастановы II Ўсебеларускага Зьезду Саветаў па пытаньні аб выняцьці культурных працаўнікоў Беларусі з установаў, дзе яны заняты не па сваёй спэцыяльнасьці, ЦВК пастанаўляе:

Утварыць пры Наркамасьветы тройку ў складзе прадстаўніка Прэзыдыуму ЦВК, Наркамасьветы і Наркампрацы па выняцьці культурных працаўнікоў з установаў.

Гэтакія-ж тройкі ўтварыць у паветах з прадстаўнікоў ад аддзелу нарасьветы, павятовага аддзелу працы і павятовага выканкому. У выпадку якіх-небудзь канфліктаў на гэтым грунце, прадстаўнікі заінтарасаванай ўстановы запрашаюцца на пасяджэньні тройкі з правам дарадчага голасу.

Узбудзіць хадайніцтва перад Рэвваенсаветам Рэспублікі аб адкамандыраваньні ў сьпешным парадку з шэрагаў Чырвонай Арміі—школьных працаўнікоў—ураджэнцаў Беларусі, для працы ў беларускіх школах.

Зьвярнуцца з хадайніцтвам да Наркамасьветы РСФСР аб адкамандыраваньні ў распараджэньне Наркамасьветбел школьных прцаўнікоў—ураджэнцаў Беларусі, якія знаходзяцца ў РСФСР у зьвязку з эвакуацыяй з Беларусі на працягу 1915—1920 г.г.

Зьвярнуцца з хадайнічаньнем да Савнаркому РСФСР аб дазволе Наркамасьветы БССР зьвярнуцца з адозвай да школьных і іншых культурных працаўнікоў—ураджэнцаў Беларусі, аб звароце іх з абшараў РСФСР у Беларусь для культурна-асьветнай працы і прасіць аб адпаведных распараджэньнях у сэнсе палёгкаў гэтым працаўнікам пры іх звароце ў Беларусь.

Асыгнаваць пяць міліёнаў рублёў у распараджэньне Наркамасьветбела на выдачу пад'ёмных тым культурным працаўнікам, якія зварочваюцца ў межы Беларусі.

Утварыць пры Каміссіі па рабочаму забясьпечаньню падкамісію ў складзе прадстаўнікоў ад Наркамхарчу, Наркамасьветы і Саюзу працасьветы па распрацоўцы пытаньня аб натуральным прэміраваньні школьных працаўнікоў Беларусі за асабліва напружаную працу, абавязаўшы гэтую падкамісію ўнесьці свае прапановы да 15-га лютага ў Савнарком.

### 3. Аб Унівэрсытэце.

ЦВК пахваляе ўсе мерапрыемствы Наркамасьветы ў справе ўтварэньня Дзяржаўнага Беларускага Унівэрсытэту.

### 4. Аб апале.

ЦВК пастанаўляе абавязаць Савнарком у самы кароткі тэрмін распрацаваць тэрміновыя мерапрыемствы аб забясьпечаньні апалам школ і дзіцячых установ Беларусі.

## Адозва ЦВК Беларусі да культурных працаўнікоў, ураджэнцаў Беларусі.

Таварышы!

З векавога беспраўя, з панскіх і царскіх засьценкаў паўстае працоўная рабоча-сялянская Беларусь, якая скінула з сябе ярмо буржуазнай дыктатуры і падняла над сабою штан-

дар Савецкай ўлады. Скінуты ланцугі, вораг—выгнаны. Трэба будаваць новае жыцьцё, трэба апладніць нашу родную беларускую зямлю свабоднай творчай працай. Трэба асьвяціць закінутую беларускую вёску і глухое мястэчка сьвятлом новых камуністычных ведаў.

Наша гаспадарка разбурана. Агнем і мячом пранеслася вайна па нашай бацькаўшчыне. Шэраг вёсак і мястэчак спалены, зруйнаваны. Разбураны школы, бібліатэкі. Акупанты вывязьлі ўсё цэннае. З другога боку мабілізацыі і эвакуацыі раскідалі па ўсёй РСФСР культурных працаўнікоў, Беларусі. Трэба ўсё пачынаць з пачатку ў цяжкіх умовах гаспадарчай разрухі ў разбуранай краіне.

Таварышы! Савецкая Беларусь, яе сялянства, яе пралетарыят, напружвае ўсе сілы, каб дагнаць Савецкую Расію, каб хутчэй аднавіць гаспадарку, справіцца з разрухай, каб перабудаваць усё жыцьцё Беларусі на камуністычных падставах. Нашая праца—трудная. Нам далёка яшчэ да тых дасягненьняў, да якіх прышла Савецкая ўлада РСФСР на працягу трох з паловай гадоў. Але мы ўжо бачым, мы ўжо адчуваем, што справімся з задачай, што з гонарам выйдзем з труднасьцьяй. На нашых зьездах і канфэрэнцыях савецкіх, прафесыянальных, партыйных і беспартыйных мы прыходзім да пераконаньня, што сялянства і пралетарыят Беларусі пачуў сябе гаспадаром і бадзёра робіць сваю гаспадарскую справу.

Таварышы! Аднэй з найвялікшых задач, якія стаяць перад намі, зьяўляецца народная асьвета. Нам трэба амаль з нічога ўтварыць для працоўных масаў усіх нацыянальнасьцяй Беларусі сетку школ, дзіцячых дамоў, садоў, бібліатэкаў, клюбаў, хатаў-чытальняў. Трэба шырока паставіць палітыка-асьветную працу сярод дарослых, пабудаваць сыстэму прафесыянальна-тэхнічнай асьветы, арганізаваць унівэрсытэт, разьвіць працу ў галіне мастацтва. І ўсё гэта будаваць у вялікім шырокім маштабе, не для паноў, буржуазіі і іх прысьпешнікаў, а для шырокіх масаў, для пралетарыяту, для сялянства.

У цеснай сувязі з задачамі асьветы стаіць пытаньне аб працы на ўсіх мясцовых мовах Беларусі, якімі згодна пастановы ЦВК Беларусі, прызнаны мовы: беларуская, расійская, яўрэйская і польская. Асабліва ў трудных умовах знаходзіцца праца на беларускай мове. Польскія паны і ксяндзы сілком навязвалі беларускаму селяніну польскую мову, а царскія чыноўнікі і папы ўводзілі праз гвалт русіфікацыю.

Разьвіцьцё беларускай культуры было затрымана. І цяпер у той частцы Беларусі, якая засталася за кардонам, ідзе праз гвалт полёнізацыя.

Дыктатура пралетарыяту адчыняе вольны шлях для культурнага разьвіцьця ўсіх тых народаў, культура якіх пры

буржуазным ладзе прыгнечвалася і прасьледвалася. Беларускі працоўны народ можа цяпер свабодна будаваць сваю культуру на роднай мове. ЦВК Саветаў Беларусі пацьвердзіў роўнапраўнасьць усіх мясцовых моваў Рэспублікі, даў загад Наркамасьветы Беларусі ў сваёй працы грунтавацца на няўхільнай пэрспэктыве плянавага і паступовага пераходу тых установ, дзе вучацца і выхоўваюцца дзеці беларусы— на матчыную беларускую мову. У сувязі з гэтым прымаецца шэраг мерапрыемстваў па падрыхтоўцы працаўнікоў асьветы, якія-б здужалі весьці ўсю працу на беларускай мове, працу па выданьню падручнікаў і па апрацоўцы тэрміналёгіі. Гэтакія-ж мерапрыемствы будуць прыняты і адносна працы на іншых мясцовых мовах—яўрэйскай і польскай.

Патрэбны сотні-тысячы культурных працаўнікоў, якія зьвязаны з краем, ведаюць яго прыроду, гаспадарку, гісторыю мову, і ў той-жа час могуць прыняць удзел ў камуністычным будаўніцтве. Аднак гастрэй і больш за ўсё адчуваецца патрэба ў працаўніках, якія-б маглі працаваць на мове беларускай. ЦВК Беларусі пастанавіў прыняць захады да звароту культурных працаўнікоў і асыгнаваць сродкі для выдачы пад'ёмных тым, якія зварочваюцца.

Таварышы! ўраджэнцы Беларусі: вучоныя, літаратары, школьныя парадаўнікі, наогул культурныя дзеячы!

Ваша аслабаніўшаяся бацькаўшчына кліча Вас да сябе. Яна заклікае Вас прылажыць сваю руку, узброеную вопытам Савецкай культурнай працы, да аднаўленьня бацькаўшчыны. Мы не абяцаем Вам покуль што больш спрыяючых, чымся ў цэнтры, ўмоў,—лепшых пайкоў і больш высокіх ставак. Магчыма Вам прыдзецца зпачатку цярпець нужду і недагоднасьці, але працоўныя масы Беларусі, якія рвуцца да сьвятла, не забудуць тых, хто пажадаў стаць удзельнікам іх вялікай творчасьці, дапамагчы ім выкаваць сьветлы меч іх новай культуры. Не саромцеся тыя, хто не зусім добра ўладае беларускай мовай. Тут сярод беларускага сялянства вы ўспомніце гэтую мову вашых дзіцячых гадоў і вывучэце яе, калі ў вас будзе да гэтага жаданьне.

Савнарком РСФСР дазволіў нам зьвярнуцца да вас з гэтай адозвай. Ён даў згоду на перавод культурных працаўнікоў, ураджэнцаў Беларусі, на падставе хадайніцтваў Наркамасьветы Беларусі, у распараджэньне апошняга. Асобы, якія жадаюць вярнуцца на бацькаўшчыну павінны паведаміць аб сабе Наркамасьветы Беларусі, які зробіць захады да адкамандыраваньня гэтых асоб. У паведамленьнях неабходна падаць весткі аб месцы службы, пэдагагічным і грамадзкім стажэ, аб мове на якой можа працаваць, аб складзе сям'і, а таксама і аб партыйнасьці.

Адносна камуністых Наркамасьветы ўзгодніць адкамандыраваньне з адпаведнымі партыйнымі інстанцыямі. Без папярэдніх зносін з Наркамасьветы Беларусі перавод магчымы толькі для школьных працаўнікоў—ураджэнцаў Беларусі, якія займалі пасады настаўнікаў ў школах Беларусі.

Мы верым, таварышы, што заклік, які накіравалі да вас працоўныя масы Беларусі, не застанецца без адказу.

Нам. Старшыні ЦВК ССРБ—**Я. Адамовіч**

Нам. Наркамасьветы Беларусі—**М. Фрумкіна.**

Сакратар ЦВК—**В. Ашмарын.**

---

## Пастанова 2-й Сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саветаў БССР.

VI СКЛІКАНЬНЯ.

### Аб практычных мерапрыемствах па правядзеньні нацыянальнай палітыкі.

РАЗЬДЗЕЛ І.

### Мерапрыемствы агульнага характару.

З мэтай наданьня працоўным БССР шырокіх магчымасьцяй у выкарыстаньні асноўных законаў БССР, на падставе якіх мовы націянальнасьцяй, што насяляюць тэрыторыю БССР, зьяўляюцца роўнапраўнымі, 2-я Сэсія ЦВК, ставячы сваёй задачай аб'яднаньне існуючага па гэтаму пытаньню законадаўства, а таксама далейшае яго разьвіцьцё, пастанаўляе:

1. Мовы ўсіх нацыянальнасьцяй якія жывуць на тэрыторыі Беларусі (беларуская, яўрэйская, расійская, польская), зьяўляюцца роўнапраўнымі.

2. З прычыны значнай перавагі ў БССР насельніцтва беларускай нацыянальнасьці, беларуская мова выбіраецца, як мова переважная для зносін паміж дзяржаўнымі, прафэсыянальнымі і грамадзкімі ўстановамі і арганізацыямі.

3. Кожнаму грамадзяніну БССР, да якой-бы нацыянальнасьці ён ні належаў, забясьпечваецца права і рэальная магчымасьць карыстаньня сваёй роднай мовай у яго зносінах з рознаго роду органамі і ўстановамі Рэспублікі і ў зносінах з ім, пры яго звароце ў гэтыя органы.

4. Побач з беларускай мовай, дзяржаўныя, грамадзкія і прафэсыянальныя ўстановы і організацыі ў сваіх зносінах з насельніцтвам карыстаюцца і другімі мовамі, ў залежнасьці

ад нацыянальнага складу насельніцтва, да якога яны звярачваюцца.

5. Мовай зносінаў органаў БССР з органамі СССР і іншых саюзных рэспублік—зьяўляецца мова расійская.

6. На зьездах, конфэрэнцыях, рознага роду пасяджэньнях, мітынгах і на розных сходах наогул, кожнаму грамадзяніну забясьпечваецца права свабодна карыстацца сваёй роднай мовай.

7. Адпаведна з паказанымі вышэй прынцыпамі, усе савецкія, прафэсыянальныя і грамадзкія арганізацыі і ўстановы павінны дастасаваць свае апараты да сапраўднага абслугоўваньня нацыянальных асаблівасьцяй насельніцтва.

Дзеля гэтай мэты Наркоматы БССР пераводзяць свае дзелаводзтва на беларускую мову ў наступныя тэрміны:

а) на працягу аднаго году: 1) Кіраўніцтва Справамі ЦВК; 2) Кіраўніцтва Справамі Савнаркому; 3) Наркамасьветы і 4) Наркамзем;

б) на працягу 2-х гадоў: 1) Нар. Кам. Унутраных Спраў; 2) Наркам'юст; 3) Упаўнаважаны Нар. Кам. Пошт і Тэлеграфу ў тэй частцы яго органаў, якія абслугоўваюць непасрэдна сельскае насельніцтва і 4) Нар. Кам. Сац. Забясьпекі.

в) на працягу 3-х гадоў: 1) Нар. Кам. Аховы Здароўя; 2) Наркамфін—мясцовыя органы; 3) Наркамваен—мясцовыя органы і 4) усе іншыя савецкія ўстановы і арганізацыі БССР.

Увага 1-я: Парадак і каляндарны плян пераходу дзелаводзтва на беларускую мову ў розных органах і ўстановах распрацоўвае само ведамства, аднак, з такім разьлікам, каб у першую чаргу перавесьці на беларускую мову тыя свае органы, установы і арганізацыі, якія непасрэдна сутыкаюцца з беларускім насельніцтвам.

Увага 2-я. Пры пераводзе дзелаводзтва на беларускую мову неабходна мець на ўвазе забясьпечаньне на падставе п. 3 гэтай пастановы, права і рэальнай магчымасьці кожнаму грамадзяніну карыстацца мясцовымі мовамі ў яго зносінах з рознымі органамі і ўстановамі Рэспублікі.

8. Усе документы публічна-праўнага характару, а іменна: пасьведчаньні, выпіскі з актаў грамадзянскага стану і інш. выдаюцца і друкуюцца на мовах беларускай і аднэй з трох роўнапраўных моваў.

Увага: Дакумэнты агульна-саюзнага значэньня выдаюцца з тэкстам на беларускай і расійскай мовах.

9. Штампы дзяржаўных установаў і арганізацый робяцца з тэкстам на 4-х мовах (беларускай, расійскай, яўрэйскай і польскай), пячаткі-ж—на беларускай мове.

10. Асноўныя законы Рэспублікі друкуюцца, хаваюцца і прад'яўляюцца да карыстаньня на чатырох паказаных мовах;

усе іншыя законадаўчыя пастановы і акты публікуюцца, хаваюца і прад'яўляюцца для карыстаньня на мовах беларускай і расійскай.

Увага: У выпадку неабходнасьці, законадаўчыя акты і ўстановы распублікоўваюцца на ўсіх 4-х мясцовых мовах.

11. Для кожнага супрацоўніка савецкіх, прафэсыянальных і грамадзкіх арганізацый і ўстаноў, веды беларускай і расійскай мовы абавязковы, а для пэўнай колькасьці супрацоўнікаў, апрача гэтых моваў,—яшчэ дадатковыя веды яўрэйскай альбо польскай мовы.

Увага 1-я: Колькасьць супрацоўнікаў, абавязаных ведаць яўрэйскую ці польскую мову, а ў мясцовасьцях са значнай колькасьцю латыскага ці украінскага насельніцтва—і гэтыя мовы,—вызначаецца акруговымі выканаўчымі камітэтамі.

Увага 2-я: Гэты артыкул стасуецца да ўсіх служачых за выключэньнем асобаў фізычнай працы ва ўстановах.

12. Супрацоўнікі дзяржаўных, грамадзкіх і прафэсыянальных устаноў і арганізацый, якія не ўладаюць беларускай і расійскай мовамі, а таксама і тыя супрацаўнікі, якія згодна артыкулу 11 гэтае пастановы і ўваг да гэтага артыкулу, павінны ўладаць аднэй з моваў нацменшасьцяй, паказаных у гэтым артыкуле, на працягу тэрмінаў, якія адзначаны ў артыкуле 7 гэтага разьдзелу, павінны вывучыць гэтыя мовы.

13. Пасьля сканчэньня тэрмінаў, паказаных у артыкуле 7, грамадзяне, якія не задавальняюць запатрабаваньняў артыкулу 11 і ўваг да яго ня могуць быць прыняты на службу ў дзяржаўныя, грамадзкія і прафэсыянальныя ўстановы і арганізацыі БССР.

Увага 1-я: Выняткі з гэтага артыкулу могуць праводзіцца на падставе асобнага ў кожным паасобным выпадку, дазволу: а) у цэнтры—камісара, альбо загадчыка цэнтральнай установай; на мясцох—старшынёй акруговага выканаўчага камітэту.

Супрацоўнікі, якія паступілі на службу без ведаў беларускай і расійскай мовы, а ў вызначаных у артыкуле 11 выпадках, без ведаў яўрэйскай або польскай мовы, павінны вывучыць іх на працягу 6-ці месяцаў ад дню паступленьня на службу.

Увага 2-я: Пры прыёме на службу і ажыцьцяўленьні запатрабаваньня артыкулу 7 гэтай пастановы, ад супрацоўнікаў устаноў вымагаюцца веды толькі паказаных у гэтым артыкуле моваў, незалежна ад таго да якой нацыянальнасьці належыць супрацоўнік.

14. Для фактычнага выкананьня ўсіх вышэй азначаных мерапрыемстваў прапанаваць усім ведамствам і арганізацыям:

а) арганізаваць курсы для служачых па вывучэньні беларускай мовы і б) падрыхтаваць адпаведны склад штатных супрацоўнікаў для абслугоўваньня грамадзян, якія жывуць у БССР.

15. Даручыць Прэзыдыуму ЦВК БССР мець сталы няўпынны дагляд за выкананьнем азначаных пастаноў.

## РАЗЬДЗЕЛ II.

### Аб мерапрыемствах у галіне народнай асьветы БССР.

У мэтах забясьпечаньня за насельніцтвам БССР права выхоўваць і навучаць сваіх дзяцей на роднай іх, матчынай мове, а таксама для найбольшага разьвіцьця культур нацыянальнасьцяй, што насяляюць БССР, 2-я Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР пастанаўляе:

1. Навучаньне і выкананьне ва ўсіх установах сацыяльнага выхаваньня і профтэхнічнай асьветы, а таксама і абслугоўваньне ўсіх іншых культурна-асьветных патрэбаў насельніцтва, павінна адбывацца на іх роднай матчынай мове.

2. Мовы беларуская і расійская—першая, як мова большасьці насельніцтва БССР і другая, як мова, якая мае агульнае саюзнае значэньне,—зьяўляюцца абавязковымі прадметамі выкладаньня ва ўсіх навучальных установах БССР.

3. Правядзеньне беларусізацыі культурна-асьветных установў далучыўшыхся частак Гомельскай, Віцебскай, Смаленскай губэрніяў, з мэтай іх выраўнаньня па Меншчыне, дзеля забясьпечаньня нармальнага нацыянальнага разьвіцьця беларускага насельніцтва ў далучыўшыхся частках, павінна ісьці няўхільна, пастулова і пасьлядоўна.

4. Тэрмін завяршэньня беларусізацыі, а таксама пераводу ўсіх культурна-асьветных установў на родныя мовы групаў насельніцтва, якія абслугоўваюцца гэтымі ўстановамі, вызначыць па ўсёй сучаснай Беларусі:

а) для ўстаноў па сацыяльнаму выхаваньню 3 гады;

б) для ўстаноў па прафтэхнічнай асьвеце і палітыка-асьветных—5 гадоў.

Увага: Дзеля паасобных установў тэрмін гэты можа быць скарочаны паводле погляду Народнага Камісарыяту Асьветы.

5. У паказаны ў артыкуле 4 пэрыод часу неабходна ўжыць усе захады да плянамернай перападрыхтоўкі і падрыхтоўкі культурна-асьветных працаўнікоў, якія могуць абслугоўваць культурна-асьветныя ўстановы, што працуюць на мовах насельніцтва, якое імі абслугоўваецца, і забясьпе-

чаньня іх патрэбнымі вучэбнымі падручнікамі і дапаможнікамі.

6. Даручыць Народнаму Камісарыяту Асьветы ў 1924-25 навучальным годзе правесьці наступныя мерапрыемствы:

### А. У галіне сацыяльнага выхаваньня.

а) Увесьці беларускую мову, як абавязковы прадмет вывучэньня, ва ўсіх тыпах школ сацвыху;

б) камплектаваньне ўстаноў сацыяльнага выхаваньня рабіць у далейшым кіруючыся строга языковымі асаблівасьцямі дзяцей;

в) перавесьці выхоўваньне і навучаньне дзяцей на беларускую мову ў дзіцячых садох і першыя гады навучаньня ў працоўных школах, дзе вучацца дзеці беларускай нацыянальнасьці;

г) у існуючых-жа ўстановах, якія маюць рознанацыянальны дзіцячы склад, неабходна шляхам рэарганізацыі імкнуцца да максымальнага забясьпечаньня выхаваньня і навучаньня на роднай мове;

д) працягваць далей беларусізацыю сямігадовых школ Меншчыны шляхам пераводу выкладаньня ў старшых клясах на беларускую мову;

е) сумесна з саюзам Працасьветы зрабіць перагрупоўку пэдагагічнага пэрсаналу з такім разьлікам, каб усе школы-сямігодкі і вопытна-паказальныя школы з пераважнай колькасьцю дзяцей беларускай нацыянальнасьці,—былі забясьпечаны беларусазнаўцамі;

ж) азнаёміць настаўнікаў і іншых культурна-асьветных працаўнікоў установаў Сацвыху—з беларускай мовай, шляхам арганізацыі каротка-тэрміновых курсаў беларусазнаўства, рассылкі ў кожную ўстанову навучальнай і пэдагагічнай літаратуры на беларускай мове;

з) забясьпечыць установы сацыяльнага выхаваньня школьнымі і падручнікамі дапаможнікамі на роднай мове дзяцей, якія абслугоўваюцца гэтымі ўстановамі.

### Б. У галіне прафтэхнічнай асьветы.

а) Ва ўсіх прафтэхнічных навучальных установах увесьці беларускую мову, як прадмет выкладаньня;

б) на рабфаках, у сельска-гаспадарчых і пэдагагічных тэхнікумах увесьці абавязковае вывучэньне беларускай літаратуры,—гісторыі і геаграфіі Беларусі;

в) пры вышэйшых навучальных установах заснаваць спэцыяльныя катэдры па вывучэньні Беларусі (гісторыі, геаграфіі, мовы, літаратуры, эканомікі і інш.:

г) ва ўсіх вышэйшых навучальных установах заснаваць спэцыяльныя катэдры па вывучэньні Беларусі (гісторыя, ге-

аграфія, мова, літаратура, эканоміка, прыродная асаблівасьці і багацтва краіны, быт і гісторыя нацыянальнасьцяй, якія насяляюць Беларусь); Апроч таго на Пэдфаку БДУ арганізаваць спэцыяльныя сэктары, якія-б падрыхтоўвалі працаўнікоў для яўрэйскіх і польскіх культурна-асьветных установ;

д) пры прыёме ў вышэйшыя навучальныя ўстановы і тэхнікумы патрабаваць веды беларускай мовы.

Увага: Дазволіць НКА ў выпадках неабходнасьці дапушчаць у бягучым навучальным годзе паасобныя асобы альбо групы паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы і тэхнікумы без ведаў беларускай мовы, з абавязковым вывучэньнем аднак гэтае мовы ў самой навучальнай установе на працягу першага акадэмічнага году.

е) Пашырыць працу Інстытуту Беларускай Культуры і ўжыць усе захады да сканчэньня апрацоўкі ў 1924-25 навучальным годзе беларускай навуковай тэрміналёгіі і расейска-беларускага акадэмічнага слоўніка;

ж) пры назначэньні на вакантныя катэдры прафэсароў, выкладчыкаў, асыстэнтаў, ардынатараў і інш. навуковых супрацаўнікоў вышэйшых навучальных установ, пры усіх роўных умовах перавагу аддаваць асобам, якія ведаюць беларускую мову.

### В. У палітыка-асьветнай галіне.

а) Забясьпечыць хаты-чытальні, народныя дамы, клюбы і бібліятэкі літаратурай на беларускай мове і на мовах іншых нацыянальнасьцяй, у залежнасьці ад нацыянальнага складу насяльніцтва;

б) увесьці ва ўсіх партыйных школах, вячэрніх школах для дарослых, школах рабочай і сялянскай моладзі выкладаньне беларускай мовы, гісторыі і географіі Беларусі, паводле праграм, выпрацаваных Наркамасьветы, стасоўна да кожнай навучальнай установы паасобку;

в) прыстасаваць мастацкую і музыкальную школы, па аднэй на Беларусь, для вывучэньня і распрацоўкі беларускага мастацтва і беларускай музыкі, адначасова з гэтым НКА распрацоўвае пытаньне аб формах арганізацыі мастацкага і музычнага выхаваньня працоўных іншых нацыянальнасьцяй;

г) зьвярнуць увагу на далейшае разьвіцьцё Беларускага Дзяржаўнага Тэатру і Беларускай Студыі ў Маскве і ўжыць захады ад забясьпечаньня іх арыгінальным, мастацкім і рэвалюцыйным рэпэртуарам.

д) зьвярнуць увагу на разьвіцьцё беларускага аддзяленьня Пралеткіно, якому належыць выдаваць кіно-фільмы, якія адбіваюць гісторыю рэвалюцыі ў Беларусі, жыцьцё і культуру паасобных нацыянальнасьцяй БССР, а таксама прыняць

захады да пераводу надпісаў на карцінах—на беларускую мову.

Г. У галіне выдавецтва.

а) Абавязаць Прэзыдыум ЦВК зрабіць усе захады да забясьпечаньня культурна-асьветных установ падручнікамі, вучэбнымі дапаможнікамі і літаратурай для вучняў на ўсіх мясцовых мовах, прапарцыянальна патрэбе, узгадняючы гэтую працу з выдавецтвам іншых саюзных рэспублік;

б) пашырыць выданьне марксыцкай і папулярнай палітыка-асьветнай літаратуры для рабочых і сялян на мясцовых мовах;

в) сумесна з саюзам Працасьветы распачаць выданьне кіруючага часопісу для працаўнікоў народнай асьветы;

г) сумесна з КСМ выдаваць часопіс для дзяцей малодшага веку на беларускай мове.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

За сакратара **У. Ігнатоўскі.**

15 ліпеня 1924 г.

---

# Пастанова Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускай ССР.

*Па дакладу Нацыянальнай Камісіі ЦВК БССР 10 ліпеня 1925 году*

1. Адзначаючы некаторую агульную працу па правядзеньні ў жыцьцё пастановы 2-й Сэсіі ЦВК БССР VI-га скліканьня па нацпалітыцы, прызнаць што рашэньні гэтай Сэсіі выкананы невыстарчальна ў галіне беларусізацыі апаратаў савецкіх, прафэсыянальных і грамадзкіх установ і арганізацый.

2. Канстатаваць, што беларусізацыя апаратаў азначаных установ праходзіла ва ўмовах:

а) не зусім сьвядомых, а ў некаторых выпадках нязычлівых адносін часткі супрацоўнікаў ўстаноў да беларускай мовы, што тлумачыцца часткова астаткамі вялікадзяржаўных настрояў;

б) адсутнасьцю плянавасьці і сыстэматычнасьці ў вывучэньні супрацоўнікамі ўстаноў беларускай мовы.

3. Прымаючы пад увагу, што ўсе гэтыя прычыны суб'ектыўнага характару, могуць быць ізжыты пры адпаведнай ўвазе кіраўнікоў установ і арганізацый і пры належнай сьвядомасьці супрацоўнікаў аб неабходнасьці беларусізацыі, Прэ-

зыдыум ЦВК прапануе ўсяму кіруючаму складу савецкіх і грамадзкіх установ і арганізацый узмацніць працу па практычнаму правядзеньню нацпалітыкі.

4. Паказаць усім установам і арганізацыям на неабходнасьць пераходу апаратаў на беларускую мову ў тэрміны, якія вызначаны 2-й Сэсіяй ЦВК БССР VI скліканьня, адказнасьць за поўнае і своячасовае выкананьне ўсіх пастаноў па нацпалітыцы скласьці пэрсанальна на кіраўнікоў установ і арганізацый.

5. Побач з правядзеньнем ў жыцьцё практычных мерапрыемстваў па беларусізацыі апаратаў прапанаваць усім установам і арганізацыям у сваёй штодзеннай працы аддаваць ня меньшую ўвагу правядзеньню практычных мерапрыемстваў, забясьпечваючых усім нацыянальнасьцям мажлівасьць карыстаньня сваёй роднай мовай пры зносінах з рознымі органамі і ўстановамі Рэспублікі.

6. Лічыць неабходным зрабіць праверку ведаў беларускай мовы супрацоўнікамі ўстаноў і арганізацый. Гэтую праверку ў першую чаргу зрабіць у наступных установах: у Кіраўніцтве Спраў ЦВК і СНК БССР, сакратарыятах і прэзыдыумах акрвыканкомаў, у Наркамземе і акруговых зямельных аддзелах, Наркамасьветы, акруговых аддзелах народнай асьветы і раённых выканаўчых камітэтах. Усю працу па праверцы скончыць не пазьней 1-га студзеня 1926 г. і аб выніках далажыць Прэзыдыуму ЦВК БССР.

7. Практычную працу па праверцы беларусізацыі супрацоўнікаў рабіць шляхам арганізацыі асобных камісій пад кіраўніцтвам Нацыянальнай Камісіі ЦВК, апошняй даручыць таксама ўлажыць парадак і каляндарны плян працы па азначанай вышэй праверцы.

8. Прызнаць, што супрацоўнікі органаў і ўстаноў сярод якіх будуць заўважаны адмоўныя адносіны да беларусізацыі, могуць быць адміністрацыяй гэтых органаў і ўстаноў звольнены з займаемых гэтымі супрацоўнікамі пасадаў. Азначаныя супрацоўнікі могуць быць зноў прыняты на службу толькі пасьля выстарчальнага вывучэньня імі беларускай мовы.

9. Абавязаць усе органы і ўстановы шырока садзейнічаць самадзейнасьці супрацоўнікаў у справе вывучэньня беларускай мовы, выдзяляючы для гэтага ў неабходных выпадках патрэбныя сродкі.

10. Лічыць неабходным арганізаваць пры акрвыканкомах нацыянальныя камісіі.

Гэтыя камісіі павінны складацца з старшыні акрвыканкому і 4-х асоб пэрсанальна выдзяленых прэзыдыумам акрвыканкому.

11. Даручыць Народнаму Камісарыяту Асьветы зрабіць захады: да ўпарадкаваньня і ўзмацненьня працы па наву-

чаньні супрацоўнікоў арганізацый і ўстаноў—беларускай мове; да павялічэньня ліку выданьняў адпаведных беларускіх падручнікаў і літаратуры і да ўзмацненьня рэгулярнага інспэкцыйнага дагляду за якасным бокам навучаньня беларускай мове.

12. Даручыць Дзяржвыдавецтву ў тыднёвы тэрмін прыступіць да выданьня акадэмічных слоўнікаў—беларускага і расійскага-беларускага.

13. Прапанаваць Наркамасьветы і Інбелкульту ўзмацніць тэмп працы па ўкладаньні на беларускай мове тэрміналёгічных слоўнікаў дзеля паасобных галін навукі.

14.Нацкамісіі ЦВК даручаецца мець сталы неаслабны нагляд за выкананьнем усіх пастаноў па ажыцьцяўленьні нацпалітыкі.

Старшыня ЦВК БССР **А. Чарвякоў.**

За Сакратара ЦВК БССР **А. Хацкевіч.**

---

## Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Комісараў БССР.

*Аб парадку праверкі выкананьня рашэньняў 2-ой Сэсіі ЦВК БССР VI-га склікаyньня ад 15-га ліпеня 1924 г. у частцы правядзеньня беларусізацыі апаратаў савецкіх і каапэратыўных арганізацый і ўстаноў БССР*

Дзеля таго, што прадугледжаны пунктам 1-м разьдзелу 1-га пастановы 2-й Сэсіі ЦВК БССР VI-га склікаyньня тэрмін пераходу на беларускую мову апаратаў. Сакратарыяту ЦВК, Кіраўніцтва Спраў Савету Народных Камісараў, Народнага Камісарыяту Асьветы і Народнага Камісарыяту Земляробства скончыўся 15-га ліпеня 1925 году; Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў, Народнага Камісарыяту Юстыцыі, Народнага Камісарыяту Сацыяльнай Забясьпекі і Ўпаўнаважанага Наркам. Пошты і Тэлеграфу—15 ліпеня 1926 году, а ўсіх іншых ведамстваў, арганізацыяў і ўстаноў тэрмін пераходу дзелаводзтва на беларускую мову канчаецца 15 ліпеня 1927 году,—Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляюць:

1. Праверыць ў двух месячны, з дню апублікаваньня гэтай пастановы, тэрмін фактычнае выкананьне вышэй паказанае пастановы 2-й Сэсіі ЦВК БССР VI-га склікаyньня аб пераходзе на беларускую мову дзелаводзтва ў тых цэнтральных установах і арганізацыях і іх мясцовых органах, для якіх тэрмін пераходу ўжо скончыўся.

2. Праверыць да 1-га студзеня 1927 году ступень падрыхтаванасьці і правадзімыя мерапрыемствы да пераходу на беларускую мову дзелаводзтва ва ўсіх тых цэнтральных установах і арганізацыях і іх мясцовых органах, тэрмін пераходу якіх на беларускую мову канчаецца 15 ліпеня 1927 г.

3. Адначасова і ў тыя самыя тэрміны ў паказаных у пунктах 1 і 2 гэтае пастановы ўстановах і арганізацыях праверыць ступень прыстасаванасьці іх для абслугоўваньня іншых нацыянальнасьцяў на іх роднай мове (яўрэйскай, польскай, расійскай).

4. У працу па праверцы ўваходзіць:

а) высьвятленьне дзейнасьцяў і мерапрыемстваў, прадпрынятых кіраўнікамі ўстаноў і арганізацыяў да ажыцьцяўленьня правядзеньня беларусізацыі і прыстасаваньня апаратаў да абслугоўваньня іншых нацыянальнасьцяў БССР;

б) праверка ступені ведаў і вывучэньня супрацоўнікамі ўстаноў і арганізацыяў беларускай мовы;

в) праверка ступені фактычнай забясьпечанасьці апаратаў устаноў і арганізацый працаўнікамі, якія ведаюць мову іншых нацыянальнасьцяй БССР;

г) праверка выкананьня адміністрацыяй ўстаноў і арганізацый пункту 13, разьдзелу 1-га пастановы 2-й Сэсіі ЦВК БССР VI-га скліканьня аб няпрыйманьні на службу ў дзяржаўныя і каапэратыўныя ўстановы і арганізацыі, тэрмін беларусізацыі апаратаў якіх ужо скончыўся, асоб не ўладаючых беларускай і расійскай мовамі, а ў неабходных выпадках мовамі іншых нацыянальнасьцяй. (Гл. пункт II-гі і ўвагу да яго ў разьдзеле 1-шым пастановы 2-й Сэсіі ЦВК БССР VI-га скліканьня);

д) праверка выкананьня ў цэнтры і на мясцох пункту 9-га, раздзелу 1-га пастановы 2-й Сэсіі ЦВК БССР VI-га скліканьня аб штампах і пячатках і пастановы Савету Народных Камісараў БССР ад 25 сьнежня 1924 году аб шыльдах і надпісах у дзяржаўных, прафэсыянальных і грамадзкіх установах і арганізацыях.

5. Праверцы ведаў беларускай мовы падлягаюць усе без выключэньня працаўнікі разумовай працы, незалежна ад займаемых імі пасад, працуючыя ў ведамствах, установах, арганізацыях, гаспадарчых, гандлёвых і прамысловых прадпрыемствах БССР.

Увага 1. Рабочыя непасрэдна занятыя ў вытворчасьці і асобы фізычнае працы, якія абслугоўваюць ведамствы, установы, арганізацыі і прадпрыемствы ў якасьці пасланцоў, прыбіральнікаў, вартаўнікоў, фурманоў, канюхоў, шофэраў і чорнарабочых,—праверцы ведаў беларускай мовы і іншых не падлягаюць.

*Увага* 2. Асобы, якія заняты па найму ў гандлёвых і прамысловых арганізацыях і ўстановах і не падыходзяць пад катэгорыі, пералічаныя ва ўвазе 1-й да пункту 5-га гэтае пастановы (прадаўцы, прыказчыкі, агенты, закупшчыкі, дзесятнікі і ім падобныя) праверцы падлягаюць.

*Увага* 3. Парадак праверкі рабочых і сялян выбраных, альбо ў парадку вылучэнства прызначаных на службу ў савецкія і каапэратыўныя арганізацыі і ўстановы, а таксама ўмоваў вывучэньня імі беларускае мовы, устанаўляецца асобнай інструкцыяй Нацкамісіі ЦВК БССР.

6. Праверка праводзіцца спэцыяльнымі праверачнымі камісіямі, якія арганізуюцца для цэнтральных устаноў і арганізацый—Камісіей ЦВК БССР па ажыцьцяўленьні нацыянальнай палітыкі, а для акруговых, раённых і сельскіх устаноў і арганізацый—акруговымі нацкамісіямі.

7. У склад камісій па праверцы цэнтральных устаноў і арганізацый уваходзяць: упаўнаважаны Нацкамісіі ЦВК (як старшыня праверачнай камісіі) прадстаўнікі: Народнага Камісарыяту Працы, Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, адміністрацыі правяраемай установы ці арганізацыі і адпаведнага мясцкому.

У такім самым парадку з прадстаўніцтвам акруговых устаноў і арганізацый утвараюцца камісіі па праверцы акруговых устаноў і арганізацыяў.

8. У склад камісіі па праверцы раённых устаноў і арганізацый уваходзяць: прадстаўнік акруговай нацкамісіі (як старшыня праверачнай камісіі), прадстаўнік раённага выканаўчага камітэту і прадстаўнік мясцовых прафарганізацый.

Гэтая самая камісія праверае усе ўстановы і арганізацыі на абшары ўсяго раёну.

9. З мэтаю найбольшай пасьпяховасьці і дакладнасьці праверкі, праверачныя камісіі прыцягваюць да свае працы, у меру патрэбы, кампэтэнтных асоб і знаўцаў.

10. У сваёй працы праверачныя камісіі кіруюцца інструкцыямі, распараджэньнямі і паказаньнямі Нацкамісіі ЦВК БССР.

11. Вынікі праверкі цэнтральных устаноў і арганізацый і сваё заключэньне праверачная камісія запісвае ў пратакол, які прадстаўляе на зацьверджаньне Нацкамісіі ЦВК БССР. Пастановы апошняй зьяўляюцца канчатковымі і безадкладна праводзяцца ў жыцьцё ўсімі ўстановамі і арганізацыямі, якіх яны датычаць.

12. Вынікі праверкі, акруговых, раённых і сельскіх устаноў і арганізацый праверачныя камісіі ў пратакольным выглядзе, разам з сваім заключэньнем і заключэньнем адпаведнага райвыканкому, прадстаўляюць на разгляд акруговых

нацкамісій, пастановы якіх уваходзяць ў моц і падлягаюць неадкладнаму выкананьню па зацьверджаньні іх прэзыдыўмам акрвыканкому.

Пастанова прэзыдыуму акрвыканкому можа быць адменена, альбо зьменена Прэзыдыўмам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, па прадстаўленьні Цэнтральнай Нацкамісіі.

Абскарджаньне перад Прэзыдыумам ЦВК БССР пастановы прэзыдыуму акрвыканкому не спыняе яе выкананьня.

13. Да кіраўнікоў ведамстваў, устаноў і арганізацыяў, якія не выявілі актыўнасьці, альбо невыстарчальна выявілі яе ў справе ажыцьцяўленьня дырэктыў па нацыянальнай палітыцы, Прэзыдыумам ЦВК БССР, а ў акругах і раёнах прэзыдыўмамі акруговых выканаўчых камітэтаў ужываюцца, па прадстаўленьні Нацкамісіі ЦВК БССР і акруговых нацкамісій, наступныя меры ўплыву:

а) папярэджаньне;
б) вымова;
в) адданьне пад дысцыплінарны суд;
г) зьмяшчэньне на ніжэйшую пасаду;
д) зьняцьце з адказнае працы на тэрмін;
е) зьняцьце з адказнае працы.

14. Меры ўплыву адносна супрацоўнікаў правяраемых устаноў і арганізацый ужываюцца на падставе фактаў, устаноўленых праверачнымі камісіямі (яўнае адмаўленьне ад вывучэньня беларускай мовы і г. д.). Гэта датычыцца і тых супрацоўнікаў, якія павінны абслугоўваць іншыя нацыянальнасьці.

15. У паказаных у папярэднім пункце выпадках, адносна супрацоўнікаў ўстаноў і арганізацый могуць ўжывацца наступныя меры:

а) папярэджаньне аб звальненьні з прызначэньнем пэўнага тэрміну дзеля вывучэньня беларускай мовы:
б) звальненьне з пасады.

У в а г а. Пры вызначэньні меры ўплыву адносна супрацоўнікаў устаноў і арганізацый павінны прымацца пад увагу прычыны невывучэньня, альбо слабага вывучэньня беларускай мовы.

16. Згодна пункту 13, раздзелу 1-га пастановы 2-й Сэсіі ЦВК БССР VI-га склікаяньня, устанавіць, што адміністрацыя ўстаноў і арганізацый, тэрмін пераходу якіх на беларускую мову ўжо скончыўся, не павінна прымаць на службу новых супрацаўнікоў, не ўладаючых здавальняюча беларускай мовай. У выключных выпадках належыць кіравацца ўвагаю да пункту 13, раздзелу 1-га пастановы 2-й Сэсіі ЦВК БССР VI-га скліканьня.

17. З прычыны набліжэньня тэрміну (15 ліпеня 1927 г.) аканчальнага пераходу паказаных у пункце «в» арт. 7, раздзелу 1-га пастановы 2-й Сэсіі ЦВК БССР VI-га скліканьня ведамстваў, устаноў і арганізацый БССР на беларускую мову і ў мэтах забясьпечаньня сваечасовага і безбалючага правядзеньня беларусізацыі ў гэтых ведамствах, установах і арганізацыях,—прапанаваць кіраўнікам іх устрымліівацца ў далейшым ад прыманьня на службу новых супрацоўнікаў, якія не ўладаюць беларускай мовай. Гэтая мера не стасуецца да асоб, якія звальняюцца ў бестэрміновы водпуск з Чырвонай арміі, якія пры паступленьні на службу ў вышэйпамянёныя ведамствы, установы і арганізацыі абавязваюцца ў шэсьцімесячны тэрмін вывучыць беларускую мову.

18. Агульнае кіраўніцтва праверачнай працай і нагляд за пасьпяхоўным, плянамерным і правільным ходам яе ўскласьці на Нацыянальную Камісію ЦВК БССР.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Старшыня Савету Народных
Камісараў БССР **Яз. Адамовіч.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **З. Чарнушэвіч.**

18 верасьня 1926 г.
гор. Менск.

---

## ЗЬМЕСТ.

---

